ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

№ 19





## XVII ГАДАВІНА ОКЦЯБРА

МЕНСК

Выдавецтва ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА"

1934



ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ
ДВУХТЫДНЕВІК
ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 19

15-е КАСТРЫЧНІКА 1934 г.



ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:
Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б, пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.

# 17 год Вялікай соцыялістычнай Окцябрскай рэвалюцыі

17 год таму назад пролетарыят былой Расійскай Імперыі ў саюзе з беднатой, пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, на чале з вялікімі правадырамі сусветнага пролетарыята, вялікімі палкаводцамі пролетарскай рэволюцыі—Леніным і Сталіным—атрымаў перамогу сусветнага значэння. Ён перамог у барацьбе за ўладу. Перамагла Вялікая соцыялістычная Окцябрская рэволюцыя.

> «Сусветнае значэнне Окцябрскай рэволюцыі заключаецца не толькі ў тым, што яна з'яўляецца вялікім пачынам адной краіны ў справе прарыву сістэмы імперыялізма і першым ачагом соцыялізма ў акіяне імперыялістычных краін, але таксама і ў тым, што яна складае першы этап сусветнай рэволюцыі і магутную базу яе далейшага разгортвання» **(Сталін).**

Імперыялісты і эксплаатататары ўсяго свету злучыліся, каб сцерці з твару зямлі, патапіць у крыві рабочых і працоўных сялян маладую пролетарскую дзяржаву. Фронты грамадзянскай вайны ахапілі кальцом усе межы Совецкай Расіі. Драпежнікі сусветнага імперыялізма, белагвардзейцы ўсіх колераў, нацыяналістычная контррэволюцыя накінуліся, як зграя шакалаў, на рабочых і працоўных сялян краіны дыктатуры пролетарыята.

Але пераможцамі ў грамадзянскай вайне выйшлі пролетарыят і працоўнае сялянства, даўшыя сваіх лепшых сыноў для абароны са зброяй у руках сваёй соцыялістычнай бацькаўшчыны, апіраючыся на брацкую дапамогу і падтрыманне сусветнага пролетарыята.

Кіраўніком і арганізатарам гэтай сусветнай перамогі рабочага класа была вялікая партыя Леніна і Сталіна. Пад кіраўніцтвам гэтай партыі рабочы клас і працоўнае сялянства, закасаўшы рукавы, прыступілі да соцыялістычнага будаўніцтва.

Уступаючы ў 18-ы год Вялікай Окцябрскай рэволюцыі, пролетарыят і калгаснае сялянства СССР з гонарам азірнуцца на пройдзены шлях, на той вялікі будынак, які яны пабудавалі, імя якому СССР—бацькаўшчына працоўных усяго свету, ачаг сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

> «СССР ператварыўся ў корані, скінуў з сябе аблічча адсталасці і сярэдневякоўя. З краіны аграрнай ён стаў краінай індустрыяльнай. З краіны дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі ён стаў краінай калектыўнай, буйнай, механізаванай сельскай гаспадаркі. З краіны цёмнай, няграматнай і некультурнай ён стаў, вярней становіцца, краінай граматнай і культурнай, пакрытай агромнаю сеткай вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых школ, дзеючых на мовах нацыянальнасцей СССР» **(Сталін).**

Соцыялізм стаў адзіна пануючай і камандуючай сілай ва ўсёй нашай народнай гаспадарцы.

Гэтыя перамогі сталі магчымымі толькі дзякуючы таму, што барацьбу за гэтыя перамогі ўзначальвала, арганізавала і натхняла партыя Леніна і Сталіна, дзякуючы большэвіцкаму кіраўніцтву ленінскага ЦК нашай партыі, дзякуючы мудраму кіраўніцтву нашага вялікага Сталіна, у бязлітаснай барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, а правым ухілам—агентурай кулака, з усякага роду апартунізмам, гнілым лібералізмам, хістаннямі і т. д.

Расце міжнароднае значэнне СССР. Рост магутнасці нашай краіны, яе сілы і здольнасці даць руйнуючы, узброены адпор усякім спробам нападу з боку якой-небудзь імперыялістычнай краіны ўзнялі высока яе прэстыж, як сусветнай сілы. Гэта вымушаны прызнаваць нават нашыя ворагі. Значэнне СССР, як першаступеннага фактара ўсеагульнага міру, расце з кожным днём. І тыя капіталістычныя краіны, якія не зацікаўлены ў даны перыяд у вайне, павінны звярнуць свае погляды на СССР.

І гэта тады, калі капіталістычны свет, падточваемы з кожным днём усё больш эканамічным крызісам і крызісам усёй капіталістычнай сістэмы, перад тварам росту комунізма ва ўсіх капіталістычных краінах, перад тварам нарастаючай рэволюцыйнай барацьбы павінен зварочвацца да апошняга сродку—да фашызма, да фашысцкага тыпу дыктатуры буржуазіі.

* * *

Окцябрская рэволюцыя прынесла соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне раней прыгнечаным народам, аб'яднаўшы шматмільённыя масы працоўных розных нацыянальнасцей пад сцягам інтэрнацыяналізма, стварыўшы вялікі Совецкі саюз. БССР з'яўляецца неадлучнаю часткай СССР.

Перамога сусветнага значэння, атрыманая БССР, ёсць рэзультат правядзення, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б, ленінскай нацыянальнай палітыкі, палітыкі, атрымаўшай праверку ў баях за Окцябр, у баях за будаўніцтва на працягу 17 год адзінага ў свеце соцыялістычнага грамадства. Шматлікія народы, насяляючыя Совецкі саюз, народы, якія сотнямі год прыгняталіся і з'яўляліся аб'ектам самай зверскай эксплаатацыі, народы, якія цэлымі вёскамі выміралі і руйнаваліся, не вытрымлівалі гнёту царызма, рускага і замежнага капітала—гэтыя народы ў рэзультаце перамогі пролетарскай рэволюцыі, дзякуючы правільнаму правядзенню ленінскай нацыянальнай палітыкі, выходзяць на перадавую пазіцыю будаўніцтва соцыялізма, росту культуры, вылучэння з глыбін народных мас самых таленавітых арганізатараў, палітыкаў, вучоных і т. д.

БССР—былая царская калонія, жабрацкая краіна—дабілася велізарнейшых поспехаў на ўсіх участках нацыянальна-культурнага будаўніцтва, дзякуючы таму, што комуністычная партыя большэвікоў Беларусі, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і тав. Сталіна, няўхільна праводзіла палітыку збліжэння працоўных, палітыку ўмацавання СССР—бацькаўшчыны працоўных усяго свету. Пры брацкай дапамозе працоўных усяго Совецкага саюза, пад кіраўніцтвам КП(б)Б—БССР развівала сваю прамысловасць і сельскую гаспадарку і ў нагу з усім Совецкім саюзам рэканструюе на соцыялістычных пачатках усю сваю народную гаспадарку.

Тое, што ў БССР народная гаспадарка мае выключна велізарныя

дасягненні; той факт, што прамысловасць БССР узрасла ў 10 з лішнім раз у параўнанні з даваенным часам, дзве трэція часткі пролетарыята якой складаюць беларусы; той факт, што совецкая ўлада ў Окцябры ўсю зямлю, дзве трэція часткі якой раней належалі памешчыкам і кулакам, перадала працоўнаму сялянству; той факт, што зараз БССР мае 65 проц. калектывізаваных гаспадарак і на гэтай падставе—ліквідацыю кулацтва, як класа, велізарны рост матар'яльна-культурнага ўзроўню працоўных мас сялянства—усё гэта ёсць матар'яльнае выражэнне перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі, плады непасрэднай дапамогі пролетарыята ўсяго Совецкага саюза, усё гэта—рэзультат дзейнасці ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Працоўныя БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пачынаючы з Окцябра па сучасны момант, практычна рэалізоўвалі ўказанні тав. Сталіна аб тым, што **«неабходна, каб акрамя школ і мовы, расійскі пролетарыят** прыняў усе меры для таго, каб на акраінах, адсталых у культурных адносінах рэспубліках..., былі пабудаваны ачагі прамысловасці». Партыя, выконваючы гэта ўказанне тав. Сталіна, практычна вырашала асноўную задачу, што стаіць перад пролетарыятам БССР: умацаванне БССР, якая ляжыць на мяжы паміж фашысцкай Польшчай і Совецкім саюзам, ліквідацыю эканамічнай і культурнай адсталасці Беларусі—былой калоніі Расійскай імперыі.

Адным з яркіх паказчыкаў эканамічнага росквіту БССР з'яўляецца сістэматычны рост дзяржаўнага бюджэта. Даходы ў 1934 годзе ў параўнанні з 1927—28 гг. узраслі амаль ў пяць раз. За два гады другой пяцігодкі расходы ў БССР склалі суму, амаль роўную расходам першай пяцігодкі. Зроблена капітальных укладанняў ва ўсе галіны народнай гаспадаркі: за першую пяцігодку—1 мільярд рублёў, за 1933 і 1934 гг.—звыш 400 млн. рублёў. Рост народнай гаспадаркі БССР пацвярджаецца і данымі росту паасобных галін народнай гаспадаркі.

Валавая прадукцыя цэнзавай прамысловасці ўзрасла ў параўнанні з даваенным часам у 10,2 разы, а ў параўнанні з 1927—28 гг.— амаль у 6 раз. Працэс соцыялістычнай рэканструкцыі прамысловасці можна праілюстраваць наступнымі данымі. Асноўныя фонды ўсёй прамысловасці з 1927-28 гг. па 1932 год павялічыліся ў 4 разы. А калі ўзяць па чатырох наркаматах, то з 1927-28 гг. па 1933 год павелічэнне будзе амаль у 5 раз.

Беларуская прамысловасць, якая раней была, галоўным чынам, саматужнай, з невялікай колькасцю рабочых, вырасла ў буйную машынную вытворчасць. Калі ў 1913 годзе было прадпрыемстваў з колькасцю да 100 рабочых—88,8 проц., то цяпер прадпрыемстваў з невялікай колькасцю (да 100 чалавек) рабочых толькі 6 проц. Затое прадпрыемствы з колькасцю рабочых ад 1000 да 3-х тысяч і вышэй—больш 50 проц. усіх прадпрыемстваў Беларусі. А такіх у даваенны час зусім не было.

У першай і ў пачатку другой пяцігодкі сярод рэканструяваных і новапабудаваных прадпрыемстваў мы маем такія буйныя, як Гомсельмаш, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі», Магілеўская шоўкавая фабрыка, Касцюковіцкі шклозавод і т. д. і т. д. Побач з гэтым на прадпрыемствах БССР арганізаваны новыя вытворчасці. Як, напрыклад, для сельскай гаспадаркі—сіласарэзкі, бульбакапалкі, корнерэзкі, сілосныя вежы; для прамысловасці—свідравальныя варштаты, торфмашыны, абутковыя машыны, экстракт дубільны, малочная кіслата і т. д. і т. д.

Рост соцыялістычнай прамысловасці, павышэнне прадукцыйнасці працы суправаджаюцца няўхільным ростам заработнай платы, павышэннем дабрабыту рабочых. Так, напрыклад, фонд заработнай платы рабочых і служачых павялічыўся ў параўнанні з 1927-28 гг. у чатыры з паловай разы. Сярэдняя гадавая зарплата на аднаго рабочага за гэты-ж час павялічылася больш як у два з паловай разы. Ужо ў канцы першай пяцігодкі расходы на соцыяльнае страхаванне ўзраслі ў пяць раз.

Соцыялістычная рэканструкцыя прамысловасці, правільная палітыка партыі на вёсцы забяспечылі паварот асноўных мас сялянства на шлях калектывізацыі і на гэтай базе—ліквідацыі кулацтва, як класа.

Калі ў 1928 годзе ў БССР было калектывізавана 0,72 проц. усіх гаспадарак, то ў 1934 годзе мы маем 65 проц. Апошні год даў новы прыліў у калгасы на 15 проц.

Наколькі ўзрасла тэхнічная ўзброенасць сельскай гаспадаркі БССР можна бачыць з наступных даных.

Магутнасць трактарнага парка ўзрасла ў параўнанні з 1928 годам у 33 разы. З года ў год расце ўраджайнасць калгасных палёў. Так, напрыклад, пасеўная плошча ў 1933 годзе ў параўнанні з 1931 годам узрасла на 4,3 проц., а валавыя зборы лёну—на 12,3 проц., бульбы—на 14,7 проц., жыта—на 29,2 проц., ячменю—на 67,3 проц. І ў галіне жывёлагадоўлі мы маем у 1934 г. рад дасягненняў, якія выражаюцца ў зруху, які намеціўся ў галіне росту пагалоўя жывёлы ў калгасным і соўгасным сектары, асабліва буйнай жывёлы.

У сувязі з ростам ураджайнасці, павышэннем працдысцыпліны і палепшаннем арганізацыі працы значна ўзраслі даходы калгасаў і калгаснікаў. Так, у 1932 годзе на адзін працадзень у сярэднім прыпадала: 1—2 кгр. зернавых і 3—4 кгр. бульбы, а ў 1933 годзе ў пераважнай большасці калгасаў—3—5 кгр. зернавых і 6—10 кгр. бульбы. У 1934 годзе даходы калгаснікаў ўзраслі ў яшчэ значна большай ступені. Паасобныя калгасы атрымліваюць па 7 кгр. зернавых і 12 кгр. бульбы на працадзень.

Таваразварот, які з'яўляецца магутным фактарам далейшага росту народнай гаспадаркі, умацавання сувязі паміж горадам і вёскай, палепшання матар'яльнага становішча шырокіх працоўных мас, узрос у 1934 годзе ў параўнанні з 1933 годам на 38 проц.

Тэмпы росту народнай гаспадаркі Беларусі больш шпаркія ў параўнанні з тэмпамі росту народнай гаспадаркі Совецкага саюза ў цэлым. Так, напрыклад, калі ў 1913 годзе валавая прадукцыя прамысловасці Беларусі складала 0,87 проц. у адносінах да ўсёй прамысловасці царскай імперыі, у 1928 годзе—1,12 проц. да ўсёй прамысловасці Совецкага саюза, то ўжо ў 1932 годзе яна складала 2,5 проц. да прамысловасці ўсяго Саюза.

Гэтыя дасягненні паказваюць найбольш наглядна, як БССР, пры непасрэднай дапамозе працоўных ўсяго Саюза, ідзе шпарка па шляху канчатковай ліквідацыі сваёй адсталасці, вынікаючай з былога каланіяльнага становішча Беларусі.

Правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі забяспечыла, побач з ростам эканомікі, і росквіт культуры. Краіна, у якой граматных было не больш 30 проц. насельніцтва, стала краінай суцэльнай граматнасці і першай у Саюзе ўвяла ўсеагульнае навучанне. Адсутнасць беларускіх школ да Окцябра—і навучанне ўсіх дзяцей школьнага ўзросту на роднай мове, далучэнне іх да ведаў і соцыялістычнай культуры пасля Окцябра. Ніводнай вышэйшай навучальнай установы да Ок-

цябра і 26 ВНУ і ВТНУ, 15 тысяч студэнтаў, 30 тысяч студэнтаў-рабфакаўцаў—пасля Окцябра. Акадэмія навук і рад навукова-даследчых інстытутаў—дзецішча совецкай улады—ёсць рэзультат велізарнага росквіту культуры ў БССР.

У БССР за гады рэволюцыі мы маем агромны рост беларускай літаратуры, якая ўсё больш і больш заваёўвае сімпатыі працоўных мас Беларусі. Росквіт мастацтва, тэатраў (у БССР 9 тэатраў). Рост расходаў на социяльна-культурнае абслугоўванне працоўных мас за першую пяцігодку павялічыўся ў чатыры разы, а ў 1934 годзе, у параўнанні з 1932 годам, дае павелічэнне на 66 проц. Расходы на ахову здароўя працоўных у 1933 годзе, у параўнанні з 1927-28 гг., павялічыліся ў чатыры разы.

Мяняюць свой твар гарады. Возьмем хоць-бы чырвоную сталіцу БССР—Менск. У мінулым—захудалы губернскі горад з пераважаючай рамеслена-саматужнай вытворчасцю, горад царскіх чыноўнікаў і папоў, купцоў і мяшчанства—ператварыўся ў горад буйнай прамысловасці: 52 буйныя прадпрыемствы з дзесяткамі тысяч рабочых.

Менск стаў таксама і буйным культурным цэнтрам: 12 вышэйшых навучальных устаноў, 17—сярэдніх; ўзрасла непамерна колькасць школ, рабфакаў, тэхнікумаў, дзіцячых садоў і т. д.; працуе рад тэатраў (беларускі, яўрэйскі, польскі, тэатр Оперы і балета). Нанова створана комунальная гаспадарка. Выгляд горада непазнаваемы—унівэрсітэцкі гарадок, клінічны гарадок, Дом урада, дзяржаўная бібліятэка, Дом друку, рабочыя дамы, трамвай. Вуліцы пакрываюцца клінкерам, заліваюцца асфальтам і т. д. За сталіцай следуюць другія, стаўшыя пасля Окцябрскай рэволюцыі буйнымі, прамысловыя цэнтры—Гомель, Віцебск і т. д.

У барацьбе за социялізм, на аснове нашых поспехаў на ўсіх участках социялістычнай будоўлі, пад кіраўніцтвам партыі, растуць новыя людзі—змагары за справу социялізма, вырошчваюцца актыўныя будаўнікі бяскласавага социялістычнага грамадства з глыбінь шырокіх народных мас. Культурнае будаўніцтва, навука, мастацтва сталі справай мільёнаў працоўных, якія са свайго асяроддзя вылучаюць камандны склад, арганізатараў социялістычнай гаспадаркі, выдатных вучоных, літаратараў, мастакоў, будаўнікоў социялістычнага грамадства.

Буйны машынабудаўнічы завод «Пролетарый» у Гомелі—у мінулым майстэрня Фрумiна з яе неабмежаванай эксплаатацыяй, з ужываннем асабіста гаспадаром рукапрыкладства, пабояў, апойвання рабочых і т. д.—цяпер перадавы завод з навейшай тэхнікай. Замест выпрацоўкі пры гаспадары Фруміне медных кранаў і вёдзер, завод «Пролетарый» выпрацоўвае водамеры, растворамешалкі, мотапомпы «Вертынгтон», пяціагрэгатныя печы «Пінча» і—гонар завода—валаапрацоўчы варштат «Калава».

Але завод «Пролетарый», ідучы ў перадавых буйных прадпрыемстваў БССР, заваяваўшы ў спаборніцтве за лепшыя ўзоры социялістычнай вытворчасці рад сцягаў, ганарыцца і кадрамі, якія ён вырасціў у баях за рост завода, за промфінплан, за асваенне выпрацоўваемай прадукцыі, за ауладанне тэхнікай. Дырэктарам яго з'яўляецца тав. Фішбейн, той самы таварыш, які дваццаць год таму назад прышоў 14-гадовым падлеткам і ледзь трапіў у майстэрню Фруміна, каб папрабаваць усе «прыгожасці» Фрумінскай эксплаатацыі. На гэтым заводзе рабочыя далі са свайго складу рад інжынераў, многія з іх цяпер працуюць на буйнейшых прадпрыемствах СССР. Яны выраслі

ў баях за аўладанне вытворчасцю, пры чым не адзін з іх атрымаў адукацыю, не адрываючыся ад вытворчасці.

Завод налічвае многа старых рабочых, лепшых змагароў за соцыялістычную вытворчасць. Звярнуўшыся з Масквы, стары майстар **Агранат** у чэсць тав. Сталіна (стары майстар з хваляваннем расказваў пра тое, што ён меў шчасце бачыць тав. Сталіна) уласнымі рукамі зрабіў два паравыя цыліндры да мотапомп. І гэтыя два цыліндры паслужылі пачаткам стварэння к XVII з'езду партыі фонда імя Сталіна на 15 тысяч рублёў звыш плана.

На заводзе расце новае маладое пакаленне, якое ўпарта і з радасцю авалодвае вытворчасцю, пераймаючы прагна вопыт старых кадравікоў рабочых і вылучае ў сваю чаргу са свайго асяроддзя лепшых, здольнейшых змагароў за соцыялістычную вытворчасць. Комсамольцы завода атрымалі грамату ЦК ВЛКСМ.

Вось другое буйнае прадпрыемства—дзецішча першай пяцігодкі—чырвонасцяжная Магілеўская шоўкавая фабрыка з пяцітысячным калектывам, адна з буйнейшых шоўкавых фабрык СССР, трымаючая ў сваіх руках некалькі пераходных сцягоў рэспубліканскага і саюзнага значэння. Пачынаючы з будаўніцтва фабрыкі, яе абсталявання і ў далейшым пры асваенні новай вытворчасці, з дня ў дзень, майстар і інжынеры, ахопленыя пафасам соцыялістычнага будаўніцтва, перамагаючы ўсе цяжкасці, беручы адну непрыступную цытадэль за другою,—дабіліся вялікіх вынікаў.

Вось **Хлістукоў**—у мінулым батрак (комсамолец, цяпер член партыі)—цяпер майстар ксантатнага цэха. **Федзьяніна**—раней прыбіральшчыца, цяпер аўладала адной са складанейшых кваліфікацый. Рабочы калектыў вылучыў з сваіх радоў не аднаго вынаходца і рацыяналізатара. Гэтыя энтузіясты і перадавікі сям'і ўдарнікаў—**Парэпка, Белякоў, Феоністаў** і т. д.—карыстаюцца велізарнай любоўю і паватай усяго рабочага калектыва. Толькі па аднаму прадзільнаму цэху і толькі за адзін квартал у гэтым годзе рацыяналізатарскія прапановы рабочых-вынаходцаў даюць гадавы матар'яльны эфект ў 20 тыс. рублёў. І ў барацьбе за якасць ударнікі дабіліся значных рэзультатаў. На падставе творчай ініцыятывы ўдарнікаў фабрыка дае зараз прадукцыі першага гатунку замест 50 проц. па плану—60 проц.

Узначальваюць усю барацьбу за промфінплан, за тэхніку, за культуру партыйныя калектывы. І на заводзе «Пролетарый», і на шоўкавай фабрыцы ёсць рад узораў работы. Так, напрыклад, партыйная арганізацыя Магілеўскай шоўкавай фабрыкі праявіла ініцыятыву і паказала ўзор укаранення і правядзення палітдня, як значнага фактара пастаноўкі масава-палітычнай работы, і т. д.

Мы маглі-б працягваць спіс буйнейшых прадпрыемстваў БССР, дзе, навучаючыся, перамагаюць цяжкасці, змагаючыся за аўладанне новымі машынамі, новай тэхнікай, вырастаюць ударнікі соцыялістычнага будаўніцтва, барацьбіты за соцыялізм. Упарта і настойліва ўдарнікі і энтузіясты соцыялістычнага будаўніцтва бяруцца за кнігу, газету, наведваюць розныя навучальныя і культурныя ўстановы. Ці-то адбываецца з'езд совецкіх пісьменнікаў, ці перамога герояў нашага вялікага Саюза над суровай Арктыкай, ці ўмацаванне міжнароднай магутнасці СССР, ці гераічная барацьба іспанскага пролетарыята з фашызмам—усё гэта выклікае велізарны інтарэс і неадкладны водгук сярод рабочых, прагна ўнікаючых ва ўсе дэталі такіх і падобных ім падзей.

Дасканалыя ўзоры барацьбы за перамогу соцыялізма, за светлую будучыню паказваюць знатныя людзі калгасных палёў. Возьмем к прыкладу Неймацьянскі сельсовет, Сенненскага раёна, які першым у рэспубліцы поўнасцю выканаў план ільназагатовак, здаўшы дзяржаве высокаясны лён. Перадавыя барацьбіты, ударнікі соцыялістычнага ільнаводства Неймацьянскага сельсовета маюць поўнае права гаварыць, што яны дабіліся таго, каб «ільняны працадзень стаў самым каштоўным, самым аўтарытэтным». Ударнікі калгасных палёў, як напрыклад, лепшы сушыльшчык Ігнат **Балатковіч**, лепшая сартоўшчыца калгаса «Фімінічы» Арына **Пракаповіч** і т. д. і т. д. ідуць у перадавых радах барацьбы за соцыялістычнае ільнаводства. Перадавыя барацьбіты за аўладанне агратэхнікай перадаюць свой вопыт другім калгасам і калгаснікам. Так, напрыклад, вопытнейшы намеснік старшыні калгаса «Чырвоны араты»—Арына **Мурашко** перадае свой вопыт калгасу «Серкуці».

Рост будаўніцтва соцыялізма ў БССР суправаджаўся ростам і ўмацаваннем КП(б)Б—аднаго з атрадаў ВКП(б). У барацьбе з класавымі ворагамі, у барацьбе за калектывізацыю, ліквідацыю кулацтва, як класа, у барацьбе за аўладанне тэхнікай, за разгорнутае наступленне соцыялізма па ўсяму фронту расла і загартоўвалася партыя большэвікоў Беларусі. Калі ў 1924 годзе КП(б)Б налічвала ўсяго 8.625 членаў і кандыдатаў партыі, то ў 1934 годзе яна вырасла ў арганізацыю, якая налічвае да 37.527 членаў і кандыдатаў партыі, не лічачы чыгуначнікаў, прычым 54 проц. арганізацыі—беларусы. Калі ў 1924 годзе было ўсяго 538 ячэек, то ў 1934 годзе партыйных точак ў Беларусі налічваецца 8.240, з якіх пярвічных партыйных арганізацый—2129.

Такавы велізарныя поспехі БССР. Паглядзім, аднак, што адбываецца ў гэты-ж час у суседняй з намі фашысцкай Польшчы. Польшча з'яўляецца краінай, дзе найбольш ярка выявіўся крызіс капіталізма. У Польшчы крызіс ахапіў, за выключэннем ваеннай, усе галіны прамысловасці. З кожным месяцам павялічваецца колькасць зачыненых фабрык, а разам з тым і колькасць беспрацоўных. Паводле афіцыяльнай польскай статыстыкі, у пачатку 1934 года колькасць беспрацоўных складала 404 тыс. чал. На самай справе беспрацоўных у Польшчы каля мільёна чалавек.

Асабліва паралізаваў крызіс эканамічнае жыццё Заходняй Беларусі—калоніі польскага фашызма. Тут жабрацтва, голад і беспрацоўе набылі надзвычайныя размеры, бо к капіталістычнаму гнёту прыбаўляецца яшчэ і нацыянальна-каланіяльны гнёт. У інтарэсах польскай прамысловасці нават існуючыя прадпрыемствы ў Заходняй Беларусі зачыняюцца. Так, напрыклад, зачынены за апошнія гады запалкавыя фабрыкі ў Вільні, Беластоку і Слоніме. Калі прыняць агульны паказчык прамысловасці Заходняй Беларусі ў 1928 годзе за сто, то ў 1931 годзе зніжэнне дасягае 60 проц., а ў 1933 годзе—38 проц., г. зн. на две трэція.

Зачыненне фабрык яшчэ больш павялічвае армію беспрацоўных. Паводле даных, колькасць занятых рабочых паменшылася з 1929 г. па 1933 год роўна на 50 проц. Армія беспрацоўных фактычна больш колькасці занятых рабочых. Побач з гэтым безупынна скарачаецца заработная плата працуючых. Такаво становішча ў прамысловасці.

У сельскай гаспадарцы не лепш. Сельская гаспадарка Заходняй Беларусі даведзена да поўнага распаду. У рэзультаце сельска-гаспадарчага крызіса, грабежніцтва польскіх акупантаў растуць жабрацтва

і голад сялянства Заходняй Беларусі. Голад у вёсках Заходняй Беларусі набыў такія памеры, што нават буржуазны друк вымушан пра гэта пісаць.

Так, напрыклад, польская буржуазная газета «Глос Віленскі» піша:

> «Урадавая камісія сцвярджае, што ў адной Віленшчыне ёсць 100 тысяч чалавек, якія галадаюць. Асабліва галадаюць у вёсках Браслаўскага, Пастаўскага і Віленскага паветаў».

«Нажніцы» між цэнамі сельска-гаспадарчых прадуктаў і прамысловых тавараў дасягнулі агромных памераў. Даволі сказаць, што калі ў 1927-28 гг. за 10 кгр. солі селянін плаціў 8 кгр. жыта, то ў гэтым годзе ён вымушан плаціць 22 кгр. Польскі фашызм праводзіць у Заходняй Беларусі палітыку нечуванага палітычнага і нацыянальнага гнёту. Ліквідаваны ўсе беларускія школы, культурна-асветныя арганізацыі і т. д. Так жывуць рабочыя і сяляне ў Заходняй Беларусі.

Такім чынам, мы бачым, якое глыбокае бяздонне раздзяляе два грамадскія лады, два светы—свет соцыялізма і свет капіталізма.

КП(б)Б дабілася гэтых велізарных поспехаў у рэзультаце няўхільнага праvядзення генеральнай лініі партыі, пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і тав. **Сталіна**, ажыццяўляючы, дзякуючы непасрэднай дапамозе пролетарыята СССР, рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі на соцыялістычных падставах. КП(б)Б дабілася гэтых поспехаў у барацьбе за пролетарскі інтэрнацыяналізм з усімі відамі буржуазнага нацыяналізма, з вялікадзяржўным шавінізмам, беларускім нацыяналізмам—галоўнай небяспекай у БССР на даным этапе і з усімі іншымі відамі мясцовага нацыяналізма, імкнучыся сарваць соцыялістычнае будаўніцтва ў БССР у імя рэстаўрацыі капіталізма ў саюзе з імперыялістычнымі інтэрвентамі.

Беларускі нацыянал-дэмакратызм, пачынаючы з Окцябра па гэты дзень, вёў паслядоўную палітыкуператварэння БССР у калонію польскага імперыялізма, палітыку адрыву БССР ад СССР, палітыку аднаўлення капіталізма ў БССР. Нацдэмы вялі і вядуць работу, накіраваную на распальванне нацыянальнай розні паміж працоўнымі Совецкага саюза, работу, якая з'яўляецца самай подлай зброяй буржуазіі ў яе барацьбе супроць пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята. Нацдэмы вялі падрыўную контррэволюцыйную работу ў розных напрамках. Нацдэмы праводзілі кулацкую прышчэпаўскую хутарызацыю з мэтай падрыхтоўкі соцыяльнай базы ў асобе беларускага кулацтва для інтэрвенцыяніцкіх планаў імперыялістаў. Нацдэмы вялі шпіёнскую работу, стварылі контррэволюцыйную арганізацыю БНЦ («Беларускі Нацыянальны Цэнтр»), якая ставіла сабе задачу—падрыхтаваць глебу для паспяховай інтэрвенцыі імперыялістаў і адрыву БССР ад СССР. Нацдэмы разгарнулі ідэалагічную падрыхтоўку інтэрвенцыі, разгарнулі справу падрыхтоўкі сваіх кадраў, спрабавалі захапіць у свае рукі работу паасобных наркаматаў (Наркамзем, Трактарацэнтр, Наркамасветы, Акадэмія Навук і інш.). У сваёй рабоце нацдэмы блакіраваліся з вялікадзяржаўнымі нацыяналістамі, яўрэйскімі, польскімі і інш.

Усю гэтую работу нацдэмам удавалася праводзіць дзякуючы аслабленню большэвіцкай пільнасці ў паасобных звеннях КП(б)Б, дзякуючы аслабленню барацьбы з мясцовым нацыяналізмам. Партыя разграміла нацыяналістаў, ускрыла іх контррэволюцыйную, шкодніц-

кую работу, выкрыла іх перад працоўнымі масамі Беларусі. Аднак, рэшткі нацыяналістычных элементаў працягваюць весці сваю работу.

Поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР, набліжэнне канчатковай ліквідацыі соцыяльнай базы, харчуючай буржуазна-нацыяналістычныя элементы, выклікаюць яшчэ большае абвостранне класавай барацьбы ў краіне і іх супраціўленне далейшым поспехам у пераможным соцыялістычным будаўніцтве.

Толькі апартуністы могуць думаць, што з ростам соцыялізма крывая класавай барацьбы ідзе ўніз і патухае. Паміраючыя класы са знішчэннем рэштак той базы, якою яны харчаваліся, выклікае ў іх шалёнае супраціўленне. Класавы вораг, маскуючыся, спрабуе ўмацавацца на паасобных участках. Кулацкія элементы ў калгасе, разбазарванне дзяржаўных прадуктаў, невыкананне абавязацельстваў перад дзяржавай, сабатаж у хлебазакупках, утойванне сваіх даходаў, скрытая эксплаатацыя паасобных працоўных вёскі, спроба скарыстаць калгас, як шырму для антысовецкай работы, процістаўленне інтарэсаў калгаса інтарэсам дзяржавы, факты разбазарвання і жульніцтва ў калгасах—усё гэта формы класавай барацьбы на даным этапе, формы барацьбы супроць разгорнутага наступлення соцыялізма, формы барацьбы класавага ворага, які часцяком прыкрываецца фальшыванацыянальным флагам.

* * *

XVII гадавіна Окцябрскай рэволюцыі супадае з важнейшай палітычнай кампаніяй—перавыбарамі советаў, падрыхтоўкай да VII Усесаюзнага з'езда Советаў. Перавыбарчая кампанія павінна забяспечыць яшчэ большае ўцягненне мільёнаў мас у будаўніцтва соцыялізма, разгортванне пролетарскай дэмакратыі, рост і ўмацаванне дыктатуры пролетарыята. Перавыбарчая кампанія праходзіць пад знакам выканання і перавыканання промфінплана, разгортвання соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, аўладання тэхнікай, палепшання якасці прадукцыі, разгортвання таваразвароту, завяршэння ўсіх сельскагаспадарчых кампаній кожным здатчыкам у вёсцы.

БССР мае ў 1934 годзе рад велізарнейшых дасягненняў. Пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, на чале з тав. **Гікало**, працоўныя БССР своечасова правялі сеў, арганізавана правялі ўборку, выканалі свае абавязкі перад дзяржавай, на-днях закончылі адгрузку бульбы пролетарскім цэнтрам, змагаюцца за паспяховае выкананне планаў хлебазакупкі.

Аднак, сярэднія лічбы не павінны ўтойваць тых недахопаў, якія ёсць у паасобных раёнах. Трэба дабіцца, каб кожны здатчык выканаў поўнасцю ўсе абавязацельствы перад дзяржавай. Трэба правесці агромнейшую работу па падрыхтоўцы да зімы, у прыватнасці, падрыхтоўку да зімы нашых жывёлагадоўчых ферм.

Адна з важнейшых задач, што стаяць перад КП(б)Б—гэта поўнае ажыццяўленне рашэнняў чэрвеньскага пленума ЦК ВКП(б) і ліпеньскага пленума ЦК КП(б)Б аб пад'ёме жывёлагадоўлі. Зрух, які наметціўся ў росце пагалоўя жывёлы, яўна недастатковы. Ажыццяўляючы канкрэтнае і аперацыйнае кіраўніцтва ў гэтай важнай галіне сельскай гаспадаркі, мы павінны ў бліжэйшы тэрмін дабіцца вырашэння гэтай задачы, пастаўленай тав. Сталіным на XVII з'ездзе партыі.

Беларусь, у параўнанні з іншымі рэспублікамі Саюза, значна адстае ў справе калектывізацыі. Поспехі гэтага года яўна недастатковы. Рад

раёнаў, як Чырвонаслабодскі, Нараўлянскі, Увараўіцкі, Тэрахаўскі, Гомельскі, даюць прырост калектывізацыі 1—3 проц., не гледзячы на тое, што па калектывізацыі яны з'яўляюцца самымі адсталымі раёнамі ў БССР.

Трэба рашуча пакончыць з недаацэнкай радам раёнаў калектывізацыі, дабіцца падцягвання адстаючых калгасаў, пакончыць з фактамі грубага адміністравання і разгарнуць масава-палітычную работу сярод аднаасобнікаў. Трэба на прыкладах добрых калгасаў даказваць і пераконваць у перавазе калгаснага ладу. Для гэтага трэба шырока скарыстаць зараз перавыбарчую кампанію советаў, размеркаванне даходаў у калгасах, мабілізаваўшы ўвагу партыйных і совецкіх арганізацый на разгортванне калектывізацыі.

Адначасова з гэтым неабходна самым рашучым чынам перасячы антыкалгасныя і дробнаўласніцкія тэндэнцыі ў калгасах, факты крадзежу, жульніцтва, парушэння працоўнай дысцыпліны.

Умацоўваючы адсталыя калгасы, разгортваючы масава-растлумачальную работу, трэба адначасова весці барацьбу з недаабкладаннем аднаасобнікаў, з практыкай утойвання сваіх даходаў, прадастаўляючы ўсе ільготы калгаснікам. Партыя патрабуе, каб калгаснікі на справе карысталіся прадастаўленымі ільготамі, бо гэта з'яўляецца побач з іншымі фактарамі, важнейшым момантам у справе далейшай калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР. Адначасова, самым рашучым чынам трэба выкрываць антыпартыйную пастаноўку пытання, разглядаючую ўсіх аднаасобнікаў, не ўступіўшых у калгас, як ворагаў совецкай улады.

На працягу год прамысловасць БССР не выконвала сваіх планаў. Апошні год даў вялікія зрухі ў выкананні промфінплана. Аднак, яшчэ на сёння рад галін прамысловасці плана не выконваюць. Так, напрыклад, Наркамцяжпром даў за 9 месяцаў 1934 г. 90,9 проц., а гадавога плана—74,7 проц.; Наркамлегпром за 9 месяцаў—96,4 проц., гадавога—65,8 проц.; Наркамснаб за 9 месяцаў—94,2 проц., гадавога—64,9 проц.; Наркамлес за 9 месяцаў 73,2 проц., гадавога—55,6 проц.

ЦК КП(б)Б пытанням прамысловасці аддаў выключную ўвагу. Аднак, зрухі, якія мы маем у прамысловасці БССР у гэтым годзе, яўна недастатковы. Нявыкананы і паказчыкі прадукцыйнасці працы: за 8 месяцаў выканана 97,9 проц. па Наркамцяжпрому. Задачы павышэння прадукцыйнасці працы, зніжэння сабекошту з'яўляюцца важнейшымі задачамі бліжэйшага часу. Да гэтага часу якасць прадукцыі яўна нездавальняючая.

Задача заключаецца зараз у тым, каб разгарнуць вытворчасць такой колькасці і якасці тавараў, каб задаволіць растучы попыт на іх з боку працоўных горада і вёскі. Гэты год павінен быць рашаючым у справе палепшання якасці прадукцыі. Рашуча трэба пакончыць з практыкай снабжэння працоўных нядобраякаснымі таварамі, з практыкай абважвання і абмервання спажыўца.

Мы маем у гэтым годзе велізарны рух мас за ауладанне тэхнікай. У адной толькі лёгкай прамысловасці было ахоплена тэхнічнай вучобай на 1 мая 1934 г. 16 тысяч чалавек. Аўладанне тэхнікай—рашаючы фактар павышэння прадукцыйнасці працы ў перыяд рэканструкцыі. Гэты рост ахопу тэхвучобай дае свае станоўчыя рэзультаты. У сваіх поспехах за гэты год лёгкая прамысловасць не мала абавязана таму, што найшырэйшыя масы працоўных аўладалі тэхнікай. Аднак, раз-

гортванне тэхвучобы яўна недастаткова. Велізарныя слаі працоўных яшчэ не ўключыліся ў барацьбу за аўладанне тэхнікай. Трэба павысіць якасць тэхвучобы, зрабіць яе арганічнаю часткай работы нашых прадпрыемстваў, дабіцца, каб тэхвучоба стала штодзеннаю справай усіх працоўных. Тэхвучоба павінна пранікнуць у нашы соўгасы і калгасы і павінна быць узнята на новую, больш высокую ступень.

Партыя прышла да XVII гадавіны вялікай Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі з велізарнейшымі дасягненнямі. Поспехі Совецкага саюза—ударнай брыгады сусветнага пролетарыята—з'яўляюцца агромным рэволюцыйным фактарам для сусветнага рабочага руху. Гэта абавязвае нас яшчэ больш напружыць свае сілы і дабіцца, каб 18-ты год Окцябрскай рэволюцыі даваў нам усё новыя і новыя перамогі ў будаўніцтве бяскласавага соцыялістычнага грамадства, у справе ўмацавання СССР—бацькаўшчыны працоўных усяго свету.

**Д. Ю. Конік**

# Перамагае соцыялістычная культура

## (Да вынікаў Усесаюзнага з'езда пісьменнікаў)

Адзін з найвялікшых буржуазных паэтаў перыяда ўзыходзячага капіталізма Генрых Гайне ў сваёй прамове да „Лютэцыі“ заявіў, што з жахам ён глядзіць у будучае, прадчуваючы перамогу пролетарыята, калі „яго вершы будуць растоптваць варвары“, калі з яго „Кнігі песень“ „бакалейны гандляр будзе рабіць мяшочкі і ўсыпаць у іх кофе ці нюхальны тытун для старых баб“...

Ён адначасова заявіў, што ўсё-ж унутры яго нейкая чартоўская сіла цягне да соцыялізма, „робіць на маю душу чаруючае ўражанне“, і вось я, Гайне, не магу перамагчы гэтага пачуцця, ад яго „я не магу вызваліцца“.

І вось, калі-б Гайне цяпер прысутнічаў тут на гэтым сходзе і пачуў-бы толькі што прачытаны верш работніцы тав. **Свірыноўскай**, якая з задорам і гордасцю апявае свой станок і сваю радзіму ў сваім вершы, ён-бы, вядома, убачыў, што ашукаў Гайне самога сабе.

А калі-б ён яшчэ пасля нашага сходу пабыў у сябе на радзіме, дык яго страсянулі-б карціны падпалу рэйхстага, лейпцыгскага працэса, кастры кніг найвялікшых розумаў чалавецтва, разгон пісьменнікаў, канцэнтрацыйныя лагеры, бесперапынныя забойствы тых, перамогу каго прадчуваў Гайне. Ён убачыў-бы, што для разбурэння і ломкі найвялікшых культурных каштоўнасцей, якія называў Гайне „Кнігамі песень“, „Алеандравымі гаямі“, на радзіме яго створана і дзейнічае спецыяльнае міністэрства, на чале з міністрам Геббельсам. Ён-бы стаў відушчым пасля гэтага, бо на свае вочы ўпэўніўся-б, дзе варварства і што яно сабою ўяўляе.

### Найвялікшая сусветная гістарычная падзея

На нарадзе членаў бюро ЦК КП(б)Б разам з пісьменнікамі БССР, якія прыехалі са з'езда, тав. Гікало заявіў, што „Вы, дэлегаты, з'яўляецеся **не толькі сведкамі, але і ўдзельнікамі адной з найвялікшых сусветных гістарычных падзей**“. Гэтая ацэнка Ўсесаюзнага з'езда пісьменнікаў абсалютна верная, бо гэты з'езд—сапраўды найвялікшая сусветная падзея.

Цяжка якім-бы там ні было адным выступленнем ці дакладам ахапіць усе работы гэтага з'езда нават і мне—удзельніку гэтага з'езда—пра тыя ўражанні, якія я атрымаў на з'ездзе.

Першы ўсесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў, акрамя свайго велізарнага літаратурнага значэння, мае таксама буйнейшае і палітычнае значэнне. Гэты з'езд канкрэтызаваў далейшы творчы шлях

і план дзеянняў пісьменніка ў яго наступнай і сёнешняй вялікай і рознастайнай рабоце **на карысць нашай радзіме, якую мы ствараем, як радзіму пролетарыята ўсіх краін.** Гэты з'езд аформіў і замацаваў „ужо даўно пачаты працэс аб'яднання інтэлігенцыі народаў Совецкага саюза пад сцягам Советаў, пад сцягам соцыялізма" (Стэцкі). Гэты з'езд—яшчэ адзін паказ усяму свету таго, што вялікі сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна перамог. Не было-б гэтай перамогі—не было-б з'езда совецкіх пісьменнікаў. „Такога з'езда, як гэты,—гаварыў у сваім выступленні т. **Жданаў,**—не сабраць нікому, апрача нас, большэвікоў". Першы ўсесаюзны з'езд совецкіх пісьменнікаў быў з'ездам адзінства і згуртавання пад сцягам Леніна—Сталіна. Пад гэтым сцягам совецкі пісьменнік ідзе ў нагу з рабочым класам, з калгасным сялянствам пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі наперад да канчатковай перамогі соцыялізма ў нашай краіне, да поўнай перамогі справы Леніна—Сталіна ва ўсім свеце.

Рост нашых совецкіх пісьменнікаў, поспехі нашай совецкай літаратуры абумоўлены ростам і поспехамі нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Іхны рост ёсць выражэнне росту, поспехаў і дасягненняў нашага соцыялістычнага ладу. Гэта значыць, што наша совецкая літаратура ёсць **„цела ад цела і косць ад косці нашага соцыялістычнага будаўніцтва"**. „Наша літаратура з'яўляецца самай маладой з усіх літаратур усіх народаў і краін. Разам з тым яна з'яўляецца самай ідэйнай, самай перадавой і самай рэволюцыйнай літаратурай. Няма і нідзе не было літаратуры, акрамя літаратуры совецкай, якая арганізоўвала-б працоўных і прыгнечаных на барацьбу за канчатковае знішчэнне ўсёй і ўсялякай эксплаатацыі і ярма наёмнага рабства. Няма і не было ніколі літаратуры, якая кладзе ў аснову тэматыкі сваіх твораў жыццё рабочага класа і сялянства і іх барацьбу за соцыялізм. Няма нідзе, ні ў адной краіне ў свеце літаратуры, якая абараняла-б і адстойвала-б роўнапраўе працоўных усіх нацый, адстойвала-б роўнапраўе жанчын. Няма і не можа быць у буржуазнай краіне літаратуры, якая паслядоўна разбівала-б усякае мракабесе, усякую містыку, усякую папоўшчыну і чартоўшчыну, як гэта робіць наша літаратура" (Жданаў—з прамовы на з'ездзе пісьменнікаў).

Наша совецкая літаратура, адлюстроўваючы інтарэсы нашага класа—класа пролетарыята, калгаснага сялянства,—**гэта літаратура вялікая па аднаму ўжо таму, што сам клас вялікі, таму што нашы дасягненні велізарныя.**

Зусім іншае становішча ў буржуазнай літаратуры. Крызіс і хаос у капіталістычных краінах ідзе разам з упадкам і разбурэннем буржуазнай літаратуры. Агіднейшая форма палітычнага панавання буржуазіі—**фашызм** распраўляецца з цывілізацыяй, варочаючы людзей да жахлівых і дзікіх часоў чалавечай гісторыі.

Гэтыя дзве рэзкія процілегласці двух літаратур: **літаратуры совецкай**—літаратуры класа пролетарыята, які перамагае і перамож, і **літаратуры буржуазнай**—літаратуры паміраючага класа, з найвялікшай яркасцю і сілай адзначыў Першы ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў.

Толькі наша совецкая літаратура моцная, шматгранная і аптымістычная. Яна моцная таму, што з'яўляецца літаратурай адзіна прагрэсіўнага і ўзыходзячага класа—пролетарыята. Яна шматгранная таму, што матэрыялам і тэматыкай яе з'яўляецца барацьба за соцыя-

лізм і комунізм. Яна аптымістычная таму, што служыць справе гэтай барацьбы, якая перамагае і пераможа.

Тупагаловыя буржуа і філісцёры абвінавачваюць нашу савецкую літаратуру ў тэндэнцыйнасці, заяўляючы, што іхная літаратура не тэндэнцыйная. Яны, пашлякі, не хочуць перад усімі прызнаць, што ў эпоху класавай барацьбы няма і не можа быць літаратуры апалітычнай, някласавай, нетэндэнцыйнай.

**Так, наша савецкая літаратура тэндэнцыйная,—як пра гэта не раз заяўлялі класікі марксізма,—і мы ганарымся яе тэндэнцыйнасцю таму, што наша тэндэнцыя заключаецца ў тым, каб вызваліць прыгнечаныя класы ўсяго свету—усё чалавецтва ад ярма капіталістычнага рабства.**

## У нас культура квітнее на ўсіх мовах народаў СССР

Першы ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў быў вялікім святам усіх народаў нашага Саюза, з'езд быў дэманстрацыяй сіл пролетарскай рэволюцыі.

З'езд прадэманстраваў яшчэ раз абсалютную правільнасць палітыкі нашай партыі. Пісьменнікі прышлі на з'езд з дзесяткамі надзвычайных твораў.

Даклад Алексея Максімавіча Горкага, які па праву называюць магутнаю глыбай магутных мыслей, і яго бліскучае заключнае слова, судаклады прадстаўнікоў нацыянальных літаратур Украінскай, Беларускай, Грузінскай, Азербайджанскай, Армянскай, Татарскай, Узбекскай, Туркменскай і Таджыкскай рэспублік, а таксама шматлікія надзвычайныя выступленні пісьменнікаў на з'ездзе па ўсіх яго рознастайных і глыбоказмястоўных дакладах—паказалі перш за ўсё **адінства і адзіную мэтанакіраванасць** літаратур усяго нашага вялікага Савецкага саюза. Гэтае **адзінства** выражаецца ў **пролетарскай барацьбе, а мэтанакіраванасць—у пролетарскай перамозе.** Гэта буйнейшая перамога нашай партыі з'яўляецца рэзультатам яе мудрай палітыкі. Пастанова ЦК ВКП(б) ад 23 красавіка 1932 г. аб перабудове літаратурна-мастацкіх арганізацый прывяла да стварэння адзінай арганізацыі савецкіх пісьменнікаў ва ўсесаюзным маштабе, што забяспечыла літаратурны рост ва ўсіх рэспубліках Савецкага саюза.

З'езд паказаў усёй краіне і ўсяму свету аблічча многіх і многіх **нацыянальных** літаратур.

Сапраўды, калі паглядзець на паасобныя атрады нацыянальных літаратур, ну хоць-бы на атрад беларускай літаратуры, дык тут здзіўляючы рост. Наш атрад беларускіх пісьменнікаў паказаў сябе на з'ездзе, як роўнапраўны член саюза і лепшы прадстаўнік калектыва пісьменнікаў Савецкага саюза.

Імёны таварышоў **Купалы, Коласа, Александровіча, Харыка, Крапівы, Чорнага,** Галавача і іншых вядомы далёка за межамі нашай рэспублікі. Выступленні на з'ездзе нашых дэлегатаў былі прасякнуты інтэрнацыяналізмам. Яны былі выступленнямі не вузкіх нацыянальных беларускіх рамак, а выступленнямі з ацэнкай і вызначэннем задач літаратуры ўсяго нашага Савецкага саюза. Усе таварышы ставілі пытанні, хвалюючыя ўвесь Савецкі саюз. Усе таварышы выступалі як прадстаўнікі вырасшага атрада, які ідзе рука ў руку з рускімі, украінскімі і пісьменнікамі іншых савецкіх рэспублік. Яны вучацца адзін у аднаго,

але ніхто адзін адным не камандуе. Гэта рэзультат разумення палітыкі нашай партыі і трыумфа гэтай палітыкі. Гэты трыумф быў паказан ва ўвесь свой рост, ва ўсёй сваёй магутнасці на Першым усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў.

Указанні Леніна пра тое, што **„Комуністам стаць можна толькі тады, калі ўзбагаціш сваю памяць ведамі ўсіх тых багаццяў, якія выпрацавала чалавецтва“**—гэта ўказанне Ільіча чырвонаю ніткай праходзіла па ўсіх дакладах і выступленнях на пісьменніцкім з'ездзе.

Чаму? Таму, што класічная літаратурная спадчына—адна з тых скарбніц чалавечай культуры, крытычна асвойваючы якую, перамогшы пролетарыят выкарыстоўвае яе ў сваёй барацьбе, у сваім пазнанні свету і чалавечай гісторыі.

Праблема забяспечання крытычнага ўспрыняцця і авалодання класічняю спадчынай—гэта праблема стаіць востра для ўсіх літаратур Савецкага саюза і асабліва для нашай маладой беларускай літаратуры.

Гэта асабліва важна для нас яшчэ і таму, што мы да гэтага часу не маем яшчэ ні падручнікаў, ні нарысу марксісцка-ленінскай гісторыі беларускай літаратуры. А. М. Горкі ў сваім пісьме да з'езда украінскіх пісьменнікаў пісаў:

> „Ці ёсць нарыс гісторыі украінскай літаратуры, а калі няма,—ці мяркуецца напісаць гэтакі, гэта вельмі патрэбна для нас, паўночнікаў, а то наша моладзь нічога не ведае пра мінулае Украіны. Неабходна ўзаемна абмяняцца ведамі мінулага—для ўсіх саюзных рэспублік трэба, каб беларус ведаў, што такое Грузія, цюрк і інш., а ўсе іншыя ведалі, што такое украінец, беларус, узбек, татарын і т. д.“.

Хіба пісьмо гэта найвялікшага пролетарскага пісьменніка не датычыць у поўнай меры і нас, нашых беларускіх пісьменнікаў, нас—партыйных работнікаў? Так, датычыць, і прытым цалкам і поўнасцю.

Пачынаючы з класічнага ўзору старадаўняй літаратуры **„Барсава скура“**—паэмы грузінскага паэта **Шота Руставелі**—найвялікшага твору грузінскай літаратуры сярэдніх вякоў, разглядаючы пасля Шэўчэнко, буйнейшага выразніка рэволюцыйнасці буржуазнай сялянскай дэмакратыі, паэта, які адыграў у стварэнні украінскай літаратурнай мовы не меншую ролю, як Пушкін у стварэнні рускай літаратурнай мовы, спыняючыся пасля на літаратуры таджыкскага народу, які ў дарэволюцыйных слоўніках лічыўся толькі некалі існаваўшым народам, слухаючы такія перлы паэзіі, якія ў нас стварае няграматны калгаснік і адначасова народны паэт Дагестана **Сулейман Стальскі**—Першы ўсесаюзны з'езд савецкіх пісьменнікаў паказаў усяму свету ўзор таго, як трэба адносіцца да скарбніц чалавечай культуры—да спадчыны мінулага, да талентаў цяперашняга.

Буйнейшыя таленты з асяроддзя працоўных, якіх царызм мяў, душыў, крэмсаў, вырастаюць цяпер у сваіх нацыянальных рэспубліках, пры братняй дапамозе ўсяго Савецкага саюза, у Гомераў XX ст. Алексей Максімавіч Горкі ў сваім заключным слове на з'ездзе гаварыў:

> „На мяне і—я ведаю—не толькі на мяне зрабіў агромнейшае ўражанне ашуг Сулейман Стальскі. Я бачыў, як гэты дзядуля, няграматны, але мудры, седзячы ў прэзідыуме шаптаў, ствараючы свае вершы; пасля ён, Гомер XX стагоддзя, цудоўна прачытаў іх“.

Вось канец прамовы Сулеймана Стальскага на з'ездзе пісьменнікаў:

В большой простор нагорных стран
Приветный знак ашугу дан.
И вот я, Стальский Сулейман,
На славный с'езд певцов пришел.

Наша беларуская дэлегацыя прышла таксама з вялікімі дасягненнямі на Ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў. Можна назваць хоць-бы паасобныя творы—„Дрыгву" Якуба Коласа, „Над ракою Арэсай" Янкі Купалы, „Бацькаўшчыну" Чорнага, „На чырвоных лядах" Лынькова, „Векапомную восень", „Шчаслівую дарогу" і інш. творы Александровіча, „Тэорыю Календбрун" Самуйлёнка і рад іншых таленавітых твораў, якія вядомы ўсім нам і прызначэнне якіх я ўжо гаварыў у сваім дакладзе на Ўсебеларускім з'ездзе пісьменнікаў. Усе гэтыя творы паказваюць рост нашай соцыялістычнай будоўлі, усе ў адзін голас паказваюць працэсы нашага жыцця.

Значэнне літаратуры асабліва вырастае ў эпоху другой пяцігодкі, за перыяд якой мы павінны пабудаваць бяскласавае соцыялістычнае грамадства і перамагчы рэшткі капіталізма не толькі ў эканоміцы, але і ў свядомасці людзей.

Літаратура і мастацтва бяруць удзел у фармаванні свядомасці людзей і тым самым вызначаюць у пэўнай меры паводзіны людзей у класавай барацьбе, у соцыялістычным будаўніцтве. Іменна гэта ўздзейнічанне, выхаваўчае, фармуючае свядомасць людзей, меў на ўвазе т. Сталін, калі ён у адной гутарцы назваў пісьменнікаў „інжынерамі душ".

Наша літаратура можа і павінна адыграць вялікую ролю ў перамаганні перажыткаў капіталізма ў свядомасці людзей, бо наша літаратура—самая ідэйная, самая рэволюцыйная літаратура ў свеце.

## Капіталістычная культура гніе і распадаецца

У той час, калі мы ў СССР падводзім вынікі ўсім нашым дасягненням, калі мы ўважліва вывучаем і крытыкуем нашу літаратуру, прад'яўляем ёй патрабаванні праўдзівага адлюстравання нашых герояў, нашага жыцця, нашага соцыялістычнага будаўніцтва, на аснове соцыялістычнага рэалізма, патрабуем адлюстравання як мага паўнейшага, шматграннейшага мастацтва, захапляючага,—у гэты час там, на Захадзе, мы маем такую з'яву, як полымя кастроў на плошчах з найвялікшых класікаў сусветнай літаратуры.

На Захадзе праблема культуры не ставіцца ні для пролетарыята, ні для агромнай большасці сялян, рамеснікаў і нават дробных буржуа. Народныя масы астаюцца па-за ўплывам літаратуры. За апошнія 50 год толькі паасобныя відныя пісьменнікі, так званыя шчаслі́ўчыкі, дайшлі да іх. У буржуазных краінах у пісьменнікаў астаецца вельмі вузкае кола выключна буржуазных чытачоў.

Гэтую розніцу паміж Захадам і СССР асабліва ярка паказаў у сваім выступленні на з'ездзе французскі пісьменнік Жан-Рышар Блок.

„Мы,—гаворыць Блок,—падобны на бліскучых кухараў і кандзіцераў з замка спячае красуні. Красуня наша спіць, і дрэмлюць нашы таленты.

Масы, да якіх вы звяртаецеся, не хварэюць, як нашы чытачы, на малакроўе, не халадзеюць ад жаху перад уласным лёсам, ваша прынцэса—у поўным росквіце маладосці".

Там, на Захадзе, асабліва ў фашысцкай Германіі, такія кіраўнікі дзяржавы, як міністр прапаганды Геббельс, разам з Гітлерам і Розенбергам топчуць усе лепшыя дасягненні чалавечай культуры.

Падобна Аракчэеву, Гітлер скардзіцца на збытак асвечанасці ў сваёй краіне.

„Мы пакутуем цяпер ад збыткаў асвечанасці,—гаворыць Гітлер...— Нам патрэбен інстынкт і воля. Таго і другога большасць не мае, дзякуючы асвеце“.

Растоптваючы сваім юнкерскім ботам усё перадавое, што дало XX стагоддзе, Гітлер старанна вытручвае ўсё лепшае са спадчыны мінулага.

Гітлеру ўторыць яго паплечнік Розенберг. Апошні крычыць:

„Назад да зямлі і крыві. Прэч ад культуры чалавецтва, яе не існуе зусім, як не існуе сусветнай гісторыі“,

Кіраўнік прапаганды фашызма, Геббельс, таксама істэрычна лемантуе:

„Усё інтэлектуальнае мне надакучыла. Мяне ванітуе ад любога друкаванага слова“.

У першых чыслах верасня Гітлер сказаў прамову пра „новую германскую культуру“.

Старанна падкрэсліваючы ў ёй, што нацыянал-соцыялістычная „культура“ трымаецца на „пакланенні крыжу“ і што яна будуецца на культуры мінулага,—Гітлер асабліва намагаў на тое, што з гэтай культуры мінулага нацыянал-соцыялізм павінен выкінуць усё чуждае „германскай крыві“.

Адпаведна з гэтым, у Германіі, як нідзе і як ніколі, мае месца росквіт антаганізма і проста-такі заалагічны шавінізм.

Вось узаконены фашысцкі параграф:

„Яўрэй можа мысліць толькі па-яўрэйску. Калі ён піша панямецку, ён хлусіць. Немец-жа, калі піша па-нямецку, а па-нямецку не думае—здраднік“.

Пераймаючы свайго правадыра, Геббельс лемантуе пра тое, што „яўрэек трэба гнаць да д'ябла. Я лічу звычайную чэсную прастытутку вышэй за любую замужнюю яўрэйку, таму што яна прынамсі хрысціянская дачка краіны, а што такое яўрэйка?“

Я падаю гэтыя прыклады з Германіі не таму, што яна выключэнне ў капіталістычным грамадстве. Не. Увесь капіталістычны свет гніе цяпер на корані з тою толькі розніцай, што фашысцкая Германія найбольш ярка паказвае гэты працэс гніцця, затхласці і безвыходнага тупіка.

Не лепшае становішча і ў краіне так званага „старога“ фашызма— у Італіі. Даволі прыглядзецца да развіцця італьянскай літаратуры за 10-гадовае існаванне фашызма, каб убачыць на свае вочы, што і там фашысцкі рэжым нясе смерць мастацтву і літаратуры.

Старыя італьянскія мастакі, што дажываюць свой век пры фашызме, як д'Аннунцыо, Пірандэлло і інш., бадай маўчаць ці даюць творы слабыя, якія паказваюць, што аўтары перажылі сябе.

Не лепш стаіць справа і ў іншых краінах.

Вось, напрыклад, характэрны сучасны ідэйны і мастацкі ўзровень французскай буржуазіі.

Дырэктар аднаго вялікага французскага тэатра, як гэта паказаў т. Афінагенаў на з'ездзе пісьменнікаў, перабірае сотні п'ес, якія прыносяць яму пачынаючыя вядомыя аўтары. Ні адна п'еса яму не падабаецца. Сакратар дакладвае:

— Гэтая п'еса пра тое, як тры жанчыны любяць аднаго мужчыну.

— Гэта ўжо было, нудна.

— Вось п'еса пра тое, як тры мужчыны любяць адну жанчыну.

— Было, нудна.

— Вось п'еса пра тое, як мужчына любіць мужчыну.

— Нудна.

— Вось п'еса як жанчына любіць жанчыну, ці пра тое як мужчына любіць жывёлу.

— Усё гэта нудна, усё прыелася.

— Вось,—гаворыць сакратар,—ёсць п'еса пра тое, як мужчына любіць жанчыну. Адзін мужчына—адну жанчыну.

— А ў гэтым ёсць сэнс,—ажывіўся дырэктар,—гэта ўжо нешта новае.

Жахлівая бязвыхаднасць, нявер'е ў магчымасць выбрацца з тупіка, у які папала капіталістычнае грамадства, робіць і творчасць іх песімістычнаю і бесперспектыўнаю.

Аб гэтым з страшэннаю сілай і праўдзівасцю гаворыць толькі што выданая кніга буржуазнага пісьменніка Луі Селіна—„Падарожжа на край ночы".

Адзін з герояў гэтай кнігі прышоў да такога свайго адзінага вываду:

> „Як я ні стараўся згубіць сябе, каб жыццё не ўставала зноў перада мною, я ўсюды натыкаўся на яго. Я зноў варочаўся да самаго сябе. Вядома, я больш не буду бадзяцца. Няхай гэта робяць іншыя... Свет зачынены. Мы падышлі да самага краю"

Далей сапраўды няма куды ісці. Няма больш выхаду для капіталізма... „Выхад", які даецца фашыстамі, вядзе да варварства, назад да сярэдневякоўя.



### Лепшыя розумы чалавецтва пераходзяць на бок рэволюцыі

Усесаюзны з'езд пісьменнікаў быў сапраўды міжнародным з'ездам. Не толькі дзесяткі розных нацыянальных літаратур народаў СССР былі прадстаўлены на гэтым з'ездзе. На з'ездзе былі прадстаўлены вялікія імёны ўсяго свету. З намі на з'ездзе былі і актыўна працавалі гіганты сусветнай літаратуры, людзі, што паказваюць новы свет, змагаюцца за новае жыццё. Сусветны крызіс штурхануў у рады рэволюцыі вялікую плеяду пісьменнікаў. Праўда, шляхі пераходу на бок рэволюцыі ў кожнага пісьменніка розныя.

Няма чаго гаварыць пра тое, якое значэнне мае для нас, калі перайшоўшыя да нас з карыфеяў сусветнай літаратуры Андрэ Жыд, Ромэн Роллан і інш., якіх ведае ўвесь свет, калі Дрэйзер, які надзвычай папуляран у Амерыцы,—устаюць і гавораць: „Адзіны шлях, каторым чалавецтва павінна ісці,—гэта шлях, які паказвае Совецкі саюз".

Буржуазія не абыякава адносіцца да гэтай з'явы. Яна імкнецца агіднымі выдумкамі і маною ачарніць гіганцкі рост Совецкага саюза.

Гэтая агідная мана і паклёп распаўсюджваецца мільёнамі адбіткаў жоўта-бульварнай буржуазнай прэсы, а адкіды чалавечага грамадства—белагвардзейшчына, папоўшчына і інш. брыдота—скарыстоўвае

ўсякія антысовецкія вымудры і дапамагае буржуазіі скажаць рэчаіснасць Совецкага саюза. Вось чаму часта нават перадавыя розумы, што жывуць у капіталістычных краінах, пад уплывам і ўздзейнасцю буржуазных антысовецкіх паклёпаў і вымудраў маюць няправільнае ўяўленне аб Совецкім саюзе.

Але варта ім самім пабыць у Совецкім саюзе і ўбачыць яго жыццё, як яны прыходзяць да зусім іншых вывадаў.

Вось адзін з яркіх прыкладаў, які быў паказан на з'ездзе.

Год таму назад мы запрашалі буйнейшую дацкую пісьменніцу Карын Міхаэль прыехаць у Совецкі саюз і паглядзець на наша жыццё. Яна тады адмовілася. Яна гаварыла, што многае з таго, што робіцца ў нас, ёй не зразумела. Але пасля таго, як яна прабыла шэсць тыдняў у нас і ўсё бачыла сама сваімі вачыма, яна напісала нам пісьмо пра тое, як „буржуазія яшчэ не разумее сапраўднага становішча, буржуазія не хоча прызнаваць і бачыць таго, што Совецкі саюз працуе за ўсё чалавецтва“. „Вы не можаце зразумець,—піша К. Міхаэль,—як цяжка мне цяпер жыць тут пасля таго, як я пражыла ў Совецкім саюзе 6 тыдняў, пасля таго, што я там бачыла“.

Я думаю, што пасля сказанага робіцца зусім зразумелым тое, чаму карыфеі сусветнай літаратуры пераходзяць да нас, становяцца ў рады змагароў за соцыялізм.

Праўда, буржуазія адказвае на гэта пагрозамі, рэпрэсіямі і нават забойствамі, але ўсё-ж лепшыя прадстаўнікі мастацтва заяўляюць, што „ніхто і нішто не перашкодзіць ім“ прадаўжаць пачатую імі рэволюцыйную справу.

Вазьміце буйнейшага японскага рэжысёра Хідзікато, які прымаў удзел у нашым Першым усесаюзным з'ездзе пісьменнікаў. Пасля апублікавання яго бліскучай прамовы, сказанай на з'ездзе, японская газета „Ніці-ніці“, а следам за ёю і ўся японская прэса, выступілі з пагрозай, што ўрад Японіі гатоў арыштаваць Хідзікато зараз-жа, як толькі ён вернецца ў Японію.

І на гэтыя пагрозы Хідзікато адказаў так:

> „Мы, рэволюцыйныя мастакі Японіі, як і ўсе рэволюцыйныя мастакі ў свеце, усёроўна будзем змагацца, дзе-б мы ні былі,— на волі, ці ў турме, у Японіі, ці ў іншых краінах,—за літаратуру пролетарыята, за сусветны Окцябр“.

Або вазьміце выступленне таленавітага французскага пісьменніка Андрэ Мальро. Ён сказаў:

> „Тое, што я абараняў Дзімітрава, тое, што я адправіўся ў Берлін для яго абароны, тое, што я прыехаў сюды, гаворыць за тое, што я з вамі“.

Гэтая заява была вельмі цёпла сустрэнута з'ездам.

Падобных выступленняў на з'ездзе было многа з боку іншаземных пісьменнікаў. Наша краіна стала прыцягальным магнітам усяго лепшага, што мае чалавецтва.

Пролетарыят Совецкага саюза сваёю барацьбой і гераічнаю работай будзіць рэволюцыйныя і творчыя сілы ў шырокіх масах, пераконвае шырокія колы інтэлігенцыі, адыходзячай ад капіталізма, што ёсць выхад з крызіса, які перажывае ўвесь капіталістычны свет, што ёсць шлях выратавання чалавечай культуры—гэта шлях пролетарскай рэволюцыі, шлях Совецкага саюза.

Усякая творчасць, і асабліва літаратура, з'яўляецца зброяй барацьбы. Буржуазія таксама скарыстоўвае творчасць як зброю барацьбы. Хто служыць яе класавым інтарэсам,—яна прызнае тых талентамі, хто перастае ім служыць,—яна лічыць тых загінуўшымі.

У апошні час буржуазная прэса Францыі заявіла з поваду пераходу Андрэ Жыда на бок змагаючагася пролетарыята, што гэты пераход азначае смерць Андрэ Жыда, як пісьменніка, бо ні адзін з пісьменнікаў, якія перашлі на бок пролетарыята, на яе думку, „не здолеў развіць свайго таленту, не здолеў даць буйных, мастацкіх твораў".

Пераход на бок рэволюцыі Андрэ Мальро таксама сустрэў паток нападак з боку буржуазнага друку.

Французская буржуазія пусціла ў ход агітацыйныя і публіцыстычныя здольнасці свайго акадэміка Марыяка. Апошні ў газеце генеральнага штаба Францыі „Эко дэ Пары" заяўляе:

> „Ты, Мальро, бунтар, ты, Мальро, нападаеш на буржуазную культуру, лічыш, што яна загіне. Але твой бліскучы талент—довад велічы гэтай культуры. Хіба цябе будуць чытаць кітайскія варвары, пра якіх ты пішаш".

І далей Марыяк гаворыць:

> „Вось, Мальро, мы цябе ўзнагародзілі прэміяй братоў Гонкур. Чаму мы гэта зрабілі? Мы—людзі разумныя, Мы ўжо бачылі, як можна прыбраць к рукам бунтароў: быў Мільеран, быў Брыян, мы далі ім кавалак улады, і яны нам служылі. Паглядзім як ты, Мальро, вытрымаеш нашы пахвалы, нашу прэмію" (з прамовы т. Радэка).

У адказ на гэту нізкапробную спробу павярнуць на свой бок Мальро, апошні прыехаў да нас на з'езд і заявіў:

— Я з вамі.

Гіганты сусветнай літаратуры бачаць, што праўда на нашым баку, што гэту праўду ажыццяўляе Саюз Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік, і таму яны пераходзяць на бок пролетарыята. Яны бачаць, што толькі разам з пролетарыятам можна стварыць і будуць створаны лепшыя творы. Яны бачаць, што пры ацэнцы пісьменніка пролетарыят выходзіць не з таго, на якой мове працуе даны пісьменнік, а з таго, ці выступае пісьменнік за рэволюцыю, за рабочы клас, ці ён абараняе інтарэсы чуждага класа—буржуазію.

Выходзячы з гэтай класавай ацэнкі, пролетарыят выбірае сваіх любімых і папулярных пісьменнікаў.

Нядаўна венгерскі пісьменнік Бела Іллеш, аўтар вядомага твору „Тысса гарыць", гаварыў з групай аўстрыйскіх таварышоў пра літаратурныя праблемы. У гутарцы з імі ён запытаўся ў аўстрыйскіх таварышоў: „Хто вашыя самыя важныя, самыя вялікія, самыя папулярныя пісьменнікі?".

Аўстрыйскія таварышы адказалі яму: „Нашы самыя папулярныя пісьменнікі—Максім Горкі, Шолахаў, Панфёраў, Фадзееў, Гладкоў, Эрэнбург".

Совецкая літаратура надзвычай маладая, але яна ўжо настолькі поўнакроўная і самастойная, што ёю не толькі зачытваюцца на Захадзе, але па ёй раўняюцца пісьменнікі Захада, якія ідэйна парываюць з фашызмам, з імперыялістычнай буржуазіяй. Нашы творы—гэта творы пра новы свет, творы новай эпохі, творы новай соцыяльнай фармацыі, імя якой—комунізм.

## Задачы беларускай совецкай літаратуры

Стварэнне твораў, вартых нашай эпохі, з'яўляецца баявою задачай кожнага пісьменніка. Арганізацыя ўсямернай дапамогі ім у гэтай пачэснейшай рабоце з'яўляецца баявою задачай партыйных, совецкіх, прафесіянальных і комсамольскіх арганізацый.

Піонеры, комсамольцы, і т. д.—усе ставяць патрабаванне перад пісьменнікамі аб тым, якія кніжкі, якой якасці, і ці скора яны дадуць чытачу. Справа, вядома, не ў колькасці кніг. Нашы выдавецтвы гавораць, што да 70 проц. усіх выданых кніг другі раз выдаваць нельга. Гэта гаворыць аб тым, што ў нас было напісана многа дрэннага. Іншы раз чытаеш кнігу і—ці не дачытаеш яе і кінеш, а калі дачытаеш, дык пасля лаеш пісьменніка, гаворыш: „Навошта толькі я патраціў столькі часу на гэту кнігу?!"

Калгасніца Смірнова, якая выступала на Ўсесаюзным з'ездзе пісьменнікаў, сказала:

„Вы многа перадаеце нам свайго вопыту, многа друкуеце кніг. Кнігі тав. Шолахава, кнігі т. Панфёрава і яшчэ многа розных кніг, мы іх чытаем. Але ў вас ёсць вялікая недапрацоўка ў кнігах. У вашых кнігах нідзе не было сказана пра калгасніцу-ўдарніцу".

Тав. Смірнова закончыла сваю прамову заклікам:

„Давайце, таварышы пісьменнікі, разам з гэтага лёну, які мы вам прывезлі, вытчам новую старонку кнігі і адзначым на першай старонцы жанчыну".

Заклік—давайце, таварышы пісьменнікі, **вытчам новыя сотні старонак кніг, вартых нашага слаўнага жыцця, барацьбы і эпохі**—гучэў з гэтай трыбуны з'езда, з вуснаў выступаўшых і піонераў, і комсамольцаў, і дарослых рабочых. У адказ на гэты заклік нашы пісьменнікі павінны паказаць узоры творчай работы. А для гэтага наш пісьменнік павінен працаваць над сабой, над сваёю культурай, над сваім ростам, бо пісьменнік не можа добра вынаходзіць таго, чаго ён сам не ведае. Ён можа даць тое, што ён асвоіў, пераварыў, прычым не механічна, а крытычна асвоіў культурную спадчыну мінулага.

Калі пісьменнік апісвае, напрыклад, які-небудзь завод ці цэх, дык трэба, каб ён ведаў работу станка гэтага цэха, машыны, а галоўнае людзей, якія кіруюць гэтымі агрэгатамі. **Пісьменнік павінен мець веды социяльных і прыродазнаўчых навук.**

Для стварэння літаратуры вартай нашай эпохі трэба ўпарта, настойліва і заўзята вучыцца, таму што як ніколі вяліка цяпер адказнасць совецкага пісьменніка. Вядомы пісьменнік **т. Лахуці** сказаў пра гэтую адказнасць так:

„Калі памыляецца інжынер, які будуе завод, гэта абыйдзецца дзяржаве ў некалькі лішніх мільёнаў руб. Калі памыляецца інжынер чалавечых душ, шкода, зробленая ім социялістычнаму будаўніцтву, будзе непамерна большая, бо памылка яго дасць сябе знаць на свядомасці саміх будаўнікоў".

Вось чаму перад нашымі пісьменнікамі стаіць вялікая работа. У гэтай рабоце могуць і павінны максімальную дапамогу зрабіць партарганізацыі. Гэта дапамога пісьменніку павінна выражацца, вядома, не ў сходах. Чым часцей мы будзем збіраць іх, чым часцей пісьменнікі будуць рабіць даклады, тым менш яны будуць працаваць. Тут не можа быць прамой прапорцыі. Партарганізацыі могуць і павінны

стварыць такую абстаноўку, каб пісьменнікі сапраўды маглі над сабой працаваць. Усе партыйныя і совецкія арганізацыі павінны ўжыць рад захадаў для стварэння неабходных матар'яльных і іншых умоў у рабоце нашых літаратурных арганізацый.

Менскі гарком партыі таксама павінен заняцца гэтым пытаннем і шчыльна падыйсці да staноўчага вырашэння яго.

Перад беларускай совецкай літаратурай пасля Ўсесаюзнага з'езда стаяць наступныя задачы:

1. Прапрацоўка матар'ялаў з'езда, якая шырока разгарнулася і ахапіла вялікія масы працоўных, носіць яшчэ павярхоўны, агітацыйны характар. Неабходна разгарнуць **паглыбленую прапаганду рашэнняў і матар'ялаў першага з'езда**, мабілізуючы ўвагу працоўных вакол пытанняў літаратуры.

У першую чаргу гэта задача ляжыць на партыйных, комсамольскіх і прафесіянальных арганізацыях, якія павінны справу папулярызацыі совецкай літаратуры ўвесці ў сістэму штодзеннай работы.

2. Для стварэння высокаякасных твораў трэба ўсямерна ўзмацніць работу над мовай. Пытанні мовы мастацкай літаратуры стаяць асабліва высока і востра ў нас, у Беларусі, бо ў гэтай галіне беларускія нацыянал-дэмакраты асабліва многа нашкодзілі. Рэформа беларускага правапіса была адным з асабліва моцных удараў па шкодніцкай рабоце беларускіх нацдэмаў. Але наша неадкладная задача— зусім выкарчаваць рэшткі гэтага шкодніцтва і забяспечыць далейшае развіццё беларускай літаратурнай мовы на аснове багацця моўнага матар'ялу, створанага ў працэсе барацьбы за дыктатуру пролетарыята, за пабудову соцыялізма.

І калі беларускія нацдэмы прытуплялі мову і імкнуліся зрабіць з яе зброю для сваіх контррэволюцыйных мэт, дык мы павінны адточваць яе для справы барацьбы за комунізм. Без пільнай, уважлівай работы над мовай нельга змагацца за мастацкую ўдасканаленасць літаратуры.

3. З'езд прадэманстраваў нябачаны рост літаратуры 53-х народаў Совецкага саюза. Задачай беларускіх совецкіх пісьменнікаў з'яўляецца—**устанаўленне інтэрнацыянальнай сувязі з брацкімі совецкімі літаратурамі**, узаемны абмен вопытам, больш глыбокае вывучэнне шматмоўнай, інтэрнацыянальнай па свайму зместу совецкай літаратуры, перавыданне лепшых узораў яе на беларускую мову.

4. Неабходна больш актыўна, як да гэтага часу, **разгарнуць вывучэнне і папулярызацыю рэволюцыйнай літаратуры капіталістычных краін. З гэтаю мэтай неабходна праграмы нашых навучальных устаноў удакладніць.**

5. Выключнае значэнне набывае **ўзмацненне** канкрэтнага кіраўніцтва, творчай **дапамогі пачынаючым пісьменнікам** і разгортванне работы літаратурных гурткоў, забяспечанне іх праграмамі, метадычнымі дапаможнікамі і высокакваліфікаванымі кіраўнікамі, у першую чаргу з ліку добра падрыхтаваных настаўнікаў, літаратуразнаўцаў і крытыкаў.

6. Пачатую **работу па перакладу і выданню на рускай мове лепшых твораў беларускай літаратуры неабходна прадоўжыць**, звярнуўшы асаблівую ўвагу на якасць перакладаў, якая да гэтага часу астаецца нездавальняючай. Неабходна арганізаваць пераклады беларускіх пісьменнікаў і на іншыя мовы (украінскую, грузінскую і т. д.).

7. Цэнтральнай задачай партыйнай арганізацыі пісьменнікаў, праўлення ССПБ з'яўляецца ўпартая **штодзенная барацьба за высокую ідэйна-мастацкую якасць літаратуры, за падняцце літаратурнай крытыкі** на ўзровень тых задач, якія партыя ставіць перад літаратурай.

Садзейнасць далейшаму росквіту мастацкай творчасці—асноўная і важнейшая задача літаратурнага кіраўніцтва.

8. Цэнтральныя газеты БССР „Звязда", „Рабочий" і інш. яшчэ зусім мала ўвагі аддаюць мастацкай літаратуры. Аб гэтым сведчыць поўная адсутнасць мастацкіх нарысаў, фельетонаў і т. д. Тут трэба дамагчыся рашучага пералому. Карыстаючыся выпадкам, адзначу нядрэнны пачатак „Звязды" у яе рабоце з чытачамі мастацкай літаратуры.

„Звязда" ад 18 верасня апублікавала даныя аб тым, як паасобныя рабочыя, напрыклад, слесар Сцепанюк, майстар рамонтнага цэха Кунцэвіч, электраманцёр Захараў і іншыя, як яны чытаюць творы Талстога, Чэхава, Шолахава і беларускіх пісьменнікаў. Па-мойму, „Звязда" гэтым паказам зрабіла пачатак вялікай і цікавай работы.

Пералом к лепшаму неабходны ў дачыненні літаратурнага перыядычнага друку.

Назразумела, чаму часопіс „Полымя рэволюцыі" выходзіць з вялікім спазненнем. Шосты і сёмы нумары вышлі толькі ў кастрычніку. Трэба забяспечыць сістэматычны выхад гэтага часопіса. Трэба, каб ДВБ, Белпаліграф і ўсе адказныя за выпуск часопіса неадкладна выправілі гэта.

Пра газету „ЛІМ". Задачы, якія я паставіў перад пісьменнікамі БССР, цалкам датычаць і газеты „ЛІМ". Газета павінна разгарнуць больш аперацыйнае і поўнае асвятленне ходу прапрацоўкі і вывучэння рашэнняў з'езда пісьменнікаў, сістэматычна заняцца азнаямленнем беларускай пролетарскай грамадскасці з літаратураю брацкіх рэспублік і замежнай рэволюцыйнай літаратурай, разгарнуць творчае абмеркаванне праблем літаратуры, пастаўленых на Ўсесаюзным з'ездзе (праблемы зместу і формы, праблемы сюжэта, паказу вобразаў станоўчага героя нашай эпохі).

Перад газетай—мора яшчэ нявырашаных праблем.

„Літаратура і мастацтва" павінна куды паўней і глыбей заняцца асвятленнем пытанняў мастацтва (тэатра, жывапісі, музыкі, кіно і самадзейнага мастацтва), ёй павінна быць забяспечана неабходнае падтрыманне і дапамога з боку актыва і пісьменнікаў, і мастакоў. Сур'ёзныя задачы стаяць перад літаратурнаю крытыкай у галіне папулярызацыі твораў пашых пісьменнікаў. Нажаль, не заўсёды наша крытыка гэтым вызначаецца.

Нядаўна наша Беларуская Акадэмія Навук выдала творы **Паўлюка Труса**—аднаго з таленавіцейшых паэтаў нашага часу, паэта, які, як вядома, памёр. Гэты паэт адлюстроўваў ролю рэволюцыйнага сялянства ў пролетарскай рэволюцыі. **Паўлюк Трус** у сваёй паэзіі свежа і глыбока паказаў рэволюцыйную псіхалогію сялянства, ён даў яркі малюнак грамадзянскай вайны. Яму з вялікім поспехам удалося адлюстраваць героіку грамадзянскай вайны. Шкода, што наша крытыка яшчэ не разабрала глыбока і ўсебакова гэтага паэта, а значыць і не садзейнічала, каб дастаткова давесці яго да чытача.

Творы Паўлюка Труса неабходна давесці да шырокіх рабоча-сялянскіх мас.

Прадстаўленыя на Першым усесаюзным з'ездзе совецкіх пісьменнікаў шматнацыянальныя літаратуры Совецкіх Соцыялістычных Рэспублік прадэманстравалі на ўвесь свет тое, што ўсе яны непамерна выраслі за перыяд пролетарскай дыктатуры. Правільнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай комуністычнай партыяй забяспечыла тое, што пераможная песня соцыялізма раздаецца цяпер на ўсіх мовах народаў вялікага Совецкага саюза.

Перамога гэта заваявана ў рашучай і бязлітаснай барацьбе з буржуазнымі нацыяналістамі, якія імкнуліся ў сваіх контррэволюцыйных мэтах прыбраць участак літаратуры ў свае рукі. Перамогі, з якімі прышлі літаратуры народаў Совецкага саюза на свой Першы ўсесаюзны з'езд пісьменнікаў, былі дасягнуты ў непасрэднай сувязі з пролетарыятам усяго СССР. Брацкая дапамога Совецкага саюза і кіраўніцтва большэвіцкай партыі забяспечылі нябачаны рост соцыялістычнай па зместу і нацыянальнай па форме культуры ўсіх народаў Совецкага саюза.

Падводзячы вынікі гэтаму з'езду совецкіх пісьменнікаў, мы па праву можам сказаць, што акрамя свайго агромнага літаратурнага значэння з'езд мае буйнейшае палітычнае значэнне. Гэты з'езд канкрэтызаваў далейшы творчы шлях і план дзеяння пісьменніка ў яго наступнай вялізнай рабоце на карысць нашай соцыялістычнай радзіме. З'езд аформіў і замацаваў ужо даўно пачаты працэс аб'яднання інтэлігенцыі народаў Совецкага саюза пад сцягам соцыялістычнага будаўніцтва. З'езд яшчэ раз паказаў усяму свету, што вялікі сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна перамог. Рэзультатам гэтай перамогі быў і з'езд совецкіх пісьменнікаў, які не пад сілу нікому, акрамя нас, большэвікоў. Першы з'езд совецкіх пісьменнікаў быў з'ездам адзінства і згуртаванасці ўсіх пісьменніцкіх сіл; з'ездам адзінства і згуртаванасці вакол ленінскай партыі, адзінства і згуртаванасці вакол нашага правадыра т. Сталіна, Недарма кожны ўспамін імя натхняльніка і правадыра нашай партыі, імя Сталіна, пранізвала кожнага дэлегата з'езда токам бадзёрасці, сілы, любві, новай творчай энергіі і падымала з месц усіх дэлегатаў усіх народаў вялікай нашай краіны. Пра яго, правадыра народаў і натхняльніка соцыялізма, лепшыя, самыя гарачыя словы на ўсіх мовах чуліся з трыбуны вялікага з'езда вялікіх людзей. Пад кіраўніцтвам нашага правадыра і нашай вялікай партыі нашы пісьменнікі, шмат чаму навучыўшыся ў гэтага гістарычнага з'езда, пойдуць наперад да новых найвялікшых перамог.

---

П. Андрэеў.

# СССР у святле міжнароднага становішча

Семнаццатая гадавіна Окцябра багата каласальнымі перамогамі не толькі ў галіне будаўніцтва соцыялізма ўнутры нашай краіны. Пролетарыят і ўсе працоўныя Совецкага саюза з гонарам могуць азірацца на пройдзены шлях і ў галіне знешняй совецкай палітыкі, такой-жа яснай і мэтаімкненнай, як і палітыка ўнутраная.

Простая і разам з тым мудрая—яна можа быць сфармулявана ў трох словах: «мір і барацьба за мір».

Гэты фундамент нашай знешняй палітыкі закладзен у першыя дні існавання Совецкай Расіі. Гэты-ж прынцып захоўваем мы і ў дні бурнага росту нашай магутнасці, у дні, пра якія справядліва і мудра сказаў наш вялікі правадыр і настаўнік т. Сталін:

I.

> «З краіны слабой і непадрыхтаванай да абароны Совецкі саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абароназдольнасці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасцей, у краіну, здольную вытвараць у масавым маштабе ўсе сучасныя сродкі абароны і забяспечыць імі сваю армію ў выпадку нападу звонку».

Не будзем напамінаць багатыя падзеямі мінулыя гады. Любы малавер можа наглядна пераканацца ў мірных намерах краіны будаўніцтва соцыялізма хоць-бы на факце далёка-ўсходняй правакацыі 1929 г., калі цёмныя сілы сусветнага імперыялізма з мэтай справакаваць СССР на вайну нацкоўвалі на яго кітайскіх мілітарыстаў, і калі совецкі ўрад сваімі хладнакроўнымі і дастойнымі паводзінамі ліквідаваў канфлікт. Наша мэта—паказаць на міжнародных падзеях апошніх двух год нязменнасць мірнай знешняй палітыкі Совецкай краіны ў гады яе ўзросшай магутнасці.

Кожны, хто ўважліва сочыць за нашаю прэсай, можа лёгка ўпэўніцца ў тым, што капіталістычныя дзяржавы (без ліку малых дзяржаў, якія так ці інакш аказваюцца на повадзе ў вялікіх дзяржаў) праводзяць дзве асноўныя палітыкі, якім адпавядаюць дзве групы дзяржаў—праваднікоў гэтай палітыкі.

Першы кірунак сусветнай палітыкі—падрыхтоўка грамадскай думкі да немінучага выбуху новых захватніцкіх войн. Палітыку гэту натхняюць дзяржавы, пануючыя класы каторых ставяць далейшае сваё існаванне ў прамую залежнасць ад захвату новых каланіяльных уладанняў. Да такіх краін адносяцца Японія і Германія. Другі кірунак—тэндэнцыя да захавання міру. Яе праклэміруюць дзяржавы, якія на даным этапе развіцця міжнародных падзей часова вымушаны

адмаўляцца ад вайны ў сілу цэлага раду прычын унутры-палітычнага і агульна-сусветнага значэння.

Курс гэты падтрымліваюць: Францыя, Малая Антанта, прыбалтыйскія дзяржавы і зацікаўленыя ў захаванні міру скандынаўскія краіны, супроць якіх накіраваны рэвізіяністцкія імкненні Германіі і Венгрыі. Ледзь прыметныя зрухі ў гэтым кірунку можам прасачыць таксама і ў англійскай палітыцы. Што-ж датычыць Італіі, то яе пазіцыя цалкам будзе залежаць ад франка-італьянскага збліжэння.

Асобую пазіцыю займае СССР. Палітыка СССР ёсць поўнае адмаўленне ад захватніцкіх войн. Гэта вялікая, нічым не абмежаваная палітыка міру асабліва рэльефна выдзяляецца на фоне міжнародных адносін. Знешняя палітыка СССР заслугоўвае асаблівай увагі, як процідзеючая цёмным сілам імперыялізма, якія энергічна рыхтуюць планы новых войн за перадзел ужо падзеленага свету і контррэволюцыйных выступленняў супроць краіны Советаў.

«У асабліва крытычныя для буржуазіі часы фашызм карыстаецца антыкапіталістычнай фразеалогіяй, але як толькі ён бачыць, што яго ўлада забяспечана, ён нязменна праяўляе сябе як тэрарыстычная дыктатура буйнага капітала і адкідае ўсю антыкапіталістычную дрэбедзень» (з праграмы Комінтэрна).

Германскі фашызм прышоў к уладзе пры падтрыманні шырокіх колаў расчараванай дробнай буржуазіі, кулацтва і нязначнай часткі менш свядомага пролетарыята, страціўшага ўсякую надзею на атрыманне якіх-небудзь сродкаў для існавання. Гэтыя слаі насельніцтва ў тупой расчараванасці слепа верылі антыкапіталістычным фразам і дэмагагічным абяцанкам Гітлера аб разбуйненні капітала, аб «адноўленым гонары» германскага рабочага і т. д.

Умацаваўшы сваю ўладу, германскі фашызм неўзабаве адкінуў усю антыкапіталістычную дрэбедзень і, маскуючыся лозунгам, «канец нацыянальна-соцыяльнай рэволюцыі», паспяшыў устанавіць адкрытую дыктатуру буйнага капітала. Гэта, натуральна, выклікала шырокую хвалю нездаволенасці сярод працоўных мас і бражэнне ў тых колах, якія з'яўляліся соцыяльным базісам нацыянал-соцыялізма ў яго першапачатковым выглядзе. Але гэта—крах унутрыпалітычных пабудаванняў германскага фашызма. Кіруючая верхавінка, каб рэабілітаваць сябе, павінна была адшукаць нейкую адтуліну для змякчэння ўсё больш і больш нарастаўшай нездаволенасці ўнутры краіны. Патрэбен быў нейкі новы дэманстрацыйны жэст, маскуючы провал і банкроцтва фашысцкай палітыкі. Такою мерай стала знешне-палітычная праграма фашызма. Гітлер, яшчэ да прыходу к уладзе, прадвызначыў шлях, па якім павінна была развівацца фашысцкая палітыка. Так, у яго кнізе «Мая барацьба» чытаем:

«Мы, нацыянал-соцыялісты, свядома падводзім рысу пад знешне-палітычным кірункам даваеннага часу. Мы пачынаем там, дзе Германія закончыла 600 год назад. Мы заканчваем адвечны рух германцаў на поўдзень і на захад Еўропы і абарачаем погляд да зямель на ўсходзе. Мы канчаем каланіяльна-гандлёвую палітыку даваеннага часу і пераходзім да палітыкі заваёвы новых зямель. І калі мы сёння гаворым пра новыя землі ў Еўропе, то мы можам думаць толькі аб Расіі і падуладных ёй акраінах... Будучаю мэтай нашай знешняй палітыкі

павінна быць не заходняя і не ўсходняя палітыка ў сэнсе набыцця тэрыторый для германскага народу» (Гітлер «Мая барацьба», стар. 742, выд. 32 г.).

Рух на ўсход, г. зн.—на СССР. Але і гэта не ўсё. У іншых частках фашысцкай знешне-палітычнай праграмы ёсць месцы, дзе вызначаецца кірунак руху германцаў, калі не на поўдзень і не на захад, то на «Заходнюю Манчжурыю», г. зн. на балтыйскія краіны, аб каланізацыі якіх так горача мараць ост-эльбскія памешчыкі і ўсходне-прускія юнкеры. Другая «Манчжурыя», вабячая погляд германскіх фашыстаў, знаходзіцца таксама ў цэнтры Еўропы—гэта Аўстрыя. Але творцы трэцяй імперыі і гэтым не здаволены, зрок іх вабяць адабраныя ў іх у свой час афрыканскія і ціхаакіянскія калоніі, нізіны Віслы, Памор'е (уся тэрыторыя пад Нотэч) і Эльзас. Зусім зразумела, што такая «шырокая» знешне-палітычная праграма не знашла спачування сярод іншых буржуазных дзяржаў, хоць германскі фашызм ад самага прыходу к уладзе няўтомна прапанаваў шпагу імперыялістам, асабліва англійскім, заўжды цвердзячы пра сваю «гістарычную місію» вернага стража ўстояў капіталізма і аплота супроць пролетарскай рэволюцыі ў Еўропе.

Як ні вяліка спакуса, але здзелка не магла адбыцца, бо занадта вялікі імперыялістычныя супярэчнасці. І нічога дзіўнага няма ў тым, што першым наглядным рэзультатам такой палітыкі аказалася знешне-палітычная ізаляцыя Германіі. І сапраўды, хіба магла Францыя, Англія, і наогул усе былыя саюзныя і аб'яднаўшыяся дзяржавы аднесціся з энтузіязмам да такіх планаў, не баючыся рэванша? Вядома, не. Узмацненне Германіі, якім-бы шляхам гэта ні было, немінуча вядзе да рэвізіі Версаля, што ў перакладзе азначае новы перадзел свету на карысць аднаго капіталістычнага лагера і ў крыўду другому.

Практычна разгортванне знешне-палітычнай праграмы фашыстаў пачалося, аднак, з другога канца. Перш, чым пачаць дзе-небудзь бойню, трэба даўзброіцца. Але ў гэтым пункце Германія адразу наткнулася на процідзеянне Францыі. Крах жэнеўскай канферэнцыі па разбраенню акрыліў надзеямі фашысцкіх палітыканаў і даў ім магчымасць рэзка паставіць пытанне перад Лігаю нацый аб раўнапраўі і ў галіне ўзбраенняў, або—ўльтыматум: Германія пакідае Лігу.

Перад гэтым ішлі доўгія перагаворы ў Парыжы, дзе германскі фашызм катэгарычна патрабаваў раўнапраўя ва ўзброеннях і атрымаў такі-ж адказ, як і крыху пазней у самой Жэневе. Германіі былі прад'яўлены наступныя ўмовы: германская арміяператвараецца ў міліцыю з кароткатэрміновай службай, колькасць міліцыі даводзіцца да 200.000 чалавек; устанаўляецца міжнародны кантроль над яе ўзбраеннем на працягу ад 2-х да 4-х год; ніякіх новых відаў узбраення (танкі, авіяцыя і т. д.) Германія ўвесці не мае права.

Паставіўшы пытанне ў такой форме—або раўнапраўе, або выхад з Лігі нацый—германскі фашызм зноў апынуўся перад адзіным фронтам Англіі, Францыі і ЗША, рашуча адвергнуўшых падобную альтэрнатыву. Германія, у адказ на гэта, заявіла аб сваім выхадзе з Лігі.

Можна з упэўненасцю сказаць, што ніколі яшчэ знешне-палітычная ізаляцыя Германіі не была так сур'ёзна, як у момант выхаду яе з Лігі. Аднак, паставіўшы ў тупік канферэнцыю па раззбраенню, сам германскі фашызм апынуўся ў такім-жа становішчы: знешне-палітычная ізаляцыя, з аднаго боку, беспрацоўе, голад і галеча—з другога.

Выхад Германіі з Лігі трэба разглядаць толькі як дэманстрацыйны

жэст, як пэўны ўнутрыпалітычны манеўр, зроблены з мэтай рассасаць нарастаючую нездаволенасць працоўных мас і выратаваць фашысцкую дыктатуру. З другога боку, выхад Германіі з Лігі азначае канец разбраяльнай камедыі і пачатак адкрытай гонкі ўзбраенняў усіх без выключэння імперыялістычных дзяржаў, у тым ліку, вядома, і Германіі. За крызісам Жэневы скрываецца злавесны вынікамі, яшчэ больш глыбокі крызіс Версаля.

Авантурысцкая палітыка германскага фашызма натыкалася на супраціўленне пэўнай групы дзяржаў, якія чакалі небяспекі з боку Германіі ў другую чаргу, і знашла спачуванне сярод тых, каму фашысцкая экспансія пагражала ў першую чаргу: гутарка ідзе аб Польшчы. Рэзкі адыход Польшчы ад Францыі трэба тлумачыць не імкненнем да самастойнасці, як гэта стараюцца прадставіць польскія дыпламаты. Пасяганні фашызма на польскае памор'е і жаданне здзейсніць свае даўнія мары аб новых набытках—вось што штурхала польскую буржуазію на пошукі новай арыентацыі.

Да 1933 года знешняя палітыка польскай дыпламатыі цякла ў агульным рэчышчы з французскай, недаверліва і нават варожа адносячыся да Германіі і Совецкага саюза. Блізкая пагроза з боку Германіі, якая прасціірала свае шчупальцы к Калідору, і відавочнасць таго, што СССР не мае намеру да якіх-небудзь агульных дзеянняў з фашысцкай Германіяй прывялі да вядомага зблізкэння Польшчы з Совецкім саюзам. Былі заключаны пакты аб ненападзе і вызначэнні агрэсара, зменшаны размеры антысовецкіх кампаній у Польшчы і т. д. Але ў апошні час у Польшчы адбываюцца зусім адваротныя працэсы. Па меры таго, як ёй удалося прашчупаць, што Германія ў мэтах дэзарганізацыі французскага тылу гатова пайсці на пэўнае зблізкэнне з Польшчай, не адмаўляючыся ад сваіх прэтэнзій на Калідор, польская дыпламатыя робіць паварот тварам да Германіі, прыкрываючы гэта гутаркамі аб «вызваленні ад французскай палітычнай залежнасці», гутаркамі аб «незалежнай польскай палітыцы» і т. д.

За гэту мэту Польшча змагалася ў першую чаргу супроць сваёй саюзніцы Францыі, якая разглядала Польшчу, як дзяржаву другога ранга. Развіваючы сваю палітыку ў гэтым-жа напрамку, Польшча імкнецца вызваліць сябе таксама і ад кантроля Лігі нацый у пытанні аб становішчы нацыянальных меншасцей у Польшчы. Гэта паслужыла повадам для небывала вострай палемікі паміж французскім і польскім друкам. Францыя лічыла, што ануляванне Польшчай дагавору аб абароне меншасцей, устаноўленага Версальскім дагаворам, будзе пэўнай уступкай германскаму фашызму, які з прыходам к уладзе таксама спрабаваў аднабакова расторгнуць Версальскі дагавор. Да гэтых фактаў нельга не дадаць таксама адмоўныя адносіны Польшчы да франка-совецкага праекта Ўсходняга пакта. Двусэнснасць і няпэўнасць у гэтым пытанні значная частка міжнароднай прэсы разглядае таксама, як сімптом прагерманскіх тэндэнцый.

З гэтых фактаў ужо можна рабіць вывад, што польскія палітыкі клоняць да разрыву саюзных адносін з Францыяй і цягацеюць да зблізкэння з Германіяй. Гэта тым больш відавочна, калі мець на ўвазе недвусэнсную заяву аб незацікаўленасці Польшчы ў пытанні паўднёва-ўсходняй экспансіі германскага фашызма. Відаць, пытанне аб кампенсацыі Польшчу больш не непакоіць. Няма сумнення, што разрыў Польшчы з Францыяй прывядзе к таму, што апошняя будзе ўцягнена ў арбіту германскага ўплыву, што ў сваю чаргу можа скончыцца польска-германскім супрацоўніцтвам на Ўсходзе Еўропы.

**Японія.** Знешне-палітычная праграма японскага імперыялізма, так сама як і праграма германскага фашызма, падобны тым, што маюць адзін агульны аб'ект сваёй экспансіі—СССР.

Агрэсіўныя выступленні японскага імперыялізма ў адносінах совецкіх рэспублік пачаліся яшчэ ў 1918—20 гг. Японскае войска заняло ўвесь совецкі Далёкі Ўсход да Байкала, японскі імперыялізм спрабаваў не толькі задушыць рэволюцыйны рух, але акупаваць агромную тэрыторыю совецкага Далёкага Ўсходу і пашырыць свой уплыў на Манголію і Сібір. Гэты план сарваўся, дзякуючы пераможнаму наступленню Чырвонай арміі і чырвоных партызан і з прычыны вострых супярэчнасцей, што ўзніклі паміж імперыялісцкімі краінамі на глебе дзеляжу захвачанай тэрыторыі. Вымушаны адступіць на свае астравы, японскі імперыялізм аніяк не адмаўляўся ад сваіх захватніцкіх планаў. Імперыялістычныя колы Японіі прадаўжалі планамерную падрыхтоўку сваіх узброеных сіл, а таксама стратэгічнага плацдарма ў Паўночнай Манчжурыі і ў Карэі для новага нападу на СССР.

Прадстаўнікі імперыялістычных колаў Японіі, выступаючы ў прэсе, адкрыта заяўлялі аб сваіх планах захватніцкай палітыкі. Так, напрыклад, яшчэ ў 1923 годзе, віднейшы ў Японіі ваенны публіцыст—Каіра Сато—у кнізе «Японія і Амерыка ў іх узаемных адносінах» накідаў такую схему раздзелу свету:

> «Англія павінна вярнуцца ў Афрыку і Індыю. ЗША могуць пашыраць сваю ўладу на паўночную і паўднёвую Амерыку, а Японія павінна атрымаць вярхоўную ўладу над Кітаем і рускімі ўладаннямі на Далёкім Усходзе».

Японскі прэм'ер-міністр барон Танака таксама ў 1927 г. у сваёй дакладной запісцы японскаму імператару пісаў:

> «Совецкая Расія з'яўляецца грозным для Японіі фактарам у адносінах рэволюцыйнага ўплыву на мышленне карэйскага і японскага народу».

Развіваючы свае планы аб захваце Манчжурыі і Манголіі, барон Танака адначасова паставіў пытанне і аб вайне з СССР:

> «У праграму нашага нацыянальнага росту ўваходзіць відавочна неабходнасць зноў скрыжаваць наш меч з Расіяй на палях Манчжурыі і Манголіі ў мэтах аўладання іх багаццямі. Манчжурыя і Манголія з'яўляецца для нас Бельгіяй Далёкага Ўсходу. У нашых войнах з Расіяй і з ЗША, мы павінны будзем прымусіць Манчжурыю і Манголію перанесці ўсе жахі вайны».

Закранаючы пытанне аб Манчжурыі, аб КУЧ і аб уплыве СССР на рэволюцыйны рух Манголіі і Карэі, Танака выдае свой страх перад растучым рэволюцыйным рухам у японскіх калоніях, Кітаі і ў самой Японіі. Нарэшце, у адносінах СССР ён прыходзіць к вываду:

> «Калі мы заглянем у будучае Японіі, то мы павінны прызнаць немінучасць вайны з Расіяй... Пакуль гэты скрыты рыф не будзе ўзорван, наш дзяржаўны карабль не зможа хутка плысці ўперад».

Прышоўшы да заключэння, аб немінучасці вайны з СССР, Танака накідаў у сваім дакладзе і агульную стратэгічную схему наступлення японскай арміі супроць СССР і Кітая:

«Мы павінны будзем мабілізаваць армейскія дывізіі ў Фукуока і Хіросіма і адправіць іх у Паўднёвую Манчжурыю праз Карэю. Мы пашлем армейскія дывізіі, што знаходзяцца ў Нагоя, морам у Паўночную Карэю і адтуль у Паўночную Манчжурыю. Армейскія дывізіі, што знаходзяцца ў Хоккайдо і Сендай, павінны будуць адправіцца морам з Аморы і Хакодакі ў Владзівасток і адтуль па Сібірскай дарозе (маецца на ўвазе Амурская чыгунка) і ў Харбін. Солунь-Тананьская чыгунка з ваеннага пункту погляду не толькі дазволіць нам пагражаць тылу совецкага Далёкага Ўсходу, але і пазбавіць Расію магчымасці падвозіць падмацаванні ў Паўночную Манчжурыю. Пабудаваўшы чыгунку Чаньчунь-Далай-Таонань, мы зможам ператварыць Далай у базу для наступлення на Сібір».

Гэтыя вытрымкі з дакладу барона Танака даволі ярка ілюструюць імперыялістычныя намеры японскіх кіруючых колаў у адносінах СССР. Японскі імперыялізм, акупаваўшы ў 31-32 г. Манчжурыю, пашоў па шляху, указанаму Танака. Ён захапіў Паўночную Манчжурыю, Жэхэ, падначаліў свайму кантролю ўнутраную Манголію і рыхтуецца выканаць другую частку праграмы—захапіць совецкі Далёкі Ўсход. Мангольскую народную рэспубліку і падначаліць свайму кантролю ўвесь Паўночны Кітай. У якасці паказчыка гэтай падрыхтоўкі, прывядзем некалькі цікавых дакументаў, апублікаваных у свой час у нашай газеце «Известия» ад 4 лютага 32 г. Аўтарамі гэтых дакументаў з'яўляюцца прадстаўнікі вышэйшых ваенных колаў Японіі. У адным з іх гаворыцца:

«Па пытанню аб тым, ці належыць Японіі пачаць вайну з Совецкім саюзам, ці не, лічу неабходным, каб Японія стала на шлях цвёрдай палітыкі ў адносінах Совецкага саюза, будучы гатовай пачаць вайну ў любы момант. Кардынальная мэта гэтай вайны павінна заключацца не толькі ў забяспецы Японіі ад комунізма, колькі ў аўладанні совецкім Далёкім Усходам і Ўсходнім Сібірам».

У другім дакуменце гаворыцца:

«Япона-совецкая вайна, прымаючы пад увагу становішча ўзброеных сіл СССР і становішча ў замежных дзяржавах, павінна быць праведзена як мага хутчэй. Мы павінны ўсвядоміць тое, што па меры праходжання часу абстаноўка робіцца ўсё больш спрыяючай для СССР. Я лічу неабходным, каб імператарскі ўрад павёў-бы палітыку з разлікам як мага хутчэй пачаць вайну з СССР».

У тым-жа дакуменце сказана:

«Зусім магчыма, што, не гледзячы на нашу стратэгію сакрушэння і імкнення да хуткай развязкі, у сілу розных умоў нам нельга будзе праводзіць вайну ў поўнай адпаведнасці з намечаным планам дзеянняў. Узнікае надзвычайнай важнасці пытанне аб канечным моманце нашых ваенных аперацый. Зразумела, нам трэба будзе здзейсніць прасоўванне да Байкальскага возера.

Што-ж датычыць далейшага наступлення на Захад, то гэта павінна быць вырашана ў залежнасці ад агульнай абстаноўкі, якая створыцца к таму часу, і асабліва ў залежнасці ад становішча дзяржаў, якія выступяць на Захадзе. У тым выпадку, калі мы спынімся на Забайкальскай чыгуначнай лініі, Японія павінна будзе ўключыць акупаваны Далёка-Ўсходні край поўнасцю ў склад уладанняў імперыі. На гэтай тэрыторыі наша войска павінна размясціцца ў парадку ваенных пасяленняў, г. зн. на доўгі час. Мы павінны быць гатовы к таму, каб, правёўшы гэтую акупацыю, мець магчымасць чакаць далейшага развіцця падзей. Паколькі Японіі будзе цяжка нанесці смяротны ўдар Савецкаму саюзу шляхам вайны на савецкім Далёкім Усходзе, адным з галоўнейшых момантаў нашай вайны павінна быць такая палітыка, шляхам якой магчыма будзе ўцягнуць суседзяў і іншыя дзяржавы ў вайну з СССР».

Яшчэ далей ідзе публіцыст Коміяцы, супрацоўнік газеты «Ніхон».

«Адзіны сродак дапамагчы Японіі—гэта адкрыць дзверы ў Сібір. Зараз лепшы час для ажыццяўлення гэтай праграмы. Чым хутчэй ажыццёвіцца праграма супроць СССР, тым лепш».

Паданы матар'ял з усёй відавочнасцю раскрывае ісцінныя намеры японскіх імперыялістычных колаў у адносінах савецкага Далёкага Ўсходу і Сібіру.

Такім чынам мы бачым, што славуты план барона Танака планамерна і метадычна праводзіцца ў жыццё, пры чым не малая частка яго—ужо пройдзены этап японскага імперыялізма.

Фактычны захват Японіяй Манчжурыі даў магчымасць ёй прысунуць свае войска ўшчыльную да савецкай граніцы.

Далей, японскі імперыялізм, захапіўшы ўсю чыгуначную сетку Манчжурыі, ставіць сваёй задачай таксама захват КУЧ, бо астаўленне КУЧ у сумесным кіраванні зусім не на-руку японскім імперыялістам. Сумеснае кіраванне КУЧ расстрайвае ўсю іх стратэгічную схему захвату Паўночнай Манчжурыі і схему дзеянняў прасоўвання на савецкі Далёкі Ўсход.

Пацверджаннем гэтага можа служыць вытрымка ўсё з таго-ж славутага мемарандума Танака:

«ПМЧ не адпавядае ўжо нашым мэтам. Улічваючы нашы цяперашнія патрэбы і нашу дзейнасць у будучым, мы павінны мець пад сваім кантролем усе чыгункі Паўночнай і Паўднёвай Манчжурыі. КУЧ стане нашаю, акурат так сама, як стала нашай ПМЧ».

Адсутнасць у Японіі мірных намераў у адносінах СССР пацвярджаецца яшчэ і фактам выхаду яе з Лігі нацый. Гэта акцыя ўжо даўно вызначана сусветным друкам, як імкненне Японіі развязаць сабе рукі для свабоднага ажыццяўлення сваіх азіяцкіх замыслаў. СССР, як вядома, пасля заключэння пактаў аб ненападзе з сваімі заходнімі суседзямі, звярнуўся з такой-жа прапановай і к Японіі. Гэты міралюбівы акт савецкага ўрада праследваў мэту захавання міру на Далёкім Усходзе. Аднак, японскі ўрад аднёсся да прапановы СССР адмоўна, заявіўшы, што для гэтага яшчэ няма ўсіх неабходных умоў.

Тым самым японскі ўрад прадэманстраваў усяму свету адсутнасць у Японіі мірных намераў у адносінах СССР.

Для нас пакуль невядома, ці замацаваны гэтыя праграмы—праграма японскага і праграма германскага імперыялізма—у якім-небудзь дагаворы ці не. Але бясспрэчна тое, што агульнасць інтарэсаў (барацьба з СССР кіруючых колаў германскага фашызма і японскай ваеншчыны) прыводзіць ужо да ўзаемнага падтрымання на справе. І вось гэта акалічнасць паслужыла повадам для іншых імперыялістычных дзяржаў (у першую чаргу тых, каму пагражае Германія і Японія) пераглядзець сваю палітыку і парашыць: ці выгадна для іх таксама вайна супроць СССР ці не і ці не акажацца згубным для іх той ці іншы вынік гэтай вайны? Адказ на гэтыя пытанні мы атрымаем пры разглядзе знешняй палітыкі дзяржаў, складаючых тую групу, якая на даным этапе міжнародных адносін схільна абараняць мір.

**Францыя**. Спробы кіруючых колаў Францыі каардынаваць свае дзеянні з Совецкім саюзам, накіраваныя на барацьбу за захаванне міру, ніяк не з'яўляюцца прызнакам асобых пачуццяў у адносінах краіны будуючагася соцыялізма. Францыя з'яўляецца капіталістычнай дзяржавай, варожа настроенай к комунізму. Але прагрэсуючае ўзмацненне германскага імперыялізма пачынае рэальна пагражаць усім пазіцыям, з такой цяжкасцю заваяваным французскім імперыялізмам за апошнія 20 год.

Знешне-палітычная праграма Гітлера, як запэўніваюць яго палітыкі, не прадугледжвае неадкладных ваенных дзеянняў супроць Францыі. Рука к Эльзасу будзе працягнута тады, калі 3-я імперыя ўзбагаціцца хоць-бы часткай набытага на Усходзе. Але, калі нават згадзіцца з тым, што гітлераўская Германія абмяжуецца ў першую чаргу заваёвамі на Ўсходзе і Паўднёвым Усходзе, або дапусцім, што Гітлер мае намер (як запэўнівае) мірным шляхам аб'яднаць Сярэднюю Еўропу, то і гэта ўжо будзе значыць звядзенне Францыі да дзяржавы другога ранга, поўнасцю залежнай ад германскага імперыялізма.

Далей, рэалізацыя ўсходніх замыслаў германскага фашызма, як адзначалася вышэй, вядзе або да знішчэння залежнай Польшчы, або падначалення яе германскаму ўплыву. У абодвух выпадках Францыя траціць не толькі саюзніка, але людскія і іншыя матар'яльныя сілы Польшчы, якія пры далейшым ажыццяўленні германскіх экспансіўных планаў, могуць быць з поспехам абернуты супроць той-жа Францыі. Францыя, улічваючы іменна гэтыя намеры, з першых дзён актыўна процідзейнічала ўсім спробам Гітлера знайсці тое ці іншае падтрыманне ў Парыжы для сваёй усходняй палітыкі.

Французская знешняя палітыка процідзеяння Германіі ў яе апошніх акцыях (дзеяннях) заключаецца ў тым, каб аб'яднаць вакол сябе дзяржавы, якім рэвізія Версальскага дагавора—г. зн. вайна—нічога добрага не абяцае.

Канцэнтруючы сваю дзейнасць іменна на гэтай ідэі, французскі міністр замежных спраў Барту прадпрыняў цэлы рад візітаў у суседнія дзяржавы з тым, каб высніць, дзе і наколькі Францыя можа разлічваць на падтрыманне сваёй палітыкі. Варшаўскі візіт, як нам вядома, аказаўся не зусім удалым. У польскіх кіруючых колах к таму часу ўжо наспелі погляды іншай арыентацыі. Але візіт у Румынію і Чэхаславакію даў станоўчыя вынікі. Далейшыя крокі, ужытыя Барту,

разлічаны былі на тое, каб прыцягнуць на свой бок таксама Італію і Юга-Славію. Аднак, на гэтым шляху аказаліся дваякія цяжкасці: першая заключаецца ў тэрытарыяльных спрэчках паміж Італіяй і Юга-Славіяй, з аднаго боку, і Юга-Славіяй і Балгарыяй—з другога. Праўда, гэтыя цяжкасці адносна лёгка абыйсці. Сафійскае спатканне двух каралёў (балгарскага і югаслаўскага ў канцы верасня гэтага года) было абумоўлена адмаўленнем Балгарыі ад сваіх прэтэнзій на югаслаўскую Македонію.

Што-ж датычыць італа-югаслаўскіх трэнняў, то (па агульнай думцы большай часткі французскага друку) мяркуюць, што, не гледзячы на буйныя затрудненні, усё-ж удасца дабіцца, калі не згоды паміж Італіяй і Малой Антантай, а ў прыватнасці Юга-Славіяй, то хоць-бы разраджэння атмасферы.

Але перасіленне другой цяжкасці на шляху арганізацыі міжнароднага супрацоўніцтва і міру каштавала жыцця двум дзяржаўным дзеячам.

Палітычнае забойства юга-слаўскага караля Александра і французкага міністра замежных спраў Барту з'яўляецца справай рук харватскай тэрарыстычнай арганізацыі, кіруемай харватскім нацыяналістам Антэ Павелічам. Гэта арганізацыя развівала сваю дзейнасць на тэрыторыі былой сваёй айчыны—Венгрыі. У яе праграму ўваходзіць аддзяленне Харватыі ад Юга-Славіі і стварэнне аўтаномнай харватскай дзржавы. Гэта праграма—у чым цяпер ніхто не сумняваецца—выпрацавана, вядома, не кучкаю харватскіх нацыяналістаў,—надхніцелямі яе з'яўляюцца гітлераўскія фашысты і венгерскія рэвізіяністы, якія мараць аднавіць даўнейшыя граніцы Венгрыі. Стварэнне-ж «незалежнай» Харватскай дзяржавы ёсць першы крок па гэтым шляху; пакуль справа дойдзе да будучых войн за вялікую Венгрыю—Харватыя павінна быць ператворана ў нейкі буфер.

Марсельскія падзеі лішні раз пераканалі Францыю ў тым, што яна
гэтых замыслаў, былі (ды і ёсць) сур'ёзнаю пагрозаю зрыву гэтых планаў. Трэба было якім-небудзь крыклівым жэстам перарваць палітыку Францыі, разлічаную на гэты раз на зближэнне Юга-Славіі з Італіяй. Але ў бяздарных руках рэвізіяністаў не аказалася ніякай палітычнай зброі, з якою можна было-б выступіць і парыраваць французскую палітыку. Прышлося прыбегнуць да самага прымітыўнага і разам з тым самага агіднага метада палітычнай барацьбы—да індывідуальнага тэрора. Варта падкрэсліць, што харватскія тэрарысты былі толькі зброяй больш сільных; іх рука накіроўвалася тымі, хто з першых дзён прыходу да ўлады Гітлера блакуецца з ім у барацьбе за аднаўленне сваіх былых граніц.

Марсельскія падзеі лішні раз пераканаліФранцыю ў тым, што яна ў пошуках прыхільнікаў міру не зможа іх знайсці ні ў Берліне, ні ў Будапешце, бо сувязь харвацкіх нацыяналістаў з гэтымі цэнтрамі аказалася занадта відавочнай.

Адмаўляючыся ісці ў нагу з германскім фашызмам, французскай дыпламатыі прышлося перагледзець сваю палітыку таксама і ў адносінах японскай агрэсіі на Далёкім Усходзе.

Не сакрэт, што Францыя ў пачатку манчжурскай акупацыі, належала да ліку абаронцаў японскага імперыялізма. Японафільская пазіцыя французскага імперыялізма аб'яснялася, у першую чаргу, жаданнем аслабіць Савецкі саюз, калі не сваімі сіламі, то рукамі японскіх мілітарыстаў. Аднак, як толькі ў Германіі на чале ўлады ака-

заліся фашысты, дзеянні якіх недвусэнсна ґаварылі аб падрыхтоўцы ваеннай развязкі, праяпонская пазіцыя Францыі пачынае мяняцца.

Справа ў тым (французскія кіруючыя колы гэта ўлічваюць), што як толькі пачнецца вайна Японіі супроць СССР, то Францыя немінуча акажацца ў ізаляваным адзіноцтве ў сілу таго, што яе былыя саюзнікі—Англія і Амерыка—вымушаны будуць сканцэнтраваць свае сілы на Далёкім Усходзе і, у выпадку неабходнасці, не змогуць даць тую ці іншую дапамогу сваёй былой саюзніцы—Францыі. А гэта стварыла-б для Германіі самыя спрыяючыя ўмовы, каб прымусіць Францыю, або згадзіцца з яе ўсходняй палітыкай (што ў пераносным сэнсе азначае капітуляцыю Францыі перад Германіяй), або ваяваць. Таму Францыя ў даных умовах не можа -быць старонніцай японскай агрэсіі супроць СССР, інакш яна сама аказалася-б пад пагрозай.

Вось асноўныя прычыны знешне-палітычнага характару, якія прымусілі Францыю стаць на шлях хоць-бы часовага адмаўлення ад вайны і захавання міру, на шлях далёка ідучага зблізкэння з Савецкім саюзам, як краінай магутнай у сэнсе ваенным, і як краінай, сапраўды праводзячай тую палітыку, да якой Францыя вымушана была прыбегнуць у сілу гістарычнага ходу сусветных падзей. У гэтым прычына згоды Францыі на падпісанне пакта аб ненападзе з СССР і адсюль—пачатак вялікай палітыкі, звязанай з усходнім пактам, праект якога быў складзен па ініцыятыве Францыі і СССР.

**Англія.** Лаяльныя адносіны брытанскага імперыялізма к пасляваеннай Германіі тлумачацца ў першую чаргу той акалічнасцю, што Германія, згубіўшая ўвесь свой морскі флот у час апошняй вайны, не прадстаўляе непасрэднай пагрозы для Англіі. Але, па меры таго, як Германія markedly рознымі шляхамі здолела давесці свае паветраныя ўзбраенні да размераў, пагражаючых англійскай безапаснасці, пачынае мяняцца і англійская палітыка ў адносінах Германіі.

Умацаванне авіяцыйнай магутнасці Германіі не дае ўпэўненасці Англіі ў тым, што германскі імперыялізм, пазбаўлены морскага флота, не будзе здолен нанесці ўдар Англіі, як астраўной дзяржаве. У сувязі з гэтым варта ўспомніць сімптаматычнае выступленне Балдуіна ў англійскім парламенце з заявай, што з гэтага часу граніцы абароны Англіі знаходзяцца не на скалах Дуўра, а на Рэйне. Сімптаматычна гэта заява таму, што яна пацвердзіла рост і дагэтуль назіраўшыхся тэндэнцый сумеснай антыгерманскай палітыкі з Францыяй. Аднак, мы яшчэ не маем падставы выступіць з адкрытай заявай, што Англія поўнасцю прымкнула да сучаснай французскай знешне-палітычнай сістэмы, тым больш, што паводзіны англійскага імперыялізма на Далёкім Усходзе на сёння не змяніліся. Знешне-палітычны курс Англіі ў святле агрэсіўных замыслаў Германіі, а Японіі ў асаблівасці, яшчэ не дастаткова вызначыўся, таму мы і гаворым, што ў Англіі тэндэнцыі захаваць існуючае становішча знаходзяцца ў зачаткавым стане. Тут палітыка пакуль яшчэ ваганняў і пошукаў новай арыентыроўкі.

**Італія.** Зблізкэнне Італіі з фашысцкай Германіяй адбылося не на аснове падобнасці дзяржаўных сістэм, а хутчэй на аснове рознагалоссяў паміж Італіяй і Францыяй. Нічога не атрымаўшая ў Версалі, Італія пачала дабівацца ад Францыі ўступкі некаторых каланіяльных тэрыторый, умацавання свайго ўплыву на Балканах і т. п., інакш кажучы, гэтыя патрабаванні называюцца патрабаваннямі рэ-

візіі Версальскага дагавора. Аказаўшыся ў ліку рэвізіяністаў, лёгка была знойдзена і база для італа-германскага зблiжэння.

Італія з першых дзён зблiжэння з Германіяй, недвусэнсна заявіла, што яна ні пры якіх акалічнасцях не дапусціць далучэння Аўстрыі да Германіі. Пытанне аншлюса і паслужыла яблыкам раздору. Германскі фашызм, вымушаны манеўраваць на Усходзе Еўропы з тым, каб аслабіць франка-польскі саюз, вымушаны часова адмовіцца ад прэтэнзіі на Калідор, пачаў фарсіраваць сваю дзейнасць за далучэнне Аўстрыі да Германіі. Першая спроба ў гэтым напрамку была арганізавана з тым, каб знутры захапіць уладу ў Аўстрыі. Гэта спроба, як нам вядома, скончылася толькі забойствам Дольфуса, не змяніўшы існуючага становішча. Аднак, з гэтага ўрока Італіі прышлося зрабіць вывад, што рэвізіяніецкія тэндэнцыі Германіі ў цэнтры Еўропы накіраваны ў першую чаргу супроць Італіі. З гэтага часу пачынаецца адыход Італіі ад Германіі і вышукваюцца шляхі для супрацоўніцтва з Францыяй. Першым повадам к гэтаму паслужыла пытанне аб забяспечанні незалежнасці Аўстрыі.

Пытанне аб Аўстрыі для Еўропы з'яўляецца пытаннем міру і вайны, таму ад вынікаў франка-італьянскай дагаворанасці па гэтаму пытанню і ад таго, наколькі далёка Францыя зможа пайсці насустрач іншым італьянскім патрабаванням (патрабаванне калоній і балканская палітыка), будзе залежаць далейшая пазіцыя Італіі. Дагаворанасці зараз тут яшчэ няма, але імкненне Італіі дагаварыцца з Францыяй супадае з антыгерманскім паваротам Лондана і падкрэслівае тэндэнцыю адыходу Італіі к Францыі. Ад узмацнення гэтай тэндэнцыі многае будзе залежаць таксама і ў пытаннях італа-савецкіх адносін, бо гэтыя адносіны былі-б надзвычай затруднены, калі-б Італія аказвала тое ці іншае падтрыманне германскаму фашызму, які паведаміў усяму свету аб барацьбе з Савецкім саюзам.

*Малая Антанта.* Чэха-Славакія, Юга-Славія, Румынія, якія прадстаўляюць сабой шматнацыянальныя краіны, раздзіраемыя ўнутранымі супярэчнасцямі, аказаліся таксама зацікаўленымі ў захаванні Версальскай сістэмы. Саюз гэтых трох дзяржаў, знешняя палітыка якіх ажыццяўляецца пад дырыжэрскую палачку Францыі, да мінулага года была накіравана ў асноўным супроць італьянскага імперыялізма, прэтэндуючага на пэўныя правы ў балканска-прыдунайскіх краінах. Аднак, з прыходам Гітлера к уладзе, Малая Антанта хутка пачала перабудоўваць сваю палітыку.

Першым адказам на прыход к уладзе ў Геманіі ваяўнічага фашызма, паставіўшага ў парадак дня вайну (рэвізію Версальскага дагавора) з'явілася скліканая нарада начальнікаў генштабаў і пазней— канферэнцыя міністраў замежных спраў дзяржаў Малой Антанты, закончыўшаяся падпісаннем так званага «арганізацыйнага пакта» аб рэарганізацыі Малой Антанты.

Згодна новаму пакту, знешняй палітыкай Юга-Славіі, Чэха-Славакіі і Румыніі будзе кіраваць пастаянны Совет у складзе міністраў замежных спраў усіх трох дзяржаў. Дзяржава, якая ўваходзіць у склад Малой Антанты, пры заключэнні якіх-небудзь міжнародных дагавароў, якія могуць змяніць сучаснае палітычнае становішча адной з гэтых краін, павінна атрымаць санкцыю Совета Малой Антанты і т. д.

Наступным крокам у гэтым напрамку было скарыстанне сітуацыі, створанай нацыянал-сацыялісцкім путчам у Аўстрыі. Спроба Германіі захапіць уладу ў Аўстрыі знутры была свайго роду аплявухай

для Італіі, якая мае свае інтарэсы ў аўстрыйскіх абласцях—Штырыі і Карантыі. Адыход Італіі ад Германіі і пагроза вайны з боку апошняй стварыла спрыяючую абстаноўку для зблiжэння Малой Антанты з Італяй. Аднак, зблiжэнне гэта будзе цалкам залежаць ад паспяховасці надыходзячых рымскіх перагавораў Францыі і Італіі, так раптоўна адтэрмінаваных апошнімі марсельскімі падзеямі.

Зацікаўленасць Малой Антанты ў захаванні існуючага палажэння ў Еўропе паслужыла асноўным аргументам для двух удзельнікаў Антанты—Румыніі і Чэха-Славакіі—прызнання СССР, краіны, якая, не з'яўляючыся ўдзельнікам Версальскага дагавора, таксама зацікаўлена ў захаванні міру.

**Лімітрофы.** Гісторыя знешняй палітыкі такіх дзяржаў як Эстонія, Латвія і Літва таксама багата фактамі пошукаў рознастайных шляхоў супрацоўніцтва з капіталістычнымі дзяржавамі.

Пагроза з боку Германіі і Польшчы, якія прэтэндуюць на тэрыторыі гэтых дзяржаў, і ўпэўненасць у тым, што СССР не мае намеру якіх-небудзь агульных дзеянняў з гэтымі дзяржавамі., даўно паставіла Латвію, Літву і Эстонію ў рады дзяржаў, якія вераць у шчырасць мірнай палітыкі СССР. Гэта лішні раз было пацверджана згодай на прадленне пактаў аб ненападзе, заключаных паміж СССР і гэтымі трыма дзяржавамі, на 10 год.

Далейшыя нашы мерапрыемствы, якія паследвалі за гэтым і накіраваны былі на ахову міру, таксама гавораць за тое, што наш знешнепалітычны курс астаецца нязменным. Лаяльныя адносіны да франкасавецкага праекта Ўсходняга пакта і ратыфікацыя «Балтыйскага пакта» аб узаемным супрацоўніцтве гавораць за тое, што гэтая група дзяржаў усвядоміла сабе, што рэалізацыя германскіх планаў немінуча вядзе к тэрытарыяльнаму знішчэнню кожнай з іх як дзяржавы, і што абарону трэба шукаць хутчэй за ўсё у той краіне, якая па сваёй соцыяльнай структуры з'яўляецца для іх чуждай, але палітыку праводзіць, зусім адпавядаючую патрабаванням мірнага супрацоўніцтва народаў.

У гэтай іменна сувязі і належыць разглядаць усе далёка ідучыя мерапрыемствы нашай дзяржавы, накіраваныя на ўмацаванне міру.

Знаходзячыся ў капіталістычным акружэнні, СССР, натуральна, не мог адмаўляцца ад неабходнасці скарыстоўваць унутраныя супярэчнасці імперыялістычных дзяржаў. Апошнія яшчэ больш абвастрыліся з прыходам у Германіі к уладзе Гітлера, а ў Японіі—генеральскіх клік. На фоне іменна гэтых падзей роля СССР, як важнага міжнароднага фактара міру, становіцца тым відавочней.

Пагроза японa-амерыканскай вайны прымусіла апошнюю перагледзець сваю палітыку ў адносінах СССР. 16 лістапада 1933 г. ЗША прызнаюць СССР «дэ-юрэ». Гэты гістарычны факт, маючы агромнае міжнароднае значэнне, не можа не адлюстроўвацца на далёка-ўсходніх падзеях і на Ціхім акіяне. Зблiжэнне ЗША і СССР адбылося іменна ў той момант, калі японская палітыка ў Манчжурыі і жаданне японскага ўрада павялічыць свае морскія сілы выклікала ў Амерыцы непакой за захаванне роўнавагі дзяржаў на Ціхім акіяне.

Расцэньваючы факт прызнання, як новы поспех савецкай мірнай палітыкі, нават буржуазныя газеты, у прыватнасці французскія, лічылі

прызнанне СССР Амерыкай «буйнейшай перамогаю Советаў, падрыхтаванай спакойнай, хладнакроўнай, мірнай палітыкай Сталіна».

Прадаўжаючы сваю дзейнасць усё ў тым-жа кірунку, СССР за апошні год многа ўнёс каштоўных прапаноў у скарбніцу міру: прадоўжанне пактаў аб ненападзе на 10 год з Польшчай і балтыйскімі дзяржавамі, падпісанне пактаў аб ненападзе з Францыяй і Румыніяй, совецкі праект аб усеагульным, поўным і неадкладным раззбраенні, лонданская канвенцыя аб вызначэнні агрэсара, совецкі праект рэзалюцыі аб эканамічным ненападзе, устанаўленне нармальных адносін з Малой Антантай—вось той багаж, з якім Совецкі саюз выступіў перад усім светам у абарону сваёй палітыкі міру.

Гэта не тэндэнцыя к захаванню міру, гэта—паслядоўная палітыка адмаўлення ад вайны, як сродку нацыянальнай палітыкі.

Зусім натуральна, што СССР знашоў не толькі спачуванне, але і падтрыманне тых дзяржаў, знешняя палітыка якіх схіляецца таксама к абароне міру.

Апошнімі важнымі падзеямі гэтага года, пацвярджаючымі нязменнасць нашага знешняга палітычнага курса, нават у гады ўзмацнеўшай магутнасці, з'яўляецца ўступленне СССР у Лігу нацый. Разглядаючы гэта, як факт развіцця совецкай знешняй палітыкі на даным этапе, варта адзначыць наступнае: непасрэдная пагроза з боку японскага і германскага імперыялізма значна змяніла міжнародную сітуацыю і выявіла новыя тэндэнцыі ў знешняй палітыцы тых буржуазных дзяжаў, якім новыя войны нічога добрага не абяцаюць.

Бясспрэчна, што ў асноўным характар Лігі нацый, к моманту ўступлення яе ў члены СССР, не змяніўся, але выхад з яе Германіі і Японіі гаворыць аб тым, што цяпер яна прадстаўляе тыя дзяржавы, у якіх тэндэнцыя к абароне міру пачынае ўсё больш пераважаць. Ці мае права СССР адмаўляцца яшчэ ад аднаго спрыяючага выпадку скарыстаць новую магчымасць для ажыццяўлення сваёй асноўнай палітыкі? Ясна, што не. Іменна, толькі для таго, каб узмацніць выявіўшыяся тэндэнцыі к міру, СССР і адказаў сваёй згодай на прапанову ўступіць ў члены Лігі нацый.

Уваходжанне СССР у Лігу нацый мы разглядаем, як факт развіцця нашай знешняй палітыкі на даным этапе, як фактар сілы і магутнасці Совецкага саюза, накіраваны на захаванне міру, як фактар ўнутранай сілы і магутнасці СССР.

Ленінскае вучэнне—умець скарыстоўваць усякія супярэчнасці імперыялізма ў інтарэсах Саюза—вось што кіравала і будзе кіраваць намі пры правядзенні нашай совецкай палітыкі міру.

---

**С. Пессэ**

# Окцябр і сусветная пролетарская рэволюцыя

На VII з'ездзе комуністычнай партыі Ленін у сувязі з абгаварэннем пытання аб заключэнні Брэсцкага міру гаварыў, што нам лягчэй пачаць рэволюцыю, але цяжэй яе закончыць, цяжэй яе прадаўжаць. Затое на Захадзе цяжэй пачаць рэволюцыю, лягчэй будзе яе прадаўжаць, лягчэй яе закончыць.

Што гэта значыць? Бясспрэчна, напярэдадні Окцябрскай рэволюцыі, ды і не толькі напярэдадні Окцябрскай рэволюцыі, а, скажам, нават напярэдадні 1905 года, Расія ўладала самым рэволюцыйным пролетарыятам у свеце, на чале якога стаяла большэвіцкая партыя, вылучыўшая са свайго асяроддзя такіх вялікіх людзей, як Ленін і Сталін. Чым гэта вытлумачыць? Чаму гэта ў Расіі, у краіне ўвогуле адсталай і ў сэнсе культурным, пролетарыят аказаўся рэволюцыйней, чым пролетарыят іншых, самых перадавых краін Еўропы і Амерыкі?

Расія ўступіла на шлях капіталістычнага развіцця пазней, чым іншыя краіны, але, уступіўшы пазней, яна развівалася быстрэй. Такі закон няроўнамернага развіцця капіталізма.

У канцы 19-га стагоддзя пад уплывам прытоку іншакраінных капіталаў у Расіі ўзнікаюць буйнейшыя прадпрыемствы, узброеныя перадавою тэхнікай.

Прыток замежных капіталаў надзвычай паскорыў гэты натуральны працэс развіцця капіталізма ў Расіі, выклікаўшы цэлы рад новых зрухаў і ў галіне ўзаемаадносін паміж класамі. Маса расійскіх рабочых, непасрэдна прышоўшых з вёскі, не распылялася, як гэта мела месца на Захадзе, паміж буйнымі, дробнымі і сярэднімі прадпрыемствамі, а канцэнтравалася ў асноўным на буйных прадпрыемствах.

Напярэдадні рэволюцыі 1905 г. у Расіі, напрыклад, да 25 проц. усёй масы рабочых сабрана было на прадпрыемствах-гігантах з колькасцю рабочых вышэй як 3000 чалавек. У Германіі ў гэты-ж перыяд на прадпрыемствах такога-ж размеру сканцэнтравана было толькі 10 проц. усёй масы пролетарыяў.

Рабочы клас у Расіі, будучы сканцэнтраваным у большай меры, чым на Захадзе, на прадпрыемствах-гігантах, атрымліваў аднак заработную плату, значна ніжэйшую, чым яго еўрапейскі і амерыканскі субрат.

Чым тлумачылася гэта выключна нізкая аплата працы расійскага пролетарыя? Яна тлумачылася наяўнасцю агромнай рэзервнай арміі працы, якая фармавалася за кошт расійскага сялянства, жорстка цярпеўшага ад малазямелля, непасільных налогаў і іншых перажыткаў феадалізма ў царскай Расіі.

У Расіі, у сілу спазнення буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі (буржуазна-дэмакратычная рэволюцыя разгарнулася ў нас у сілу раду гістарычных прычын к таму часу, калі Расія была ўжо звяном імперыялістычнага ланцуга і калі ў наяўнасці былі вострыя супярэчнасці паміж буржуазіяй і пролетарыятам), буржуазія не здольна была ўзначаліць сялянскую рэволюцыю, не здольна была вырашыць аграрнае пытанне.

У нас аграрнае пытанне, як адна з асноўных задач буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі, вырашана пролетарыятам „мімаходам“, „походя“ ў працэсе ажыццяўлення пролетарскай рэволюцыі. Гэта акалічнасць не магла не палегчыць пролетарыяту пры падтрыманні бяднейшага сялянства ўстанавіць сваю класавую дыктатуру.

Вельмі важным фактарам, абумовіўшым і палегчыўшым перамогу расійскага пролетарыята ў кастрычніку 1917 г., з'явілася магутнае падтрыманне, атрыманае ім з боку мільёнаў працоўных прыгнечаных нацыянальнасцей. Абманутыя „сваёй“ буржуазіяй, якая імкнулася, як гэта паказаў ход падзей паміж лютым і кастрычнікам, не да вызвалення „свайго народу ад нацыянальнага гнёту, а да свабоды выкалачвання з яго барышоў“ (**Сталін**), працоўныя прыгнечаных нацыянальнасцей з неапісуемым энтузіязмам узняліся на барацьбу „супроць улады буржуазіі, „сваёй“ і чужой, супроць імперыялізма наогул“ (**Сталін**).

Окцябрская рэволюцыя, вызваліўшая прыгнечаныя нацыянальнасці, паказала, што сапраўды поўнае вырашэнне нацыянальнага пытання нямысліма „без разрыву з імперыялізмам, без звяржэння буржуазіі прыгнятаемых нацыянальнасцей, без пераходу ўлады ў рукі працоўных мас гэтых нацыянальнасцей“ (**Сталін**).

Гэтыя акалічнасці, аднак, яшчэ не маглі-б забяспечыць трыумф Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі, каб у Расіі не было большэвіцкай партыі—партыі загартаванай у шматгадовых баях з апартуністамі, партыі, якая прашла школу рэволюцыі 1905 г., школу рэакцыі і вайны 1908—1917 гг. і школу лютаўскай рэволюцыі. Толькі дзякуючы правільнай тактыцы нашай партыі, здолеўшай забяспечыць Окцябрскай рэволюцыі падтрыманне агромнай большасці рабочага класа і рэволюцыйнага сялянства, аказалася магчымай такая параўнаўча лёгкая і бяскроўная перамога пролетарыята ў 1917 г.

Акрамя гэтых асноўных умоў у наяўнасці быў яшчэ рад іншых спрыяючых умоў, палегчыўшых перамогу расійскага пролетарыята ў кастрычніку 1917 г.

Ленін указваў на чатыры спецыфічныя ўмовы, якія вызначылі надзвычай арыгінальную сітуацыю 1917 г., сітуацыю, абумовіўшую для расійскага пролетарыята магчымасць „лёгка пачаць соцыялістычную рэволюцыю: 1) магчымасць злучыць савецкі пераварот з заканчэннем дзякуючы яму імперыялістычнай вайны, неймаверна змучыўшай рабочых і сялян; 2) магчымасць выкарыстаць на пэўны час смяротную барацьбу двух магутных груп імперыялістычных драпежнікаў, якавыя групы не маглі злучыцца супроць савецкага ворага; 3) магчымасць вытрымаць параўнаўча доўгую грамадзянскую вайну, часткова дзякуючы гіганцкім памерам і дрэнным сродкам зносін; 4) наяўнасць такога глыбокага буржуазна-дэмакратычнага рэволюцыйнага руху ў сялянстве, што партыя пролетарыята ўзяла рэволюцыйныя патрабаванні ў партыі сялян (с.-р. партыі, рэзка варожай у большасці сваёй большэвізму) і адразу ажыццявіла іх дзякуючы заваёве палітычнай улады пролетарыятам“. „Такіх спецыфічных умоў у Заходняй Еўропе цяпер няма,—пісаў далей Ленін,—і паўтарэнне такіх ці падобных умоў не надта лёгка. Вось чаму, між іншым,—паміма раду іншых прычын—пачаць соцыялістычную рэволюцыю ў Заходняй Еўропе цяжэй, чым нам“. Тав. Сталін з поваду гэтых заўваг Леніна пісаў: „Гэтых слоў Леніна забываць нельга“.

З акалічнасцей знешняга парадку, палегчыўшых Окцябрскі пераварот, трэба ўказаць яшчэ на „наяўнасць магутнага рабочага ў Еўропе

і на факт наспявання рэвалюцыйнага крызіса на Захадзе і Усходзе, створанага працяжнай вайною“; з акалічнасцей унутранага парадку— на адносную слабасць рускай буржуазіі, поўную расцеранасць і дэмаралізацыю памешчыцкага класа, а таксама разлажэнне соцыялзгодніцкіх партый, страціўшых якое-б там ні было давер‘е з боку мас.

Але тое, што нам палегчыла захват улады ў кастрычніку 1917 г. і дало магчымасць пачаць соцыялістычную рэвалюцыю, стварыла агромныя цяжкасці на другі дзень пасля яе захвату. Гэтыя цяжкасці, калі адцягнуцца ад небяспек, што пагражалі Совецкай рэспубліцы звонку, вынікалі з неабходнасці будаваць соцыялізм у краіне з распыленай, раздробленай сялянскай гаспадаркай, пастаянна і ў масавым маштабе параджаючай капіталізм.

Мы ўжо не гаворым пра тыя цяжкасці, якія звязаны былі з каласальнымі разбурэннямі і разрухай, прынесенымі імперыялістычнай вайною. Соцыял-шавіністы з II Інтэрнацыянала паспяшылі, вядома, аб‘явіць, што Окцябрская рэвалюцыя асуджана на немінучае паражэнне, што яна не з‘яўляецца пролетарскай рэвалюцыяй. Пры гэтым яны спасылаліся галоўным чынам на тыя цяжкасці, перад якімі апынуўся пролетарыят Совецкай рэспублікі пасля сваёй перамогі.

Каўцкі, напрыклад, гаварыў, маючы на ўвазе расійскі пролетарыят і большэвіцкую партыю, што нельга давяраць чалавеку весці поезд, калі гэты чалавек загадзя не прашоў школы кіравання паравозам, не авалодаў тэхнікай гэтага кіравання, інакш кажучы, як, моў, можа пролетарыят у адсталай краіне, пры наяўнасці распыленай, раздробленай сялянскай гаспадаркі, як ён можа забяспечыць рух рэвалюцыі ўперад, калі ён загадзя не навучыўся кіраваць гаспадаркай, кіраваць дзяржавай.

Большэвікі адказвалі Каўцкаму, што нельга навучыцца плаваць, не ўступіўшы ў ваду, нельга навучыцца ездзіць конна, не сеўшы спачатку на каня. Цяжкасці Окцябрскай рэвалюцыі ёсць цяжкасці соцыялістычнай рэвалюцыі. Трэба мець на ўвазе, што буржуазія не навучае пролетарыят кіраваць дзяржавай, не навучае яго кіраваць гаспадаркай. Складанасць пролетарскай рэвалюцыі і заключаецца якраз у тым, што пролетарыят можа навучыцца кіраваць гаспадаркай і кіраваць дзяржавай толькі пасля таго, як ён возьме ў свае рукі дзяржаўную ўладу. Соцыялізм узнікае і развіваецца толькі пасля таго, як пролетарыят бярэ ў свае рукі дзяржаўную ўладу. Іменна таму на другі дзень пасля захвату дзяржаўнай улады перад пролетарыятам паўстаюць агромныя па сваёй складанасці задачы арганізацыйнага характару.

Пролетарыят, адразу-ж пасля прыходу к уладзе, вымушан адначасова будаваць і вучыцца будаваць. Вазьміце хоць-бы пытанне кіравання дзяржавай. Ясна, што пролетарыят не можа выкарыстаць той апарат, бюракратычны чыноўніцкі апарат, якім карысталася буржуазія. Пролетарыят разрушае гэты бюракратычны чыноўніцкі апарат і стварае прынцыпова іншы тып дзяржаўнай улады, тып совецкай улады.

Іменна пра гэтыя агромныя па сваёй складанасці задачы арганізацыйнага парадку не раз гаварылі і т. Сталін і Ленін. Вось, што пісаў, напрыклад, у свой час з гэтага поваду Ленін:

„Адна з асноўных розніц паміж буржуазнай і соцыялістычнай рэвалюцыяй заключаецца ў тым, што для буржуазнай рэвалюцыі, якая вырастае з феадалізма, у нетрах старога ладу паступова ствараюцца новыя эканамічныя арганізацыі, якія змяняюць паступова ўсе бакі

феадальнага грамадства. Перад буржуазнай рэвалюцыяй была толькі адна задача—змясці, адкінуць, разбурыць усе путы ранейшага грамадства. Выконваючы гэтую задачу, усякая буржуазная рэвалюцыя выконвае ўсё, што ад яе патрабуецца: яна ўзмацняе рост капіталізма. У зусім іншым становішчы—рэвалюцыя соцыялістычная. Чым больш адсталай з'яўляецца краіна, якой прышлося, у сілу зігзагаў гісторыі, пачаць соцыялістычную рэвалюцыю, тым больш цяжкі для яе пераход ад старых капіталістычных адносін да соцыялістычных. Тут да задач разбурэння прыбаўляюцца новыя, нечуванай цяжкасці задачы—арганізацыйныя" (т. XXII, стар. 315).

Калі буржуазія прыходзіць к уладзе, то яна атрымлівае з рук прадстаўнікоў старога парадку гатовы апарат насілля і адразу-ж, не перарабляючы і не разрушаючы, накіроўвае яго супроць пролетарыята. Яшчэ да прыходу к уладзе буржуазія далучаецца ў пэўнай меры да кіравання дзяржавай і становіцца „капітанам індустрыі", бо яшчэ ў нетрах феадалізма развіваецца капіталізм.

Зусім у іншым становішчы знаходзіцца рабочы клас да заваёвы ім дзяржаўнай улады. Як-бы ні былі канцэнтраваны фабрыкі, як-бы ні былі яны дасканалы ў тэхнічных адносінах, але калі сродкі вытворчасці знаходзяцца ў руках капіталістаў, калі на чале ўлады знаходзіцца буржуазія, то гэтыя фабрыкі застаюцца фабрыкамі капіталістычнымі.

У 17-ю гадавіну Окцябрскай соцыялістычнай рэвалюцыі кожны рабочы, кожны калгаснік павінны даць сабе ясны і поўны адказ перш за ўсё ў той агромнай розніцы, у тым непраходным бяздонні, якое ляжыць паміж буржуазнай і соцыялістычнай рэвалюцыямі. Іменна гэтай агромнай розніцы ніколі не бачылі, не хацелі і не хочуць бачыць тэарэтыкі соцыял-фашызма з II Інтэрнацыянала, якія не толькі не адрозніваюць буржуазную і соцыялістычную рэвалюцыі, але наогул адмаўляюць на справе пролетарскую рэвалюцыю, змешваюць умовы развіцця капіталізма з умовамі развіцця соцыялізма. Так. Капіталізм можа расці ў нетрах феадалізма, можа расці таму, што паміж феадалізмам і капіталізмам ёсць адрозненне толькі ў формах класавага прыгнечання працоўных. Зусім іншымі з'яўляюцца суадносіны паміж капіталізмам і соцыялізмам. Іх аддзяляе адзін ад другога бяздонне. У нетрах капіталізма выспявае не соцыялізм, а падрыхтоўваюцца толькі ўмовы і прадпасылкі соцыялістычнай рэвалюцыі.

Толькі соцыял-фашысцкія лідэры II Інтэрнацыянала могуць сцвярджаць такую контррэвалюцыйную лухту, што на якой-небудзь перадавой у тэхнічных адносінах фабрыцы ў Амерыцы больш соцыялізма, чым дзе-небудзь на менш перадавой у тэхнічных адносінах фабрыцы ў СССР. Для соцыял-фашыстаў соцыялізм вычэрпваецца высокай ступенню канцэнтрацыі вытворчасці, высокай ступенню яе тэхнічнай дасканаласці, яны, так сама як у свой час буржуазныя эканамісты, не бачаць, што за „станам рэчаў" крыюцца адносіны паміж людзьмі. На самой справе соцыялізм—гэта такая сістэма, пры якой адсутнічаюць класы, няма эксплаатацыі і прыгнечання.

Рашаючым пры вызначэнні характару той ці іншай рэвалюцыі з'яўляецца пытанне аб тым, які з класаў знаходзіцца за рулём дзяржаўнай улады. І нават калі ў краіне пераважаюць распыленыя, раздробленыя дробна-таварныя сялянскія гаспадаркі, але на чале ўлады стаіць рабочы клас, кіруемы комуністычнаю партыяй, клас, у руках якога знаходзяцца камандныя высоты народнай гаспадаркі, то, як гэта паказаў 17-гадовы вопыт нашай рэвалюцыі, не толькі магчыма

будаўніцтва соцыялізма, але магчыма і яго канчатковая перамога, магчыма соцыялістычная перадзелка мільёнаў мас сялянства. Тым часам, калі ў руках рабочага класа не знаходзіцца дзяржаўная ўлада, то нават пры ўмове самага высокага развіцця прадукцыйных сіл немагчыма будаўніцтва соцыялізма.

У артыкуле па гэтаму пытанню Ленін з повадў запісак Суханава пісаў:

„Калі для стварэння соцыялізма патрабуецца пэўны ўзровень культуры (хоць ніхто не можа сказаць, якой гэты пэўны „ўзровень культуры"), то чаму нам нельга пачаць спачатку з заваёвы рэволюцыйным шляхам прадпасылак для гэтага пэўнага ўзроўню, а потым ужо, на аснове рабоча-сялянскай улады і совецкага ладу, рушыць даганяць другія народы".

„Для стварэння соцыялізма,—гаворыце вы,—патрэбна цывілізаванасць. Вельмі добра. Ну, а чаму мы не маглі спачатку стварыць такія прадпасылкі цывілізаванасці ў сябе, як выгнанне памешчыкаў і выгнанне расійскіх капіталістаў, а потым ужо пачаць рух к соцыялізму? У якіх кніжках прачыталі вы, што падобныя відазмены звычайнага гістарычнага парадку недапушчальны або немагчымы?"

Ітак, цяжкасці, якія паўстаюць перад пролетарыятам на другі дзень пасля захвату ўлады, гэта—цяжкасці соцыялістычнай рэволюцыі. І той факт, што на працягу 17 год, прайшоўшых з часу Окцябрскай соцыялістычнай совецкай рэволюцыі, мы здолелі, ідучы па соцыялістычным шляху, пераможна перасіліць большасць гэтых цяжкасцей, з'яўляецца нічым іншым, як вялікім трыумфам вучэння Леніна—Сталіна і поўным правалам контррэволюцыйных „тэорый" соцыялфашыстаў.

Такі-ж правал пацярпелі правыя апартуністы і трацкісты, якія базіраваліся па сутнасці на адмаўленні соцыялістычнага характару Окцябрскай рэволюцыі і магчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Уся гэта палітыка пацярпела поўны крах. Трацкізм, прадаўжаючы адстойваць сваю пазіцыю і стаўшы на адкрыты шлях контррэволюцыйнай барацьбы з партыяй і совецкаю ўладай, даўшы буржуазіі зброю ў яе барацьбе з пролетарскай рэволюцыяй, ператварыўся ў перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі.

Окцябрская рэволюцыя была соцыялістычнай совецкай рэволюцыяй. Мы павінны з усёю сілаю падкрэсліць гэта адзіна правільнае значэнне сутнасці Окцябрскай рэволюцыі.

Трэба сказаць, што, нажаль, у нашых падручніках, у нашых праграмах мы часцяком чытаем пра „вялікую" французскую рэволюцыю, пра „новы парадак", які ўстанавіўся пасля гэтай рэволюцыі. Пасля таго, як адбылася сапраўды Вялікая Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя, зусім няправільнай і не адпавядаючай рэчаіснасці становіцца такая тэрміналогія, якая характарызуе французскую рэволюцыю, як „вялікую".

Нам пара ўжо адмовіцца ад гэтай тэрміналогіі, запазычанай з буржуазных кніг і падручнікаў, нам трэба адмовіцца цяпер называць „новым парадкам" той парадак, які ўстанавіўся пасля французскай буржуазнай рэволюцыі. Новы парадак устанавіўся толькі пасля вялікай соцыялістычнай совецкай рэволюцыі. З таго моманту, як перамагла вялікая соцыялістычная совецкая рэволюцыя і ўстанавіўся сапраўды новы совецкі парадак, не можа быць гутаркі пра „вялікую" французскую рэволюцыю, нельга гаварыць пра „новы парадак" пасля перамогі гэтай буржуазнай рэволюцыі.

Окцябрская рэволюцыя 1917 г. у Расіі, будучы рэволюцыяй соцыялістычнай, дала ў рукі пролетарыята дзяржаўную ўладу—гэту важнейшую прадпасылку для будаўніцтва і завяршэння соцыялізма—адкрыла разам з тым эру сусветнай пролетарскай комуністычнай рэволюцыі.

Окцябрская рэволюцыя, як пачатак, першы этап сусветнай пролетарскай рэволюцыі, выклікала не толькі магутны ўздым рэволюцыйнай пролетарскай хвалі ў перадавых капіталістычных краінах, не толькі забяспечыла моцную аснову і развіццё III Комуністычнага Інтэрнацыянала з яго секцыямі ва ўсіх капіталістычных краінах, але разбудзіла таксама ад адвечнай спячкі каланіяльны Усход.

„Вялікае сусветнае значэнне Окцябрскага перавароту,—пісаў т. Сталін яшчэ ў 1918 г.,—у тым, галоўным чынам, і заключаецца, што ён:

1. расшырыў рамкі нацыянальнага пытання, ператварыўшы яго з прыватнага пытання аб барацьбе з нацыянальным гнётам у агульнае пытанне аб вызваленні прыгнечаных народаў калоній і паўкалоній ад імперыялізма;

2. адкрыў шырокія магчымасці і сапраўдныя шляхі для гэтага вызвалення, чым значна палегчыў прыгнечаным народам Захаду і Усходу справу іх вызвалення, уцягнуўшы іх у агульнае рэчышча пераможнай барацьбы з імперыялізмам;

3. перакінуў тым самым мост паміж соцыялістычным Захадам і зняволеным Усходам, пабудаваўшы новы фронт рэволюцый ад пролетарыяў Захаду праз расійскую рэволюцыю да прыгнечаных народаў Усходу супроць сусветнага імперыялізма.“

Усе буйнейшыя рэволюцыйныя бойкі на Захадзе і Усходзе, меўшыя месца за мінулыя 17 год з часу Окцябрскай рэволюцыі, з'яўляюцца па сутнасці звеннямі аднаго вялікага рэволюцыйнага ланцуга, пачаткам і асноўным звяном якога з'яўляецца Окцябрская соцыялістычная совецкая рэволюцыя.

Аказваючы агромнае ўздзеянне самым фактам свайго існавання і сваімі перамогамі ўнутры краіны на развіццё рэволюцыйнага руху ў капіталістычных краінах, Окцябрская соцыялістычная рэволюцыя чэрпала і чэрпае сваю магутнасць у той гераічнай дапамозе, якую яна атрымлівае з боку працоўных усяго свету.

Праўда, у Заходняй Еўропе, Амерыцы і на Усходзе, за выключэннем раду правінцый у Кітаі, пролетарская рэволюцыя яшчэ не перамагла, і меншавіцкім контррэволюцыйным ныцікам гэта акалічнасць служыць невычэрпнаю крыніцай для злораднага шыпення аб правале вучэння Маркса—Леніна—Сталіна. Гэтыя асуджаныя гісторыяй на звалку ў памыйніцу людзі, вядома, не могуць зразумець таго факта, што перамогі сусветнай пролетарскай рэволюцыі знаходзяць сваё выражэнне ў тым велічным і імклівым паступальным руху ўперад к соцыялізму, які робіць наша краіна—радзіма пролетарыяў усяго свету.

Самым выдатным з пункту погляду развіцця сусветнай пролетарскай рэволюцыі з'яўляецца тое, што на працягу 17 год, перамогшы ў адной краіне, пролетарыят пад кіраўніцтвам большэвікоў пратрымаўся ў гэтай краіне ў акружэнні капіталістычнага свету; выдатным з'яўляецца тое, што мы не толькі пратрымаліся, але што мы раслі і расцем, што мы адбілі спачатку адкрытыя ўзброеныя напады, перамаглі ў грамадзянскай вайне, а потым перамаглі на фронце гаспадарчым, дабіліся таго, што соцыялізм у нашай краіне перамог канчаткова.

А хіба не з'ўляецца паказчыкам росту сіл сусветнай пролетарскай рэволюцыі той факт, што сусветная буржуазія аказалася вымушанай

прызнаць законным і нармальным суіснаванне побач з гінучай капіталістычнай сістэмай растучую социялістычную сістэму. У гэтым—у канчатковым выніку—найглыбейшае значэнне ўсіх прызнанняў, якіх дабіўся Совецкі саюз за апошнія гады; у гэтым—найглыбейшы сэнс уступлення СССР у Лігу нацый па запрашэнню капіталістычных краін.

Мы не зачыняем вачэй на тыя агромныя цяжкасці, якія стаяць перад пролетарскай рэволюцыяй на Захадзе і ў Амерыцы. Компартыям на Захадзе не ўдалося пакуль яшчэ заваяваць на свой бок большасці рабочага класа і ператварыць мільённыя масы працоўнага сялянства ў рэзерв змагаючагася пролетарыята. Яшчэ далёка не ўвесь пролетарыят ў капіталістычных краінах усвядоміў здрадніцкі характар социял-фашысцкіх „тэорый“ аб магчымасці мірнага перарастання капіталізма ў социялізм, не ўсвядоміў яшчэ ўсёй безгрунтоўнасці нацыянал-фашысцкай дэмагогіі.

І ўсё-ж ідэя штурма спее ў свядомасці пролетарскіх мас капіталістычных краін.

Возьмем Германію, дзе на даным этапе перамог фашызм. Якім чынам у Германіі—краіне з магутным развіццём рабочага і комуністычнага руху—мог перамагчы фашызм? Чаму германскія рабочыя не здолелі ў свой час прадухіліць фашысцкі пераварот? Чаму комуністычная партыя не заклікала, непасрэдна пасля фашысцкага перавароту ці ў час яго, рабочых да паўстання, да захвату дзяржаўнай улады? Ці не ёсць гэта паказчык слабасці германскай компартыі, паказчык бяссілля германскага пролетарыята? Ні ў якой меры. Компартыя Германіі зберагла рэволюцыйную энергію пролетарыята, зберагла для таго, каб выкарыстаць гэту энергію ў абстаноўцы, калі гэта будзе выгадна не для фашызма, а для справы рэволюцыі.

Компартыя Германіі не магла не ўлічваць таго факта, што к моманту фашысцкага перавароту большасць германскага пролетарыята не была яшчэ на баку комунізма. Тлетворны ўплыў социял-фашызма, які прапаведваў „тэорыю найменшага зла“, яшчэ далёка не быў зжыты.

Аднак, гітлераўскі „рай“ вельмі многаму навучыў нямецкіх рабочых. Ён дапамог нават самым адсталым слаям пролетарыята разабрацца ў пытанні аб тым, хто з'яўляецца сапраўдным выражальнікам інтарэсаў рабочага класа.

Вазьміце хоць-бы такі факт, як распаўсюджванне комуністычнай газеты „Ротэ фанэ“. Яна выходзіла да фашысцкага перавароту і распаўсюджвалася ў колькасці 36 тыс. экз., зараз-жа пасля фашысцкага перавароту „Ротэ фанэ“ распаўсюджвалася ў колькасці 300 тысяч экз. Хіба гэта не з'яўляецца паказчыкам таго, што германская рэволюцыя жыве? Мы маем цэлы рад фактаў, калі масы социял-дэмакратычных рабочых пераходзяць на бок комуністычнай партыі. На змену тысячам арыштаваных актывістаў-комуністаў прыходзяць новыя тысячы рабочых комуністаў, якія самаахвярна вядуць партыйную работу. На некаторых прадпрыемствах рабочыя вядуць забастовачную барацьбу і аказваюць стойкае супраціўленне фашыстам. А хіба не гаворыць аб сіле комунізма ў Германіі той факт, што ва ўмовах найвялікшага тэрора фактычна пяць мільёнаў чалавек галасавала супроць Гітлера пры выбарах прэзідэнта? І, нарэшце, сам фашызм у Германіі ўжо даў першую трэшчыну.

Фашызм, з'яўляючыся найбольш адкрытаю формай дыктатуры імперыялістычнай буржуазіі, аказаўся ў канфлікце са сваёй масавай дробна-буржуазнай базай. Расстрэлы кіраўнікоў штурмавых атрадаў—гэта яшчэ не разгром фашызма, але гэта пачатак яго крызіса. У штур-

мавых атрадах, побач з яўна рэакцыйнымі элементамі, сабраны былі тысячы дробных буржуа, якія разарыліся або напоўразарыліся, тысячы беспрацоўных, якія паддаліся на вудачку фашысцкай дэмагогіі. Год прабывання фашыстаў на чале ўлады пераканаў значную частку гэтых людзей у безгрунтоўнасці і ілюзорнасці абяцанак Гітлера.

„З кастрычніка 1933 г. па сакавік 1934 г. не менш 25 тысяч штурмавікоў, члены адборнай арганізацыі (SS) і члены фашысцкіх заводскіх арганізацый падвергліся арышту, былі накіраваны ў концлагеры і выключаны з фашысцкіх арганізацый. У атрадах адкрыта абмяркоўвалі палітыку фашысцкага кіраўніцтва, здзекаваліся над прывітаннямі „Хэйль Гітлер“, рвалі партрэты Гітлера і знішчалі яго ізабражэнні...

У красавіку 1934 г. у адным з раёнаў Берліна, Вільгельмсдорфе, быў склікан пазачарговы сход штурмавікоў. Начальнік атрада выступіў з прамовай, якая пачыналася наступнымі словамі:

„Я павінен пакаяцца перад вамі, я сволач, негадзяй, я абмануў вас, бо я слепа давяраў такой сволачы, як Геббельс“.

На працягу 15 мінут ён гаварыў пра хлуслівасць нацыянал-соцыялісцкага кіраўніцтва і пра тое, як нацыянал-соцыялісты абманваюць рабочых. Потым ён выняў з кішэні рэвальвер і тут-жа на вачах усіх застрэліўся.

Не трэба пераацэньваць значэння чэрвеньскіх падзей у Германіі. Трэба прызнаць, што Гітлеру ўдалося ауладаць становішчам і разграміць носьбітаў ідэі „2-ой нацыянальнай рэволюцыі“. Але падзеі 30 чэрвеня ўсё-ж з'яўляюцца грозным напамінкам фашысцкай дыктатуры Гітлера аб тым, што глеба пад ёю хістаецца, што ідэя штурму спее не толькі ў свядомасці мас, але што і ўнутры фашысцкай цытадэлі ўтварылася сур'ёзная палітычная трэшчына. У кожным разе, зусім бясспрэчна, што масавы базіс фашысцкай партыі, які дапамог фашыстам стаць на чале ўлады, які даў ім магчымасць ауладаць дзяржаўным апаратам, разграміць усе партыі, знішчыць рабочыя арганізацыі, правесці нечуваны тэрор супроць усіх антыфашыстаў, асабліва супроць комуністаў, што гэты базіс у пэўнай меры стаў перашкодай правядзення плана буйнай буржуазіі—ператварыць германскіх рабочых у бязвольных рабоў.

Трыумф фашысцкай рэакцыі ў Германіі—цяжкі ўдар для ўсяго міжнароднага рэволюцыйнага руху. Але, „как тяжкий млат, дробя стекло, кует булат“, так і фашызм, разграміўшы легальныя пролетарскія і комуністычныя арганізацыі ў Германіі, разам з тым разбіў і соцыял-дэмакратычныя ілюзіі ў рабочых, канчаткова выкрыў гнусную контррэволюцыйную ідэю аб тым, што можна мірным шляхам забяспечыць трыумф соцыялізма. І калі цяпер падымуцца германскія рабочыя, а яны бяспрэчна падымуцца, няма сумнення ў тым, што яны пойдуць на новы штурм пад кіраўніцтвам і сцягамі комуністычнай партыі, пойдуць арганізавана на барацьбу за ўстанаўленне сваёй класавай дыктатуры шляхам узброенага паўстання.

Возьмем другую краіну, у якой не так даўно мела месца рэволюцыйнае выступленне рабочых. Возьмем Аўстрыю, распаложаную ў цэнтры Еўропы. Нельга недаацэньваць таго, што адбылося ў гэтай маленькай буржуазнай краіне. Яна распаложана ў самым цэнтры Еўропы, а мы ведаем, што калі пажар пачынаецца ў цэнтры, ён пагражае захапіць усю перыферыю і трудна паддаецца ліквідацыі. Аднак, у Аўстрыі паўстанне аказалася падаўленым, падаўленым перш за ўсё таму, што большасць аўстрыйскага пролетарыята не вызвалілася

яшчэ з-пад уплыву аўстрыйскай соцыял-дэмакратыі, якая прапаведвала права пролетарыята толькі на абарону супроць рэакцыі, але рашуча выказалася супроць пераходу ад абароны да нападу. Іменна вось гэта тэорыя абароны адыграла ў пэўным сэнсе ракавую ролю для выніку паўстання аўстрыйскіх рабочых. У ходзе паўстання быў момант, калі даволі было сігнала к наступленню, каб вынік паўстання аказаўся іншым, але шуцбундаўцы, выхаваныя ў духу Отто Баўэраўскай тэорыі абароны, тапталіся на месцы. Гэта дало магчымасць буржуазіі сабрацца з сіламі, і паўстанне было падаўлена.

Іншае паражэнне, як у свой час выказваўся Маркс і неаднакроць гаварыў Ленін, варта добрай перамогі. У рэзультаце разгрому паўстання аўстрыйскіх рабочых значная частка шуцбундаўцаў, слепа давяраўшых свайму здрадніцкаму і труслівамy соцыял-фашысцкаму кіраўніцтву, перашла на бок комунізма. Усім вядома выдатная адозва аўстрыйскіх шуцбундаўцаў, у якой яны рвуць са сваім соцыял-дэмакратычным кіраўніцтвам, салідарызуюцца з комунізмам.

Компартыя Аўстрыі пасля падаўлення паўстання аўстрыйскіх рабочых павялічыла лік сваіх членаў **у тры разы**. Хіба гэта не знаймавальны факт?

Тое, што адбылося ў Аўстрыі,—гэта авангардны бой, у якім расстрэльваюцца апошнія соцыял-дэмакратычныя ілюзіі рабочых, бой, у якім, не гледзячы на паражэнне, закладзена новае пераможнае паўстанне аўстрыйскіх рабочых **пад адзіным непадзельным кіраўніцтвам компартыі**.

Тав. Сталін у рабоце „Окцябрская рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў" указваў, што непадзельнае кіраўніцтва **адной** партыі—партыі комуністаў—з'явілася адной з важнейшых умоў перамогі Окцябрскай рэволюцыі ў Расіі.

„Наўрад ці трэба даказваць,—пісаў тав. Сталін,—што без гэтай асаблівасці тактыкі большэвікоў перамога дыктатуры пролетарыята ў абстаноўцы імперыялізма была-б немагчыма. Гэтым выгадна адрозніваецца Окцябрская рэволюцыя ад рэволюцыі 1871 г. ва Францыі, дзе кіраўніцтва рэволюцыі дзялілі паміж сабою дзве партыі, з якіх ні адна не можа быць названа комуністычнай партыяй".

Некалькі слоў пра падзеі ў Іспаніі.

Што з'яўлялася повадам да ўзброенага паўстання іспанскага пролетарыята? Повадам з'явіўся факт запрашэння ўрадам Леруса (таго Леруса, які тады быў адным з віднейшых прадстаўнікоў іспанскага анархізма) у склад урада староннікаў фашызма. Правакацыйны ход іспанскай буржуазіі спаткаў гераічнае супраціўленне з боку працоўных мас Іспаніі. Трэба сказаць, што к моманту паўстання іспанскія рабочыя аказаліся больш арганізаванымі і адзінымі, чым аўстрыйскія рабочыя. Іспанскія рабочыя здолелі своечасова зрабіць вывады з урокаў германскіх і аўстрыйскіх падзей.

К моманту паўстання іспанскія рабочыя мелі кіруючы цэнтр, створаны ў выніку правільнага правядзення комуністамі Іспаніі тактыкі адзінага фронта ў мэтах аказання ўзброенага адпору на выпадак фашысцкага перавароту. Толькі дзякуючы наяўнасці такой арганізацыі аказалася магчымым тое гераічнае супраціўленне, якое аказалі іспанскія рабочыя фашысцкай рэакцыі.

У Іспаніі рабочыя не абмежаваліся толькі абаронай. Яны ў радзе месц перашлі ў наступленне. Сям-там дабіліся захвату ўлады, стварылі чырвоную гвардыю і ў радзе пунктаў нанеслі паражэнне ўрадавым войскам. І ўсё-ж паўстанне іспанскіх пролетарыяў пацярпела пара-

жэнне. Чаму? Па-першае, таму, што іспанскія рабочыя яшчэ не вызваліліся ў поўнай меры ад анарха-сіндыкалісцкіх ілюзій, што нібы можна перамагчы, не захапіўшы ў свае рукі дзяржаўную ўладу. Па-другое, таму, што іспанскіх рабочых недастаткова падтрымала вёска. Па-трэцяе, таму, што армія, не гледзячы на адмаўленне паасобных вайсковых часцей выступіць супроць рабочых, засталася вернай ураду. І, нарэшце, па-чацвертае, таму, што кіраўніцтва рухам знаходзілася ўсё-ж не толькі ў руках комуністаў, але і соцыялістаў.

Іспанскія рабочыя, нажаль, не толькі не вызваліліся яшчэ ад анарха-сіндыкалісцкіх ілюзій, але не пераканаліся яшчэ ў здрадніцкай ролі соцыялістаў. Апошнія, улічыўшы нарастаючы рэволюцыйны ўздым у Іспаніі, быстра перамянілі сваю палітычную арыентацыю. Правадыр іспанскіх соцыялістаў Кабальеро, які ў свой час быў дарадцай пры фашысцкім дыктатары Прымо дэ-Рывера, аб'явіў сябе староннікам дыктатуры пролетарыята. Адна з італьянскіх соцыялістак, напярэдадні паўстання, выступіла нават з такою заявай:

„У сучасны момант ёсць толькі адна дылема—Рым або Масква. Іспанскі пролетарыят ужо выбраў сабе дарогу, і ніхто яго затрымліваць не будзе. Нам гавораць, што трэба падумаць пра тое, што адбывалася ў Аўстрыі. На гэта я адказваю: думайце пра тое, што адбылося ў Расіі".

Іспанскія соцыялісты, баючыся страціць свой уплыў у масах, пад напорам растучай цягі да адзінства з боку мас вымушаны былі пайсці на згоду з комуністамі і прыняць удзел у арганізацыі ўзброенага адпору фашыстам. Мы, вядома, не можам давяраць такім людзям, як Кабальеро, але іх фальшывыя заявы безумоўна сведчаць аб магутным росце рэволюцыйных настрояў рабочых, прымушаючых соцыялістаў гаварыць іншаю мовай.

Іспанская рэволюцыя яшчэ далёка не разгромлена.

„Буржуазія заганяе тэрарыстычнымі мерапрыемствамі нездаволенасць мас углыб. Але іменна гэтым яна ствараэ ўмовы для выбухаў агромнай сілы, якія могуць паскорыць кожны момант тэмпы нарастання рэволюцыйнага крызіса. Гэты момант „нечаканасці" і „раптоўнасці" рэволюцыйных выбухаў з'яўляецца асабліва характэрнаю рысай для ўсёй сучаснай абстаноўкі" (Мануільскі).

Яшчэ не вядома, чым закончыцца мужнае супраціўленне іспанскіх гарнякоў у гарах Астурыі, але адно бясспрэчна, што новая хваля іспанскай рэволюцыі будзе праходзіць у значна большай ступені, чым папярэдняя, пад кіраўніцтвам компартыі.

Таксама як і аўстрыйскае паўстанне, апошняя рэволюцыйная хваля ў Іспаніі—гэта авангардны бой надыходзячага другога тура войн і рэволюцый. Трэба думаць, што к таму часу, калі авангардныя баі перарастуць у генеральны бой паміж буржуазіяй і пролетарыятам, апошні, улічыўшы ўрокі авангардных баёў пад адзіным непадзельным кіраўніцтвам компартыі, даб'ецца рашучай перамогі. Падрыхтоўка да гэтай рашаючай бойкі ідзе ва ўсім свеце. Яна знаходзіць сваё выражэнне акрамя тых авангардных баёў, якія адыграліся ў радзе еўрапейскіх краін, таксама ў гераічным супраціўленні 300-тысячнай кітайскай чырвонай арміі, якая адбівае шостае па ліку наступленне нанкінскіх войск; яна знаходзіць сваё выражэнне ў поспехах тактыкі адзінага фронта ў тых краінах, дзе фашызм яшчэ не перамог.

Тактыка адзінага фронта дасягнула асаблівых поспехаў ва Францыі, дзе комуністычная партыя, у выніку правільнага яе прымянення, дабілася заваёвы на свой бок новых соцень і тысяч сваіх староннікаў

з асароддзя пролетарыята і забяспечыла агромны рост рэволюцыйнага энтузіязма сярод рабочых.

Уступаючы ў згоду з соцыялістамі, у мэтах адзінства дзеянняў рабочых супроць фашызма, небяспекі вайны і зніжэння жыццёвага ўзроўню працоўных мас (гэтых жыватрапечучых пытанняў, блізкіх і зразумелых кожнаму рабочаму) комуністы выходзяць з таго факта, што соцыял-фашысты маюць яшчэ значныя сувязі ў рабочым класе, што ў радзе краін змяніліся да некаторай ступені адносіны да іх буржуазіі, якая шукае выхаду з тупіка, народжанага крызісам, у фашысцкай дыктатуры.

Комуністы таксама выходзяць з таго факта, што за апошні перыяд, у сувязі з растучай пагрозай вайны і фашысцкай небяспекай, соцыялісты ў паасобных краінах, імкнучыся захаваць свой уплыў на масы, у сваю чаргу сталі пераходзіць у апазіцыю буржуазным урадам, якія патураюць фашыстам, громяць у радзе выпадкаў не толькі комуністычныя, але і соцыял-фашысцкія арганізацыі.

Але комуністы, вядома, ні на мінуту не забываюць аб здрадніцкай ролі соцыял-фашыстаў, якія расчысцілі шлях к фашысцкай дыктатуры ў той-жа самай Германіі, не забываюць урокаў Венгерскай Комуны, калі ў самы адказны момант соцыялісты здрадзілі Венгерскую Комуну.

Праводзячы тактыку адзінага фронта на пэўных умовах, комуністы поўнасцю захоўваюць сваю арганізацыйную незалежнасць і палітычны твар. Праўда, згода з соцыялістамі мяркуе рад уступак з боку комуністаў, але гэтыя ўступкі цалкам узмяшчаюцца тымі агромнымі поспехамі ў практычным руху, якіх дабіваюцца комуністы, дзякуючы правядзенню тактыкі адзінага фронта.

Тактыка адзінага фронта разлічана на аб'яднанне комуністаў і соцыял-дэмакратычных рабочых знізу. Яна разлічана на выкрыццё соцыял-дэмакратычных вярхоў, якія на словах ратуюць за барацьбу супроць фашызма, а на справе сабатуюць гэтую барацьбу. Яркім прыкладам такога сабатажа можа служыць фактычнае адмаўленне II Інтэрнацыянала прыняць прапанову Комінтэрна аб арганізацыі сумеснай дапамогі змагаючамуся іспанскаму пролетарыяту. Іменна гэта здрадніцкая роля соцыял-фашызма, ускрываемая дзякуючы правільнаму прымяненню тактыкі адзінага фронта комуністамі, лішні раз гаворыць аб агромным значэнні гэтай тактыкі ў барацьбе за заваёву на бок комунізма большасці рабочага класа.

Ітак, ва ўсім свеце мы маем, з аднаго боку, узмацненне фашысцкай рэакцыі, а, з другога боку, нарастанне адпору гэтай рэакцыі. Разам з тым ва ўсім свеце нарастае пагроза новай імперыялістычнай вайны, нарастае пагроза нападу на Савецкі саюз. Сусветны эканамічны крызіс выбіў з каляіны капіталістычную гаспадарку і парушыў сусветныя гаспадарчыя сувязі. У галіне эканамічнай усё мацней пачалі праяўляцца імкненні паасобных нацыянальных дзяржаўных арганізмаў да аўтаркіі, г. зн. да такога гаспадарчага ўкладу ў краіне, які можа існаваць незалежна ад замежнага вывазу і ўвозу. Гэта не магло не выклікаць актывізацыі ў гэтых краінах ваяўнічага шавінізма, які складае сарцавіну фашысцкай рэакцыі. У асаблівасці гэта сказалася ў Германіі, дзе крызіс працякаў у асоба цяжкіх формах, а таксама і ў Японіі.

Тав. Радэк у сваім артыкуле аб уступленні СССР у Лігу нацый зусім правільна ўказваў, што калі багацейшыя імперыялістычныя дзяржавы мелі значныя рэзервы для таго, каб вытрымаць удары крызіса; калі Злучаныя Штаты Амерыкі мелі перспектыву заваёвы

новых рынкаў пры дапамозе пазык, што прадастаўляліся Паўднёвай Амерыкай, Кітаю; калі Францыя мела перспектыву разгортвання прадукцыйных сіл у сваёй агромнай каланіяльнай імперыі; калі Англія магла спадзявацца паменшыць сваю залежнасць ад сусветнага рынку, які ўвесь час скарачаецца, пры дапамозе лепшага выкарыстання ўнутрыімперскіх сувязей,—то такіх перспектыў не было ні ў Германіі, ні ў Японіі. Германія з прамысловасцю, якая знаходзіцца на ўзроўні амерыканскай тэхнікі, даволі магутнай, каб абслужыць значную частку сусветнага рынку, з прамысловасцю, трэцяя частка якой працавала на сусветны рынак, знаходзілася перад перспектывай, што магутныя канкурэнты з дапамогаю пазыкі, узмацняючы адначасова свае пазіцыі развіццём сваёй каланіяльнай базы, выцесняць яе з сусветнага рынку.

Японія—краіна, у якой крызіс капіталізма надзвычай абвостран перажыткамі феадалізма, непараўнальна больш буйнымі, чым у іншых краінах; краіна, якая не мае накапленняў, выстарчальных для вывазу капітала, які мог-бы памерацца з амерыканскім; краіна, якая не ўладае неабходнай магутнасцю цяжкай прамысловасці—ішла насустрач развіццю, якое павінна было немінуча паменшыць яе ўдзельную вагу на кантыненце Азіі.

І Японія і Германія ставяць пытанне аб перадзеле свету. Фашысцкі пераварот у Германіі, будучы перш за ўсё адказам на нарастаючую пагрозу комунізма, з'яўляецца разам з тым і яркім паказчыкам арыентоўкі германскага імперыялізма на вайну. Германія зараз быстра ўзбройваецца. Яна ўжо зараз прадстаўляе сабой грозную ваенную сілу. Францыю не можа не непакоіць узмацненне ўзброеных сіл Германіі, бо французская буржуазія дасканала разумее, што ўсякае ўзмацненне Германіі, хоць-бы яно ішло за кошт экспансіі Германіі на Усход, аслабляе пазіцыі Францыі ў Еўропе. Іменна таму Францыя шукае збліжэння з Совецкім саюзам і падтрымлівае на даным этапе палітыку міру, якую праводзіць СССР.

З-за баязні, што канфлікт паміж Японіяй і СССР развяжа рукі Германіі, Францыя зараз не схільна падтрымліваць агрэсіўн я намеры японскіх імперыялістаў супроць СССР. А што напад Японіі на СССР развязаў-бы рукі Германіі—гэта вельмі добра разумеюць у Германіі.

Адзін з германскіх фашыствуючых публіцыстаў зусім справядліва заўважае:

„Усякае ўзмацненне Японіі звязвае еўрапейскія вялікія дзяржавы па-за Еўропай. Гэта не датычыць толькі Германіі, бо яна не мае ніякіх палітычных інтарэсаў ва Усходняй Азіі і на Ціхім акіяне". „Хіба мы зацікаўлены ў тым,—піша далей гэты фашыствуючы літаратар,—каб абараняць становішча іншых еўрапейскіх вялікіх дзяржаў? Наша становішча стварае нашу зацікаўленасць у росце ўсякай пазаеўрапейскай дзяржавы, бо яно звязвае сілы нашых суседзяй і вызваляе нямецкія сілы. Усякае ўзмацненне Японіі, як самай буйнай пазаеўрапейскай дзяржавы, азначае ўзмацненне нямецкай пазіцыі, азначае вядомае вызваленне нашых сіл, асабліва пасля збліжэння СССР і Францыі."

Мы бачым, такім чынам, што Германія шукае блока з Японіяй для нападу на СССР. Германія разлічвае, што вайна Японіі з СССР звяжа па руках і нагах Англію і Злучаныя Штаты Амерыкі, інтарэсы якіх будуць, бясспрэчна, закрануты на Далёкім Усходзе. Францыя акажацца ізаляванай. Іменна гэтым імкненнем ізаляваць Францыю тлумачацца тыя агромныя ўступкі (праўда, пакуль што славесныя),

на якія пашоў германскі імперыялізм для таго, каб дабіцца згоды з Польшчай. Гэтым тлумачацца тыя інтрыгі, якія вядзе германскі імперыялізм у Юга-Славіі і т. д.

Цяжка сказаць, наколькі германскаму імперыялізму ўдасца дабіцца поспеху ў правядзенні гэтай лініі. Мінулы год прынёс цэлы рад паражэнняў нямецкай дыпламатыі.

Інтрыгі германскіх фашыстаў у Аўстрыі адштурхнулі ад Германіі Італію.

Англія таксама не асабліва схільна падтрымліваць Германію. Гэта ярка сказалася ў тых адносінах, якія праявіла Англія к пытанню аб заключэнні Усходняга Лакарно і к пытанню аб уступленні СССР у Лігу нацый. Англійскі імперыялізм не можа не быць занепакоеным узмацненнем магутнасці германскага паветранага флота. Балдуін палічыў неабходным заявіць у палаце абшчын, што граніцы Англіі знаходзяцца не на скалах Дувра, а на Рэйне, г. зн. на граніцы паміж Францыяй і Германіяй.

Акурат таксама і японскі імперыялізм—саюзнік германскага—пацярпеў цэлы рад няўдач у сваёй знешняй палітыцы. Нават Англія, старадаўняя саюзніца Японіі, хістаецца ў падтрыманні японскага імперыялізма, апетыты якога прасціраюцца так далёка, што яны непасрэдна закранаюць англійскія інтарэсы.

Мы не гаворым ужо аб пазіцыі Злучаных Штатаў Амерыкі, інтарэсы якіх даволі бесцарамонна ўшчымляюцца японскім імперыялізмам у Азіі.

Японскія і германскія імперыялісты прыкладаюць усе намаганні к таму, каб распаліць пажар вайны. Яны прабуюць за кошт СССР вырвацца з тупіка, у які загнаў іх крызіс. Але супярэчнасці паміж імперыялістычнымі дзяржавамі так вялікі, што і японскі і германскі імперыялізм, не гледзячы на тое, што астрыё іх ваяўнічых замыслаў накіравана супроць СССР, аказваюцца ізаляванымі ў „канцэрце“ вялікіх дзяржаў свету.

Справе міру безумоўна пагражае сур'ёзная небяспека. Яна з асаблівай сілай праявілася ў стрэлах, раздаўшыхся нядаўна ў Марселі. Гэтыя стрэлы напомнілі ўсяму свету аб стрэлах у Сараеве, паслужыўшых у свой час повадам да імперыялістычнай вайны ў 1914 г.

Бясспрэчна, што страляўшы імкнуўся не толькі забіць югаслаўскага караля, але і загнаць клін паміж Юга Славіяй і Францыяй. А якраз у гэтым можа быць зацікаўлена толькі фашысцкая Германія, якая, як мы ўжо ўказвалі вышэй, вядзе агромную работу для таго, каб адарваць ад Францыі яе саюзнікаў.

Ва ўсякім разе не можа быць выпадковым той факт, што цэнтр харвацкай нацыяналістычнай агітацыі знаходзіўся ў Германіі і што гэта агітацыя вялася пры ўскосным падтрыманні самага ярага ворага Совецкага саюза—ідэолага фашыстаў Розенберга.

Супярэчнасці паміж імперыялістычнымі драпежнікамі надзвычай вялікі. Совецкі саюз будзе ўсямерна выкарыстоўваць гэтыя супярэчнасці ў інтарэсах справы міжнароднага пралетарыята, у інтарэсах справы захавання міру.

Кіруючыся задачай умацавання міру, Совецкі саюз уступіў у Лігу нацый. Само сабою зразумела, што асноўны характар Лігі нацый, як арганізацыі капіталістычных дзяржаў, не змяніўся. Але, паколькі з Лігі нацый вышлі Японія і Германія - краіны, якія ставяць з раз пытанне аб новым перадзеле свету; паколькі ў Лізе нацый адыгрывае кіруючую ролю Францыя—краіна, якая зараз не зацікаўлена ў вайне,

Ліга выступае на даным этапе, як арганізацыя дзяржаў, зацікаўленых у захаванні міру.

Іменна пастолькі мы рашылі падтрымаць Лігу нацый, захоўваючы свой твар краіны зусім іншай соцыяльна-эканамічнай сістэмы. Гэта вельмі добра выразіў т. Літвінаў, сказаўшы ў гутарцы з іншакраіннымі карэспандэнтамі, што „СССР у Лізе нацый збіраецца танцаваць пад сваю ўласную музыку".

Аб магчымасці падтрымання Лігі нацый, як пэўнага тормаза, які можа затрымаць узнікненне ваенных дзеянняў або перашкодзіць ім, тав. Сталін гаварыў яшчэ ў снежні мінулага года ў гутарцы з карэспандэнтам амерыканскай газеты „Нью-Ёрк Таймс" панам Дзюранці? На пытанне Дзюранці—„Ці заўсёды выключна адмоўна ваша пазіцыя ў адносінах Лігі нацый?"—тав. Сталін адказаў:—„Не, не заўсёды і не пры ўсякіх умовах. Вы, бадай, не разумееце наш пункт погляду. Не гледзячы на выхад Германіі і Японіі з Лігі нацый—або можа быць іменна пагэтаму,—Ліга можа стаць некаторым тормазам для таго, каб затрымаць узнікненне ваенных дзеянняў ці перашкодзіць ім. Калі гэта так, калі Ліга зможа аказацца нейкім бугарком на шляху к таму, каб хоць-бы некалькі затрудніць справу вайны і аблегчыць у некаторай ступені справу міру,—то тады мы не супроць Лігі. Так, калі такім будзе ход гістарычных падзей, то не выключана, што падтрымаем Лігу нацый, не гледзячы на яе каласальныя недахопы".

Але ў нас няма ніякай упэўненасці ў тым, што наперакор палітыцы міру, якую праводзіць СССР, выбухне новая кровапралітная бойня. У нас тым больш няма ніякай гарантыі ў тым, што імперыялістычныя акулы не папрабуюць згаварыцца за кошт СССР і арганізаваць супроць нас новую інтэрвенцыю.

„Наўрад ці можна сумнявацца, што гэтая вайна будзе самай небяспечнай для буржуазіі вайною. Яна будзе самай небяспечнай не толькі таму, што народы СССР будуць драцца на смерць за заваёвы рэволюцыі. Яна будзе самай небяспечнай для буржуазіі яшчэ таму, што вайна будзе адбывацца не толькі на франтах, але і ў тылу ў праціўніка. Буржуазія можа не сумнявацца, што шматлікія прыяцелі рабочага класа СССР у Еўропе і Азіі пастараюцца ўдарыць у тыл сваім прыгнятальнікам, якія зацеялі злачынную вайну супроць бацькаўшчыны рабочага класа ўсіх краін. І хай не скардзяцца на нас паны буржуа, калі яны на другі дзень пасля такой вайны не далічацца некаторых блізкіх ім урадаў, цяпер благапалучна царствуючых „міласцю божыяй" (Сталін).

**А. Зюзькоў.**

# Барацьба беларускіх нацдэмаў супроць Окцябра

З велізарнымі дасягненнямі сустракаем мы семнаццатую гадавіну Окцябра.

Усё вышэй, з кожным годам вышэй узнімаецца наша бацькаўшчына грознаю для ўсіх буржуа скалою сярод капіталістычнага свету, які б'ецца ўціскях крызіса.

Перадавая ў палітычных адносінах краіна—СССР—становіцца самай перадавой і ў эканамічных адносінах.

Але вораг не складае зброі, вораг імкнецца ўсялякім чынам перашкодзіць нашаму росту:

> «Іменна таму, што яны паміраюць і дажываюць апошнія дні, яны будуць пераходзіць ад адных форм наскокаў да другіх, больш рэзкіх форм наскокаў, апелюючы да адсталых слаёў насельніцтва і мабілізуючы іх супроць совецкай улады» **(Сталін).**

У БССР таксама рэштки разбітага ворага імкнуцца падняць галаву, прыкрываючыся часцяком фальшыва-нацыянальным флагам. Звязаныя з інтэрнацыяналісцкімі планамі фашыстаў і нацыянал-фашыстаў за мяжою, разгромленыя групы нацдэмаў, бундаўцаў, вялікадзяржаўнікаў ідуць на ўсякую погань, на ўсякае шкодніцтва, каб аслабіць дыктатуру пролетарыята.

> «Няма такой погані і паклёпу, якую-б гэтыя былыя людзі не ўзвялі на совецкую ўладу і вакол якой не паспрабавалі-б мабілізаваць адсталыя элементы» **(Сталін).**

Каб абмануць і мабілізаваць у сваіх контррэвалюцыйных мэтах адсталыя масы, нацдэмы імкнуцца прыкінуцца і ў сучасным і ў мінулым нашымі «прыяцелямі». З гэтаю мэтай яны займаюцца фальсіфікацыяй гісторыі нашага рэвалюцыйнага мінулага, каб працягнуць свой кантрабандны багаж.

Наша задача—сістэматычна выкрываць гэтых фальсіфікатараў, паказаць сапраўдную ролю нацдэмаў, паказаць, што беларускія нацдэмы знаходзіліся па той бок барыкад, вялі шалёную барацьбу разам з сваімі класавымі заказчыкамі, разам з капіталістамі супроць дыктатуры пролетарыята, супроць Окцябрскай рэволюцыі.

* *
*

Падрыхтаваная ўпартай барацьбой большэвікоў Лютаўская рэволюцыя змяла прагніўшы будынак царызма. Але ў той час, як рабочыя і сяляне вялі барацьбу супроць сіл царызма, як па вуліцах буйных цэнтраў Расіі—Петраграда і Масквы—яшчэ грымелі баі, буржуазія

арганізоўвалася, каб захапіць уладу ў свае рукі. Пры дапамозе здраднікаў—меншавікоў і эсэраў—буржуазіі гэта ўдалося зрабіць. У той-жа час арганізуецца і беларуская буржуазія, ведучы за сабой на павадку і ўсе нацыяналістычныя партыі.

Буржуазія Беларусі ўжо да Лютаўскай рэволюцыі мела свае арганізацыі. Імперыялістычная вайна, якая жабракамі раскідвала па Расіі мільёны сялян і рабочых, была вельмі прыбытковаю справай для буржуазіі і памешчыкаў.

Мясцовая буржуазія за час вайны разам з агульна-расійскай буржуазіяй нажывалася на розных пастаўках для арміі, на вырабе для патрэб арміі рознага ваеннага знаражэння.

Ужо к канцу 1915 г. амаль уся прамысловасць Беларусі так ці інакш была прыстасавана да патрэб абароны».

Разам з гэтым, вайна дала магчымасць і больш арганізавацца буржуазіі нацыянальнай. Ужо з 1916 г. пачалі ўзнікаць розныя камітэты, дзе канцэнтравалі свае сілы мясцовая буржуазія, канкураваўшая з рускай буржуазіяй, якая прысвойвала найбольшую частку прыбыткаў. Гэта канкурэнцыя не перашкаджала разам рабіць вайну прыбытковаю справай і для нацыянальнай буржуазіі. Але для таго, каб адваяваць сваю частку прыбыткаў, нацыянальная буржуазія стварала і свае арганізацыі. Так, быў створан «Беларускі бежанскі камітэт», «Камітэт дапамогі раненым яўрэйскім воінам» і т. д. Такім чынам і беларуская буржуазія падыходзіла да Лютаўскай рэволюцыі, маючы свае арганізацыі.

З гэтых арганізацый пасля Лютаўскай рэволюцыі мясцовая буржуазія і памешчыкі пачалі работу па ўтварэнню больш шырокіх «агульна-нацыянальных» інстытутаў (спачатку «Беларускага нацыянальнага камітэта», а пазней—«Беларускай рады»).

Лютаўская рэволюцыя ў Расіі акрыліла надзеі розных нацыяналістаў.

> «Права нацый на самавызначэнне тлумачылася як права нацыянальнай буржуазіі на акраінах узяць уладу ў свае рукі і скарыстаць Лютаўскую рэволюцыю для стварэння «сваёй» нацыянальнай дзяржавы.
>
> Далейшае развіццё рэволюцыі не ўваходзіла, ды і не магло ўваходзіць, у разлік упомненых вышэй буржуазных інстытутаў» *).

І сапраўды, няма чаго і гаварыць аб тым, што ўсе нацыяналістычныя партыі, як БСГ, беларускія эсэры і т. д., якія складалі асноўныя кадры розных «беларускіх камітэтаў» і, пазней, «Беларускай рады» нават і не ставілі, ды і не маглі ставіць пытання аб далейшым разгортванні рэволюцыі, аб перарастанні яе ў соцыялістычную хоць-бы таму, што яны да Лютаўскай рэволюцыі ішлі, як і ўся буржуазія Расіі, на здзелку з царызмам. Усе беларускія, як і наогул усе буржуазныя і дробнабуржуазныя, вялікадзяржаўныя і нацыяналістычныя партыі, выходзіліся на тым, што рэволюцыя скончана. Цяпер асноўчым было для ўсіх нацыяналістаў—дабіцца як мага большай самастойнасці па шляху да ўтварэння сваёй буржуазнай дзяржавы.

Якава-ж была праграма беларускіх нацыяналістаў? Асноўнаю іх мэтай было захаванне капіталізма. Гэтай мэты нацдэмы дабіваліся ўсялякімі шляхамі, скарыстоўваючы ў прыватнасці фальшыва-нацыянальны флаг, атручваючы масы ядам нацыяналізма.

*) *Сталін.* „Марксізм і нацыянальна-каланіяльне пытанне", Стар. 51.

Беларускія нацыяналісты аб'ядналіся 25 сакавіка 1917 г. на з'ездзе нацыянальных арганізацый у адзіны «Нацыянальны камітэт». Тут былі і прадстаўнікі БСГ, лічыўшыя сябе левымі, і памешчык Скірмунт, і ксёндз Гадлеўскі. Грашыма дапамагаў «на беларускія справы» і князь Радзівіл, хоць ён і быў абраны ў «Нацыянальны камітэт». Такое аб'яднанне адразу адштурхнула ад сябе масы беларускіх рабочых і сялян. Тым больш адштурхвала рэвалюцыйныя масы праграма «Нацыянальнага камітэта».

У сваёй дэкларацыі «Нацыянальны камітэт» першым пунктам паставіў пытанне аб «аўтаноміі ў межах Расіі», другім—аб свабодзе рэлігіі, унёсшы ў гэты пункт і заклік да «стварэння адзінай беларускай культуры». І толькі трэцім пунктам стаяла пытанне аб зямлі, ды і то з агаворкай, што «аграрнае пытанне вырашыць Устаноўчы сход». Такім чынам, адно з галоўнейшых для сялян пытанняў «Нацыянальны камітэт» адкладваў на доўгі час. Пра вайну гаварылася глуха—«без анексій і кантрыбуцый», а пра тое, калі яе скончыць,— ні слова *). У звароце да Часовага ўрада беларускі нацыянальны з'езд выразіў сваё жаданне прадаўжаць вайну: «З'езд... выражае сваю гатоўнасць падтрымаць Часовы расійскі ўрад у яго барацьбе са знешнім ворагам за свабоду Расіі»... Не выгадна было панам з «Нацыянальнага камітэта» канчаць вайну, бо яна давала не малы прыбытак!

Таму быў праў Менскі камітэт сялянскага саюза на чале з т. Фрунзе, прыняўшы наступную пастанову:

> «1. «Беларускі нацыянальны камітэт» ні ў якім разе не можа быць прызнан выражальнікам думкі ўсяго беларускага народу і не мае права гаварыць ад яго імя, бо беларускі народ у асобе сваіх працоўных класаў—сялян і рабочых—у работах нацыянальнага з'езда ніякага ўдзелу не прымаў.
>
> 2. «Беларускі нацыянальны камітэт», з'яўляючыся па свайму складу арганізацыяй маёмасных слаёў землеўладальнікаў, а па характару сваіх выступленняў чыста нацыяналістычным, пагражае інтарэсам сялян і рабочых імкненнем адарваць іх, на глебе ўзмоцнена падаграваемага нацыяналізма, ад працоўных мас усёй Расіі і падначаліць ідэйнаму кіраўніцтву памешчыкаў».

Далей Камітэт сялянскага саюза заяўляе, што будзе весці бязлітасную барацьбу з «Нацыянальным камітэтам», бо дзейнасць яго можа павесці да «розні ў радах працоўнага народу і тым перашкодзіць яму дабіцца карэнных змен яго эканамічнага і палітычнага становішча» **).

Такім быў адказ сялян на спробу нацдэмаў яшчэ ў пачатку рэвалюцыі 1917 г. адарваць рабочых і сялян Беларусі ад рэвалюцыйнага руху. Але недалёка ад «Нацыянальнага камітэта» адышла і «Беларуская сацыялістычная грамада», якая пазней нацдэмаўскімі фальсіфікатарамі выстаўлялася, як кіраўнік рабочых і сялян, як арганізатар (!) БССР і нават папярэднік КП(б)Б. Ужо за дзейнасць «Нацыянальнага камітэта», большасць якога складалі члены БСГ, апош-

*) „Новое варшавское утро“ ад 3 чэрвеня 1917 г.

**) „Минский голос“ № 2396, ад 6 красавіка 1917 г.

ныя павінна адказваць. Але паглядзім, што БСГ прыняла на сваёй канферэнцыі 7 красавіка (25 сакавіка).

Першым чынам канферэнцыя БСГ выказалася за падтрыманне Часовага ўрада. Па пытанню аб вайне канферэнцыя БСГ, верная інтарэсам памешчыкаў і капіталістаў, выказалася за прадаўжэнне вайны:

> «Канферэнцыя БСГ лічыць вайну ў сучасны момант вайной рэволюцыйнай Расіі з германскім мілітарызмам, маючай на мэце абараніць здабытую вялікай рэволюцыяй свабоду ад замахаў звонку». —

Такім чынам БСГ і па пытанню аб вайне, і па пытанню аб Часовым урадзе выказалася ў тым-жа духу, што і «Нацыянальны камітэт» з памешчыкам Скірмунтам на чале.

Тое самае і з аграрным пытаннем: канферэнцыя выказалася за тое, каб «неадкладна прыняцца за дэтальную распрацоўку аграрнага пытання». Каб не было сумнення ў тым, на чыю карысць будзе «распрацоўвацца» аграрная праграма, канферэнцыя пастанавіла, што «канчаткова вырашыць зямельнае пытанне і спосаб (!) пераходу зямлі к народу Краёвы сойм аўтаномнай Беларусі».

Гэта значыць, што эсэры прапанавалі пачакаць з вырашэннем зямельнага пытання да Ўстаноўчага сходу, а грамадаўцы дапаўнялі:— пачакайце Ўстаноўчага сходу, які, магчыма, вырашыць пытанне аб аўтаноміі Беларусі, а потым *пачакайце да збору Краёвага сойма, які* як-небудзь вырашыць пытанне аб зямлі. Акрамя таго грамадаўцы яшчэ бяруць пад сумненне і тое, якім «спосабам» зямля будзе «пераходзіць к народу»! Для грамадаўцаў яшчэ вялікае пытанне—ці пяройдзе зямля к сялянам бясплатна, г. зн. шляхам канфіскацыі без выкупу, ці можа, каб не пакрыўдзіць Радзівілаў і Скірмунтаў, трэба будзе ім заплаціць. А каб «народ» не разабраў зямлі сам, раней чым «вырашыць» аграрнае пытанне краёвы сойм, канферэнцыя БСГ дапісала:

> «У сучасны момант канферэнцыя арганізацый БСГ асуджае неарганізаваныя (!) анархічныя выступленні на глебе аграрных адносін, лічачы неабходным прыняць усе захады да хутчэйшай арганізацыі сялянства» (г. зн. спынення захвату зямлі) *).

Так БСГ ішла на павадку ў памешчыка Скірмунта, князя Радзівіла, ксяндза Гадлеўскага і т. д.

У барацьбе з большэвікамі БСГ яшчэ да Окцябра салідарызуецца з вялікадзяржаўнікамі кадэтамі, з вялікадзяржаўным кулацкім «Сялянскім саюзам **), да якога далучыўся «Нацыянальны камітэт».

Так, на з'ездзе прадстаўнікоў беларускіх арганізацый, у ліпені, грамадавец у адказе на прывітанне кадэта Самойла салідарызаваўся ад імя з'езда з кадэтамі. Гэты-ж з'езд горача сустрэў заклік прадстаўніка кулацкага «Сялянскага саюза» аб'яднацца для барацьбы супроць большэвікоў, бо «большэвікі адабралі беларускае сялянства і ад вас і ад нас» ***).

Каб ясней уявіць сабе пазіцыю найбольш буйнай сярод іншых беларускіх партый—партыі «Беларускай соцыялістычнай грамады»

---

*) Газета „Единство" № 12 ад 13 красавіка 1917 г.

**) „Сялянскі саюз"—кулацкую вялікадзяржаўную арганізацыю—нельга блытаць з „Камітэтам сялянскага саюза", рэзалюцыя якога прыведзена вышэй. Гэты камітэт далучыўся да Выканаўчага камітэта Совета сялянскіх дэпутатаў.

***) „Вольная Беларусь" (газета) № 11, 1917 г.

у час перад пролетарскай рэволюцыяй, пацікавімся адказамі, якія дае на найбольш важныя ў той час пытанні газета «Вольная Беларусь». Рэдактарам газеты быў грамадавец Лёсік.

Возьмем рабочае, аграрнае і нацыянальнае пытанні.

Па рабочаму пытанню газета гаворыць вельмі мала, затое знаходзім у ёй шмат матар'ялаў аб тым, як завесці беларускую мову ў касцёлах і цэрквах. Адзін толькі раз за ўвесь 1917 г. закранаецца рабочае пытанне:

> «Нам патрэбна аўтаномія, каб забяспечыць... беларускаму пролетарыю як найвышэйшы заработак, каб даць сваім людзям работу дома на месцы, на грунце ўласнай беларускай прамысловасці, каб нашы людзі не вандравалі, шукаючы заработку, у свет, на чужыну, дзе і сам работнік і яго рабочая сіла прападаюць для нашага краю» *).

Як бачым, не многага патрабуе для рабочага класа БСГ. Яна ў некалькіх радках выказала найбольшае жаданне беларускай буржуазіі—эксплаатаваць «свайго» рабочага самім, тут-жа ў Беларусі, бо калі рабочы беларус едзе ў Маскву, то там з яго выганяе пот не «свой» капіталіст, а рускі: «рабочая сіла прападае для нашага краю». Вось, чаго не хоча дапусціць БСГ!

Пра зямлю БСГ выказваецца больш. Галоўнае, што яна выстаўляе—гэта «недапасаванасць для нас (г. зн. для Беларусі) усіх праектаў зямельнай рэформы расійскіх партый». Гэтым абгрунтоўвалася неабходнасць аўтаноміі ў вырашэнні аграрнага пытання «Краёвым соймам Беларусі».

Для пазіцыі БСГ вельмі характэрны артыкул нейкага І. Рамановіча ў № 16 газеты «Зямельнае пытанне і дзяржаўны лад».

І. Рамановіч выступае супроць нацыяналізацыі і соцыялізацыі зямлі. Разважаючы, што такое «соцыялізацыя», Рамановіч піша:

> «Пры гэтых парадках (апрацоўка зямлі без батракоў) трудна будзе выбіцца каму-небудзь з гурту шэрых земляробаў, пакуль хто сядзіць на зямлі, якой можа хваціць на пражытак, але не на значнейшы дастатак... **Воля—вельмі каштоўны набытак, калі народ (!) мае магчымасць павялічыць свой дастатак» **).**

Да гэтага артыкулу рэдакцыя робіць заўвагу, што аўтар блытае паняцці «соцыялізацыя» і «нацыяналізацыя», а з усім іншым рэдакцыя згаджаецца.

Вось чые інтарэсы абараняла БСГ: інтарэсы таго, хто выбіваецца «з гурту шэрых земляробаў», г. зн. кулака. З яго пункту погляду БСГ падыходзіла да вырашэння зямельнага пытання. Гэта ясна сведчыць аб буржуазна-кулацкім нутры самай «левай» партыі беларускіх нацыяналістаў.

Калі совецкім урадам у дні Окцябра быў выдан дэкрэт аб зямлі, БСГ выступіла супроць гэтага дэкрэта.

Так, Лёсік пісаў аб совецкім зямельным дэкрэце:

> «Што датычыцца раптоўнага скасавання ўласнасці на зямлю, то гэта пагражае страшэнным эканамічным крахам. На грунце зямельнай уласнасці пабудаваны зямельныя банкі з мільярднымі

---

*) „Вольная Беларусь" № 23, арт. „Нашы патрэбы".

**) „В. Беларусь" № 16.

коштамі, з каторымі цесна звязаны сотні фабрык, заводаў з дзесяткамі тысяч рабочых і ўсялякага служылага люду. Усё гэта павінна будзе прыпыніцца, пойдзе на ліквідацыю...» *).

Больш за ўсё Лёсік клапоціцца аб тым, што будзе з банкамі і банкірамі, з фабрыкамі і фабрыкантамі, з заводамі і заводчыкамі, іх якраз ён больш за ўсё шкадуе. Ну, вядома, жаль ахоплівае яго і пры ўспаміне аб тых памешчыцкіх і кулацкіх грошах, што ўкладзены былі ў зямельныя банкі. Як-жа не пашкадаваць свайго чалавека! А памешчыкі і капіталісты для Лёсіка і ўсіх нацдэмаў—свае людзі.

Важнейшым пытаннем нацдэмы лічылі нацыянальнае пытанне. Свой тэзіс аб нацпытанні беларускія нацыяналісты імкнуліся «абгрунтаваць» наступным чынам:

«Патрэб у кожнага народу многа, але іх можна раздзяліць на дзве часткі—на патрэбы агульныя, якіх дамагаюцца ўсе людзі на свеце, усе народы або нацыі, і патрэбы асабістыя, каторыя аднаму народу не патрэбны, бо яны ўжо іх маюць, а другому патрэбны, як хлеб і вада» **).

Далей канкрэтызуецца: агульныя патрэбы—гэта «зямля і воля», асабістыя патрэбы для беларускіх нацыяналістаў—аўтаномія Беларусі. Нацыяналісты лічылі, што воля ўжо здабыта: «учыніўшы рэвалюцыю, мы здабылі сабе волю» ***). Цяпер задача—здабыць аўтаномію, бо «без аўтаноміі і зямелька не пойдзе нам на карысць» ****).

Да Októбрскай рэвалюцыі беларускія нацыяналісты не ставілі пытання аб аддзяленні ад Расіі—яны патрабавалі толькі аўтаноміі Беларусі ў межах адзінай капіталістычнай Расіі. Іх ідэалам былі англійскія калоніі. Не раз у сваіх артыкулах нацыяналісты спасылаюцца на аўтаномію Ірландыі, Трансвааля і т. д. *****). Чым гэта выклікалася? Іх буржуазна-нацыяналістычнай сутнасцю—баязню пролетарскага руху, пролетарскай рэвалюцыі. Беларуская буржуазія баялася, што сама яна не зможа падавіць нарастаючы рух пролетарыята.

Але зусім змяняюцца адносіны да Расіі, калі Расія становіцца совецкай. Цяпер для іх галоўнейшай задачай з'яўляецца рэстаўрацыя капіталізма. З гэтаю мэтай нацдэмы ставяць стаўку на аддзяленне Беларусі ад Совецкай Расіі.

Гэтым самым нацдэмы імкнуцца раздзяліць адзіны фронт, імкнуцца адарваць працоўныя масы Беларусі ад перадавога рускага пролетарыята.

Гэту тактыку можна ярка паказаць на прыкладзе пастаноўкі імі нацыянальнага пытання. Так, на II сэсіі «Цэнтральнай беларускай рады» 16 кастрычніка 1917 г. А. Прушынскі расказваў, што бежанцы на Маскоўскім бежанскім з'ездзе на беларускіх нацыяналістаў глядзелі: «адны—як на польскіх прыслужнікаў, другія, як на якіх інтрыганаў». Бежанская сялянская беднata добра разбіралася ў воратах ўжо ў той час! Каб гэтага не было, Прушынскі выстаўляе рэцэпт: «Трэба аб'яднаць гэтыя элементы, **а гэта можа зрабіць адно—ідэя нацыянальная»** ******).

*) „Вольная Беларусь" № 16, стар. 30.
**) „В. Беларусь" № 19, ад 11 верасня 1917 г.
***) Там-жа, справа ідзе аб Лютаўскай рэволюцыі 1917 г.
****) Там-жа.
*****) Напр., у № 20.
******) „В. Беларусь", № 30.

Такім чынам для нацдэмаў нацпытанне было адным з галоўных сродкаў абдурвання працоўных мас, падпарадкавання іх сваёй буржуазіі. Таму і пытанне аб аўтаноміі ці аддзяленні яны ставілі так, як гэта выгадна было беларускай буржуазіі, імкнучыся рэалізаваць інтэрвенцыянісцкія планы сусветнай буржуазіі.

Беларускія нацыяналісты адкідалі ўсякія свае разважанні аб «дэмакратызме», аб «беларускім народзе» і т. д., калі бачылі, што не толькі пролетарыят Беларусі, але і шырокія слаі сялянства зусім не хочуць рабіць так, як думаюць нацдэмы, зусім не жадаюць ствараць **буржуазную** беларускую дзяржаву. Нацдэмы выступілі супроць «дэмакратызма» у пытаннях дзяржаўнасці. Яны пісалі:

> «Хіба можна пытацца ў народу аб тым, ці патрэбны нам, напрыклад, вось хоць тыя лабараторыі, дзе працуюць і поркаюцца ўсё жыццё вучоныя? Цёмны народ заўсёды скажа, што не трэба (!). І дзіўна гэта звычка ў людзей спасылацца на народ там, дзе яно зусім не да-рэчы. Ва ўсіх іншых пытаннях мы звяртаемся да знаўцаў і спецыялістаў, а **вось пры дзяржаўным адбудаванні здавальняемся думкамі такіх майстроў, як цёмны некультурны народ...»** *).

Далей ехаць няма куды: у гэтых словах кожны манархіст можа знайсці сабе апраўданне. І сапраўды—чаму цар не лепшы знаток справы дзяржаўнасці? Цар, ды групка прыбліжанай арыстакратыі ў ролі «знаўцаў і спецыялістаў»—навошта і дэмакратыя!? Недарма беларускія нацыяналісты ў 1918 г. накіравалі пасланне імператару Аўстра-Венгрыі Францу-Іосіфу, у якім запэўнівалі, што ўзаемаадносіны паміж нацыямі ў імперыі служаць для беларускіх нацдэмаў ідэалам.

Затое сваімі ворагамі беларускія нацыяналісты лічылі большэвікоў. «Большэвізм—гэта культурны і грамадскі барбарызм»; «Большэвізм спакусіў цёмныя, несвядомыя масы сваімі абяцаннямі **); «гурт дзікіх людзей і ваўкоў» ***) і т. д.—вось як адзываецца аб большэвіках газета самай «левай» партыі беларускіх нацыяналістаў—Беларускай «соцыялістычнай» грамады!

Вядома, з такімі поглядамі ўсе беларускія нацыяналісты былі ў лагеры контррэволюцыі, змагаліся супроць пролетарскай рэволюцыі.

Для гэтай мэты і існавала арганізаваная нацдэмамі ў ліпені месяцы «Беларуская рада», як цэнтр усёй беларускай контррэволюцыі.

25 кастрычніка паўсталі рабочыя буйных цэнтраў супроць буржуазіі і яе ўлады. А ўжо 27 кастрычніка контррэволюцыя ў Менску арганізавала «Камітэт выратавання рэволюцыі», у якім пачэснае месца занялі прадстаўнікі «Беларускай рады». Збірае рада і свае сілы, для чаго выпускаецца «Грамата да беларускага народу».

Беларускія нацыяналісты ў гэтай грамаце прама выказалі і сваю мэту: утрымаць «згоднасць паміж усімі... утрымаць спакой у нашым краі...», г. зн. утрымаць згоднасць паміж памешчыкамі і батракамі, паміж капіталістамі і рабочымі, утрымаць ад рэволюцыі рабочых і масы працоўнага сялянства.

---

*) Вольная Беларусь" № 20, за 1917 г.

**) „В. Беларусь" № 30.

***) Там-жа, № 33.

Газета БСГ—«Вольная Беларусь» заклікае да барацьбы з большэвікамі, да стварэння для гэтай мэты беларускага войска.

«З большэвікамі трэба змагацца таму, што яны рыхтуюцца завесці ў дзяржаве такі грамадскі лад, да якога людзі яшчэ не дараслі. **Уводзіць у нас пры нашай гаспадарчай і грамадскай адсталасці соцыялістычны лад—гэта ўсёроўна, каб хто захацеў з малога хлопца зрабіць раптам дзяцюка, то стаў-бы цягнуць яго за вушы ўверх»** *).

Гэта пісаў член БСГ Я. Лёсік, але гэты погляд быў не толькі яго поглядам. Тое самае пісалі і «левыя» БСГ, якія канцэнтраваліся вакол «Беларускага абласнога камітэта» пры меншавіцка-эсэраўскім «Усерасійскім совеце сялянскіх дэпутатаў» у Петраградзе:

«... Мы не верым, што ў сучасны момант шляхам грамадзянскай вайны і разбурэння дзяржавы, без дастатковай падрыхтоўкі народных мас і без неабходнага грамадска-эканамічнага развіцця народаў Расіі і нават Еўропы можна ажыццявіць соцыялізм» **).

Так прама і недвусэнсна беларускія нацыяналісты выказваюцца супроць пролетарскай, соцыялістычнай рэволюцыі.

У барацьбе супроць большэвікоў грамадаўцы прама становяцца на абарону капіталіста кулака.

«Трэба прызнаць, што ў наш час асабісты інтарэс—гэта самая моцная прынука да працы. Праз тое ва ўсім свеце шануюць уласнасць, не гледзячы на тое, што яна часта (!) ідзе поплеч з крыўдай і паняверкай. Без яе людзі загразлі-б у апатыі, і, заміж пашырэння і павелічэння патрэб, зменшылі-б іх да ліку лёгка здабываемых патрэб спажывання».

«Беларусь—край бедны... Трэба многа шчырай і разумнай працы, каб мець добры зыск і аплату за працу, а разумная праца вымагае капітал (грошы)... **таму нам не след змагацца з капіталам, а наадварот—ад творчай працы капітала мы павінны чакаць эканамічнага росквіту нашага краю і павелічэння ў ім дастаткаў»** ***).

Лепшую пахвалу капіталу і капіталістам цяжка падшукаць.

Гэтыя «левыя» не абмяжоўваюцца адной «агітацыяй» у сваіх газетах—яны заклікаюць стварыць беларускае войска, каб спыніць шалёны віхор паўстання» ****). Для гэтай мэты ўтвараецца і развівае шалёную дзейнасць «Беларуская вайсковая рада».

Але не ўдалося беларускім нацыяналістам адцягнуць рабочыя масы і працоўнае сялянства ад рэволюцыі.

Гэта асабліва ярка выявілася пры выбарах ва Ўстаноўчы сход у лістападзе 1917 г. Калі па Менскай губ. за большэвікоў было падана 579.087 галасоў (63,2 проц. ад агульнай колькасці галасоў), то за БСГ і іншыя беларускія нацыяналістычныя партыі падана было ўсяго 2.988 галасоў (0,3 проц.). Такія-ж самыя суадносіны мы маем і па Заходняму фронту, арміі якога знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі:

*) „Вольная Беларусь" № 30.
**) Архіў Інстытута ф. БНР, № 3.
***) „Вольная Беларусь", № 16.
****) „Вольная Беларусь", № 38.

за большэвікоў—482.744 галасы (66,7 проц.), а за блок беларускіх нацыяналістычных партый—4.380 галасоў (0,6 проц) *).

Тое самае мы бачым і з «беларускім войскам». Калі атрады чырвонагвардзейцаў шпарка растуць, так што гэтыя атрады наносяць паражэнне за паражэннем рэгулярным часцям легіянераў Доўбар-Мусніцкага і войскам Украінскай рады, то Беларускай вайсковай радзе не ўдаецца стварыць нават і аднаго палка з добраапольцаў.

Пасля гэтых лічб, якія паказваюць, што падаўляючая большасць пролетарыята і працоўнага сялянства галасавала за большэвікоў, асабліва ярка выступае хлуслівасць нацдэмаўскага сцверджання аб «акупацыйным характары» совецкай улады ў Беларусі». А такімі сцверджаннямі да гэтага часу нацыянал-фашысты атручваюць галовы працоўных Заходняй Беларусі.

Так, «Крыніца» у № 32 за 1929 г. пісала:

> «Гэтая ўлада (совецкая ўлада.—**А. З.**) была заўсёды чужая, не беларуская. Комуністычную ўладу стварылі не беларускія сяляне і работнікі, але расійскае войска, якое стаяла тады на заходнім фронце...».

Галасаванне ва Ўстаноўчы сойм рабочых і сялян Беларусі лепш за ўсё паказвае, на якую хлусню пускаюцца нацдэмы ў сваёй барацьбе супроць нарастаючага рэволюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі.

Бліскучыя перамогі большэвікоў і паражэнне контррэволюцыйных нацыяналістаў прымусілі апошніх перамяніць тактыку барацьбы з большэвікамі, не спыняючы арганізацыю сваіх войск. Нацыяналісты паспрабавалі ўтварыць пад флагам советаў свае «беларускія» советы. З гэтай мэтай быў склікан так званы «Беларускі кангрэс» у снежні 1917 г. На «кангрэс» былі запрошаны толькі прадстаўнікі розных нацыяналістычных арганізацый. Дэлегаты на «кангрэс» запрашаліся так, што ні аднаго большэвіка на кангрэс не папала, не былі запрошаны прадстаўнікі і абранага з'ездам советаў «Абласнога выканаўчага камітэта».

Але хутка і гэта тактыка была выкрыта. «Кангрэс» пакінулі ўсе выпадкова трапіўшыя туды сапраўдныя прадстаўнікі сялян і ў канцы канцоў «кангрэс» за контррэволюцыйны напрамак быў разогнан па пастанове СНК Заходняй вобласці.

Нацыяналістам нічога не засталося, як ісці на паклон да нямецкіх акупантаў і слаць прывітальныя тэлеграмы германскаму кайзеру Вільгельму і аўстрыйскаму імператару Францу Іосіфу.

* * *

Ужо 2 лістапада 1917 г. Совет Народных Камісараў за подпісам **В. І. Леніна** і **І. В. Сталіна** выдаў «Дэкларацыю праў народаў Расіі», у якой большэвіцкая праграма па нацыянальнаму пытанню знайшла сваё ажыццяўленне. У дэкларацыі ўказвалася, што толькі ў выніку добраахвотнага і чэснага саюза народаў Расіі «могуць быць спаяны рабочыя і сяляне народаў Расіі ў адну рэволюцыйную сілу, здольную ўстояць супроць усякіх замахаў з боку імперыялісцка-анексіяніскай

---

*) *Зюзькоў*. „Большэвікі—арганізатары Кастрычніка на Беларусі", стар. 89—92.

буржуазіі». Совет Народных Камісараў устанавіў наступныя прынцыпы:

«1. Роўнасць і суверэннасць народаў Расіі.

2. Права народаў Расіі на вольнае самавызначэнне, аж да аддзялення і ўтварэння самастойнай дзяржавы.

3. Адмена ўсіх і ўсялякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаванняў.

4. Свабоднае развіццё нацыянальных меншасцей і этнаграфічных груп, насяляючых тэрыторыю Расіі» *).

Так пролетарская рэволюцыя разняволіла ўсе прыгнечаныя нацыянальнасці былой Расійскай імперыі, даўшы ім магчымасць свабодна развіваць сваю нацыянальную культуру і дзяржаўнасць. У выніку такой палітыкі быў створан вялікі і магутны Совецкі саюз.

Рабочыя і працоўныя сяляне Беларусі, пры дапамозе перадавога рускага пролетарыята, пад кіраўніцтвам большэвікоў на чале з Леніным і Сталіным, у выніку Окцябрскай соцыялістычнай рэволюцыі, стварылі сваю Беларускую Совецкую Соцыялістычную Рэспубліку ў барацьбе з нацыяналістамі ўсіх масцей.

Далейшы шлях нацдэмаў яшчэ больш ярка выяўляе іх контррэволюцыйную сутнасць, іх імкненне рэстаўраваць капіталізм у БССР. Нацдэмы на ўсім працягу грамадзянскай вайны былі ў радах інтэрвентаў, у радах акупантаў. Для нацдэмаў было ўсёроўна, каму прадаваць Беларусь: польскаму пану, германскаму генералу, ці французскаму капіталісту, абы толькі не была Беларусь Совецкай.

Гэту мэту нацдэмы ставяць і цяпер. Там, у Заходняй Беларусі нацыянал-фашысты дапамагаюць польскім акупантам расправуляцца з нарастаючым рэволюцыйным рухам, апраўдваюць гэту акупацыю. А тут, у Совецкай Беларусі, нацдэмы пускаюцца на ўсякую погань, на шпіянаж і дыверсійныя акты, каб аслабіць дыктатуру пролетарыята і падрыхтаваць інтэрвенцыю.

Беларускі нацыяналізм, з'яўляючыся галоўнай небяспекай у нацыянальным пытанні на даным этапе, абавязвае нас яшчэ больш узмацніць барацьбу супроць іх. Толькі ў бязлітаснай барацьбе на два фронты: супроць беларускага нацдэмакратызма—галоўнай небяспекі на даным этапе, супроць вялікадзяржаўнага шавінізма і нацыяналізма іншых масцей, магчым далейшы росквіт Соцыялістычнай Совецкай Беларусі—неадлучнай часткі СССР.

---

*) „Политика советской власти по нац. делам за 3 года". 1920 г., стар. 6—7.

М. Поташ

# Контррэвалюцыйная роля „Бунда“ ў Окцябрскай рэвалюцыі

У сваім гістарычным дакладзе на XVII з'ездзе партыі тав. Сталін гаварыў:

> «Але ці можна сказаць, што **мы ўжо перамаглі ўсе перажыткі** капіталізма ў эканоміцы? Не, нельга гэтага сказаць. Тым больш нельга сказаць, **што мы перамаглі перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей.** Нельга гэтага сказаць не толькі таму, што свядомасць людзей у яе развіцці **адстае ад іх эканамічнага становішча,** але і таму, што ўсё яшчэ **існуе капіталістычнае акружэнне,** якое стараецца ажыццяўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей у СССР і **супроць якога мы, большэвікі, павінны ўвесь час трымаць порах сухім».**

Гэтыя перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей з'яўляюцца спажыўнаю глебай для ажыўлення ў той ці іншай форме рэштак ідэалогіі разбітых антыленінскіх груп у галовах паасобных членаў партыі.

У той-жа час варта напомніць і другое ўказанне т. Сталіна аб тым, што

> «перажыткі капіталізма ў свядомасці людзей **значна больш жывучы ў галіне нацыянальнага пытання, чым у любой іншай галіне.** Яны больш жывучы, бо маюць магчымасць добра маскавацца ў нацыянальнай вопратцы».

Неабходна памятаць, што класавы вораг да апошняга подыху будзе прабаваць вярнуць мінулае, каб рэстаўраваць капіталізм і сесці на шыі працоўных.

Шалёнае супраціўленне класавага ворага харчуецца і капіталістычным акружэннем, тымі фашысцкімі і ваеннымі клікамі імперыялістаў, якія рыхтуюць напад на СССР.

Мы бачым гэта шалёнае супраціўленне класавага ворага ў БССР на прыкладзе дзейнасці контррэвалюцыйных, буржуазна-нацыяналістычных, нацдэмаўскіх, бундаўскіх і т. п. элементаў.

Адсюль зразумела, якое агромнае актуальнае палітычнае значэнне мае выкрыццё гэтых контррэвалюцыйных элементаў у іх мінулым і сучасным. Гэта дапамагае яшчэ большаму павышэнню ідэйнай узброенасці і класавай пільнасці кожнага члена партыі, кожнага чэснага рабочага і калгасніка.

Добра вядома, што бундаўскія контррэвалюцыйныя элементы складаюць арганічную частку ўсіх недабітых яшчэ буржуазна-нацыяналістычных і кулацка-рэстаўратарскіх элементаў, якія, адчуваючы набли-

жэнне сваёй канчатковай пагібелі, аказваюць шалёнае супраціўленне пераможнаму соцыялістычнаму будаўніцтву; вядома іх контррэволюцыйная падрыўная работа ў імя агульнай платформы ўсёй контррэволюцыйнай зграі—у імя адрыву БССР ад СССР і рэстаўрацыі капіталізма.

Партыя выкрыла і разграміла класавага ворага (у тым ліку і бундаўскія контррэволюцыйныя элементы) і яго новую тактыку—весці сваю контррэволюцыйную падрыўную работу ціхаю сапай, часта пад фальшыва-нацыянальным флагам. Але яшчэ і яшчэ раз варта напомніць вышэй паданыя ўказанні правадыра нашай партыі т. Сталіна аб тым, што «мы, большэвікі, павінны ўвесь час трымаць порах сухім» і яшчэ больш павысіць нашу класавую пільнасць. Мы павінны памятаць, як указаў т. Гікало на XV з'ездзе КП(б)Б, «урокі барацьбы супроць контррэволюцыйнага нацыяналізма ў 1933 г.»

Недабітыя рэшткі кулака, нэпмана, гандляра, гаспадарчыка, буржуазна-нацыяналістычных, контррэволюцыйных бундаўскіх, сіяністцкіх і т. п. элементаў, якім удалося яшчэ скрыцца і якія імкнуцца зноў пранікнуць у нашы ўстановы, у калгасы і нават на прадпрыемствы, усімі сіламі стараюцца і будуць старацца весці контррэволюцыйную шкодніцкую работу ва ўсіх галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Праводзячы сваю контррэволюцыйную барацьбу за рэстаўрацыю капіталізма, за адрыў БССР ад СССР, за падрыхтоўку імперыялістычнай інтэрвенцыі, недабітыя рэшткі бундаўскіх, сіяністцкіх і іншых контррэволюцыйных элементаў змыкаюцца з соцыял-фашысцкімі і нацыяналістычным Бундам у фашысцкай Польшы. Соцыялфашысцкі Бунд у Польшчы, Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі з'яўляецца адным з самых ярых ворагаў рэволюцыйнага пролетарыята, яго адзінага авангарда—КПП і яе непарыўных частак—КПЗБ і КПЗУ.

> «Бунд, таксама як і ППС, ёсць трэцяя партыя буржуазіі. Яго развіццё ад соцыял-нацыяналізма к соцыял-фашызму—гэта той самы шлях, які прашла ППС і іншыя партыі II Інтэрнацыянала. Ідэалогія Бунда контррэволюцыйна, Бунд праводзіць у масах яўрэйскага пролетарыята палітыку буржуазіі, з'яўляецца партыяй соцыял-фашысцкай, або, інакш кажучы,—умераным крылом фашызма» (з ліста ЦК КП(б)Б «Цэнтральнаму яўрэйскаму бюро»).

Бунд праводзіць контррэволюцыйную соцыял-фашысцкую лінію, робіць подлыя, паклёпніцкія выпады супроць СССР і з'яўляецца актыўным удзельнікам падрыхтоўкі інтэрвенцыі супроць СССР.

У сваім органе «Нэйе фолькс-цэйтунг» № 114 за 1934 г. бундаўцы пішуць:

> «Многія з ідэй, **за якія змагаецца сёння Троцкі,** на працягу гадоў **абараняліся нашай партыяй»** (падкрэслена намі.—**М. П.).**

Гэта і зразумела, бо трацкізм ёсць перадавы атрад контррэволюцыйнай буржуазіі, і толькі за інтарэсы контррэволюцыйнай буржуазіі змагаўся і змагаецца соцыял-фашысцкі Бунд.

У нумары 162 вышэй адзначанай газеты бундаўцы пішуць аб тым, што Бунд «заўсёды самым вострым чынам асуджаў раскольніцкую палітыку комуністаў». У нумары 171 яны пішуць, што «комуністы хочуць будаваць рух (пролетарскі.— **М. П.)** на глебе дыктатуры над пролетарыятам.»

Так з дня на дзень Бунд пашырае хлусню і подлы паклёп на комуністычную партыю, ведучы шалёную барацьбу супроць яе, каб гэтым прыкрыць сваю здрадніцкую, соцыял-фашысцкую контррэволюцыйную лінію. Бунд ужывае выпрабаваныя, самыя тонкія манеўры соцыял-фашызма, каб ашукваць рабочыя масы і здраджваць іх кроўныя інтарэсы, усімі сіламі імкнецца сарваць адзіна правільную тактыку адзінага фронта, якую праводзіць компартыя, і разбэшчвае свядомасць яшчэ адсталых слаёў пролетарыята, навязваючы ім лінію, цалкам уласцівую буржуазіі.

Вазьміце № 153 газеты «Нэйе фолькс-цэйтунг», вы там прачытаеце пра цэбры памыяў, якімі Бунд залівае тераічную компартыю Германіі і Комінтэрна, не спыняючыся перад самай наглай хлуснёю і правакатарскімі выпадамі.

У той-жа час «тэарэтыкі» Бунда пішуць:

> «У ваенных адносінах рабочыя масы не могуць спаборнічаць з дзяржаўнай арганізацыяй... Самая вострая зброя рабочай партыі—гэта прапаганда, агітацыя і арганізацыя—тыя сродкі, якімі рэволюцыянізуюцца галавы і аб'яднаны распыленыя сілы рабочых. Рэволюцыя ў галовах і аб'яднанне радоў—урэшце найвялікшая рэволюцыя, як прадпасылка соцыяльнага вызвалення рабочага класа».

Не цяжка бачыць, што гэта соцыял-фашысцкая аргументацыя, якую ўжываюць ўсе лакеі імперыялізма і фашызма, праследуе адну мэту—выратаваць капіталізм і процідзейнічаць узброенаму выступленню пролетарыята ў імя звяржэння капіталізма, разброіць пролетарыят, што цалкам у інтарэсах фашызма.

У газеце «Унзэр вэг», якая выходзіць у Лембергу, вы знойдзеце масу фактаў, як Бунд з дня на дзень праводзіць правакацыйную, здрадніцкую работу, карыстаючыся штэйбрэхерствам і метадамі зубатаўшчыны.

Так, напрыклад, у № 21 за 1934 г. тэтай газеты мы чытаем, як на мітынгу, скліканым Бундам у Лембергу, некалькі рабочых за антыбундаўскія рэплікі былі перададзены бундаўскай баёўкай у рукі фашысцкай паліцыі. А 1-га мая класавы саюз рабочых-пекараў у Лембергу на сваім спецыяльным сходзе прыняў такую рэзалюцыю:

> «Рабочыя пекары Лемберга клеймяць ганьбай і пратэстам зубатаўскія справы бундаўскіх правадыроў Варшаўскага саюза пекараў. Адначасова мы звяртаем увагу паноў Ліхтэнштэйнаў і К°, што мы будзем ведаць, як адказваць—разам з усімі свядомымі рабочымі краіны—на іх спробы ламаць нашы класавыя арганізацыі і барацьбу».

Як увесь час, так і цяпер Бунд пашырае свой шавіністычны лозунг аб «адзіным прадстаўніцтве» і праводзіць сваю буржуазна-нацыяналістычную лінію.

Такава контррэволюцыйная роля Бунда на сучасным этапе класавай барацьбы.

У гэтым артыкуле мы хочам паказаць, як такую-ж контррэволюцыйную лінію Бунд вёў і ў перыяд падрыхтоўкі Окцября, і ў Окцябрскай рэволюцыі, і пасля яе. Мяняючы тактыку, Бунд і яго недабітыя рэшткі ў БССР цалкам захавалі контррэволюцыйную сутнасць сваёй лініі. Мы хочам паказаць чытачу пазіцыі і твар Бунда ў час

Окцябрскай рэволюцыі і яго контррэволюцыйную барацьбу з ёю, прыводзячы галоўным чынам адпаведныя месцы з саміх бундаўскіх крыніц і рад фактаў, якія гавораць самі за сябе, абмяжоўваючыся толькі некаторымі заўвагамі да іх.

* * *

Пачнем з таго, як Бунд адносіўся да большэвікоў.

Ужо ў № 15 ад 15-га мая 1917 г. орган Бунда «Арбэйтэр штымэ» у артыкуле пад назвай «Ленінізм», піша:

> «Ленінцы» з'яўляюцца ворагамі рэволюцыі. Соцыял-дэмакратыя павінна напружыць усе свае сілы, увесь свой ідэйны і арганізацыйны ўплыў, каб выкрыць хлуслівую і небяспечную палітыку ленінізма і засцярэгчы пролетарыят, каб ён не даў прывабіць сябе рэволюцыйнаю фразай, у якой тоіцца рэакцыйны змест.
>
> Ленінцы—ворагі рэволюцыі!..
>
> Гэта неабходна раз назаўсёды цвёрда ўстанавіць. Уся іх тактыка накіравана на тое, каб знішчыць рэволюцыю».

Ітак, ужо хутка пасля лютаўскай рэволюцыі, Бунд выступае адным з застрэльшчыкаў сеяння подлага паклёпу на большэвікоў, траўлі іх і падрыхтоўкі глебы для праследвання з боку імперыялістычнага Часовага ўрада і ўсёй контррэволюцыйнай зграі капіталістаў і памешчыкаў, агентураю якіх ён з'яўляўся. Разам з тым, з кожнага радка выпірае тая лютая ненавісць, якую Бунд гадаваў к большэвізму—адзіна перадавой партыі пролетарыята.

Але якую-ж лінію праводзіў Бунд у рэволюцыі?

Пра гэта мы даведваемся з адказу ў тым-жа артыкуле на пытанне: «Што аддзяляе Бунд ад ленінцаў?» Аказваецца:

> «Не толькі адрозненне ў тактыцы. Больш важна гэта адрозненне ў поглядах на рэволюцыю, на задачы рабочага класа. Ленінцы запэўніваюць нас, што рэволюцыя павінна скончыцца трыумфам пролетарыята; яны заклікаюць рабочы клас захапіць уладу; яны гавораць аб соцыялізме, як аб праграме сёнешняга дня.
>
> Шалёныя сляпыя палітыкі, яны не бачаць, што Расія толькі зараз уступае на шлях шырокага капіталістычнага развіцця, што капіталізм павінен яшчэ перамалоць адсталыя распыленыя формы дробнай індустрыі, што калі пролетарыят цяпер захопіць уладу, ён адштурхне ад сябе ўсе астатнія грамадскія класы, ён узброіць іх супроць сябе і загіне ў няроўнай барацьбе».

Бунд, як адданы слуга капіталістаў робіць усё ў меру сваіх сіл, каб капіталізм развіваўся, патрабуе для гэтага ісці рука ў руку з фабрыкантамі і заводчыкамі і, крый божа, не адштурхваць іх. А большэвікі заклікаюць і арганізоўваюць пролетарыят для перамогі пролетарскай рэволюцыі, каб знішчыць эксплаатацыю рабочых іх гаспадарамі і пабудаваць соцыялізм. І Бунд не перастае ўвесь час, прымяняючы выпрабаваныя ім спосабы абману мас, накшталт сваіх пабрацімцаў меншавікоў і эс-эраў, угаварваць рабочых, што рэволюцыя ў Расіі буржуазная, што трэба развіваць капіталізм, што пролетарыят, узяўшы ўладу, загіне, і таму неабходна супрацоўнічаць з імперыялі-

стычнай буржуазіяй, праліваць кроў рабочых і сялян на фронтах у імя яе кішэні і не крануць свяшчэнную прыватную ўласнасць.

Так, у ліпені 1917 г. у № 25 «Дэр векер» (выходзіў у Менску) правадыры Бунда пішуць:

«Будучы глыбока пераконаны, што час для соцыялістычнага ўрада не прышоў, рэвалюцыйная дэмакратыя (чытай: слугі буржуазіі.—**М. П.**) павінна ўсімі сіламі прымусіць буржуазію, каб яна частку сваёй адказнасці не скінула, каб яна дала другіх міністраў замест ушоўшых».

Так лакеі буржуазіі здраджвалі інтарэсы рэвалюцыі. У такім самым духу стаяла пытанне аб характары рэвалюцыі і на VIII з'ездзе Бунда, які адбываўся ўжо пасля Окцябрскай рэвалюцыі, паўтараючы ўсю аргументацыю «тэарэтыкаў» II Інтэрнацыянала, накіраваную супроць пролетарскай рэвалюцыі і ў абарону капіталістычнага ладу.

Адсюль зразумела і тактыка Бунда ў перыяд перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі ў соцыялістычную. Бунд, як і меншавікі і эс-эры, цалкам падтрымліваў імперыялістычны Часовы ўрад і буржуазна-імперыялістычную лінію ў рэвалюцыі.

На сваёй дзесятай канферэнцыі ў красавіку 1917 г. Бунд, як і меншавікі, намеціў цалкам згодніцкую лінію ў рэвалюцыі. Бунд канстатуе, што дэкларацыя, распрацаваная Часовым урадам, «змяшчае ў сабе асноўныя палітычныя патрабаванні расійскай дэмакратыі для пераходнага часу пакуль будзе склікан Устаноўчы сход». Яна таксама знашла, што «як правіла, Часовы ўрад ішоў да гэтага часу па шляху выканання палітычных абавязацельстваў, якія ён узяў на сябе. Канферэнцыя заклікае яўрэйскіх рабочых «дзейна падтрымліваць Часовы ўрад». Бунд унушае рабочым і ўгаварвае іх, што імперыялістычны Часовы ўрад здолен умацаваць заваёвы рэвалюцыі і адмовіцца ад захватніцкіх планаў. Бунд ахоўвае абарончую лінію і пад выглядам «небяспекі знешняга ваеннага паражэння» змагаецца за тое, каб армія прадаўжала служыць інтарэсам імперыялістычнай буржуазіі, каб Часовы ўрад распараджаўся на фронце.

У перадавіцы «Векера» № 3 ад 22-га мая ўгаварваюць рабочых, што кааліцыйны ўрад, куды ўвашлі «соцыялістычныя» міністры, дасць ім усё, што патрэбна, што без буржуазіі, без згоды і супрацоўніцтва з ёю рабочы клас прападзе. У гэтым артыкуле мы чытаем:

«Праўда, большасць данага ўрада з'яўляецца прадстаўнікамі буржуазіі, але ці можам мы цяпер у Расіі мець другі ўрад. Ці будзе другі ўрад, дзе будуць прадстаўнікі толькі бедных сялян і рабочых, распалагаць неабходнымі сіламі не толькі для захвату ўлады, але і для яе ўтрымання... Пераважная большасць народных мас бязмежна далёка ад соцыялістычных ідэалаў і лічыць уласнасць святыняй»...

І вывад:

«Руская рэвалюцыйная дэмакратыя ведае, што сваёй сілай яна можа штурхаць пануючыя класы на ўступкі, прымусіць іх згадзіцца на палітычную свабоду значна больш шырокую, чым тая, у якой яны самі маюць патрэбу. Яна давярае сваім прадстаўнікам, соцыялістычным міністрам, і імкнецца ўсімі сіламі іх падтрымаць. Дэмакратыя не імкнецца да захвату ўсёй улады, бо яна ведае, што іншыя класы ў краіне дзякуючы гэтаму будуць насунуты назад да старога ладу, адны рабочыя не будуць **мець магчымасці выратаваць свабоду».**

Так Бунд унушаў рабочым ісці за буржуазіяй, захаваць буржуазны лад, разбройваючы рабочы клас, робячы яго бездапаможнаю зброяй у руках імперыялістычнай буржуазіі.

Бунд горача падтрымліваў «Пазыку свабоды» імперыялістычнага Часовага ўраду.

Першая абласная канферэнцыя Бунда ў Менску (ліпень—1917 г.) выказалася за падтрыманне кааліцыйнага міністэрства. Па пытанню аб вайне і міры канферэнцыя далучылася да лозунгаў Петраградскага совета, дадаўшы, што «армія, павінна быць падрыхтавана да абароны рэволюцыі».

Ленін у знамянітых красавіковых тэзісах разгарнуў праграму і тактыку барацьбы пролетарыята за ўладу, аднача́сова выкрываючы гэтым усю здрадніцкую контррэволюцыйную дзейнасць меншавікоў, эсэраў, бундаўцаў і т. п. Гэтая праграма ярка адцяняе меншавіцкую контррэволюцыйную пазіцыю Бунда ў перыяд падрыхтоўкі Окцябра:

> «Своеасаблівасць бягучага моманту ў Расіі заключаецца ў **пераходзе** ад першага этапа рэволюцыі, даўшага ўладу буржуазіі ў сілу недастатковай свядомасці і арганізаванасці пролетарыята,—да другога яе этапа, які павінен даць уладу ў рукі пролетарыята і бяднейшых слаёў сялянства...
>
> Ніякага падтрымання Часоваму ўраду, растлумачэнне поўнай хлуслівасці ўсіх яго абяцанняў, асабліва адносна адмаўлення ад анексій. Выкрыццё, замест недапушчальнага, сеючага ілюзіі «патрабавання», каб **гэты** ўрад, урад капіталістаў, **перастаў** быць імперыялісцкім...
>
> Растлумачэнне масам, што Советы Рабочых Дэпутатаў ёсць **адзіна магчымая** форма рэволюцыйнага ўрада і што таму нашай задачай, пакуль **гэты** ўрад паддаецца ўплыву буржуазіі, можа з'явіцца толькі цярплівае сістэматычнае настойлівае, прыстасабляючаеся асабліва да практычных патрэбнасцей мас, растлумачэнне памылак і тактыкі...
>
> Пакуль мы ў меншасці, мы вядзем работу крытыкі і выяснення памылак, прапаведваючы ў той-жа час неабходнасць пераходу ўсёй дзяржаўнай улады к Советам Рабочых Дэпутатаў, каб масы вопытам пазбавіліся сваіх памылак» *).

Паглядзім цяпер, якою была пазіцыя Бунда ў ліпеньскія дні. Ленін пра ліпеньскія дні пісаў так:

> «Рух 3-га і 4-га ліпеня быў апошняю спробай шляхам маніфестацыі пабудзіць Советы ўзяць уладу. З гэтага моманта Советы, г. зн. пануючыя ў іх эс-эры і меншавікі, фактычна перадаюць уладу контррэволюцыі, прадстаўляемай кадэтамі і падтрымліваемай эс-эрамі і меншавікамі. Цяпер мірнае развіццё рэволюцыі ў Расіі ўжо немагчыма, і пытанне гісторыяй пастаўлена так: або поўная перамога контррэволюцыі. або новая рэволюцыя» **).

А Бунд, які ўсёй душой і целам падтрымліваў кааліцыю меншавікоў і эс-эраў з контррэволюцыйнымі кадэтамі, які разам з меншавікамі і эс-эрамі праводзіў контррэволюцыйную палітыку гэтай кааліцыі, прымае самы дзейны ўдзел «у самых брудных справах кадэтаў, у самых подлых, паклёпніцкіх падвохах іх» **(Ленін)**.

*) Ленин, т. XX, стар. 87—90.
**) Ленин, т. XXI, стар. 45.

Вось што мы чытаем у «Арбэйтар штымэ» (№ 28 за 1917 г.) пра ліпеньскае выступленне:.

«Гэта была маніфестацыя, і яна дасягнула сваёй мэты»—так пісала потым «Правда». Але маніфестацыя, якая прыводзіць да такога велізарнага праліцця крыві, якая кідаецца к міністрам з мэтай арыштаваць міністраў—гэта ўжо не маніфестацыя, а паўстанне. І калі такое паўстанне накіравана супроць Керэнскага, Цэрэтэллі, Чэрнова, калі чэрнь пагражае збіеннем і турмой, тады гэта паўстанне супроць дэмакратыі, паўстанне супроць Советаў.

Мы чакаем контррэвалюцыі справа, прышла яна злева. На сцягах былі словы: «Уся ўлада павінна перайсці к Советам Салдацкіх, Рабочых Дэпутатаў». Але ўся сутнасць была ў тым, каб Советы падначаліліся ўзброенай сіле большэвікоў і анархістаў. Кулямётамі хацелі дабіцца таго, чаго не маглі дасягнуць галасаваннем на з'ездзе...

Гэта ліпеньскае паўстанне—трагедыя для часткі рабочага класа, якая асьлеплена, якая жыве верай, што соцыялізм можа быць у гэтую-ж хвіліну здзейснены...

Але ў той-жа час гэта з'яўляецца злачынствам правадыроў, вялікіх мужоў ленінізма і анархізма, якія аб'ядналіся ў сваёй змове супроць рэвалюцыі».

І так па ўсіх рашаючых пытаннях рэвалюцыі на ўвесь перыяд барацьбы за Окцябр Бунд вёў контррэвалюцыйную лінію. Ён выступаў за наступленне на фронце, супроць братання, за поўнае давер'е імперыялістычнаму Часоваму ўраду. Бунд актыўна ўдзельнічаў у подлай кампаніі траўлі і ганення на большэвікоў пасля ліпеньскіх дзён, у агіднай хлусні па абвінавачванню Леніна ў германскім шпіянажы. Як заявіў дакладчык па справаздачы ЦК Бунда, палітычная лінія апошняга за ўвесь час рэвалюцыі супадала з палітычнай лініяй агульнарасійскага цэнтра РСДРП(м).

Прытрымліваючыся сваёй тактыкі ў адносінах эканамічнай барацьбы—лічыцца са становішчам прамысловасці, што азначала на справе—аказаць падтрыманне прадпрыемцам, Бунд зрываў забастоўкі. Так, бундаўцы сарвалі забастоўку швэйнікаў у майстэрні на быўшай Прэабражэнскай вуліцы *).

* * *

Наступаюць рашаючыя дні барацьбы пролетарыята пад кіраўніцтвам большэвікоў за перамогу Окцябрскай рэвалюцыі. На ІІ з'ездзе Советаў, у ноч на 25 кастрычніка, Бунд вуснамі сваіх прадстаўнікоў (Абрамовіч, Эрліх) заяўляе: «Усё тое, што адбываецца ў сучасны момант у Петраградзе, з'яўляецца вялікім няшчасцем». «Наш доўг перад яўрэйскім пролетарыятам і пролетарыятам усёй краіны—заявіць гэта». Бундаўцы разам з меншавікамі і эс-эрамі пакідаюць з'езд. Яны «рашылі загінуць разам з урадам» і таму ўсе яны (меншавікі, эс-эры, выканком сялянскіх дэпутатаў, гласныя гарадской думы.— **М. П.**) адпраўляюцца к Зімняму дварцу, дзе знаходзіўся Часовы ўрад, каб «такім чынам выразіць свой пратэст супроць таго, што адбываецца» **).

*) „Окцябр" № 140. 1933 г.
**) 2-гі Ўсерасійскі з'езд (Цэнтрархіў), стар. 6 і 39—40.

На нарадзе пры бюро ЦК Бунда, якая адбылася 7—9 лістапада 1917 г. у Менску пры ўдзеле 5-ці членаў ЦК, прадстаўнікоў абласных камітэтаў Паўночна-Заходняга краю і Украіны, менскай, гомельскай, бабруйскай і т. д. арганізацый, была прынята рэзалюцыя (надрукавана ў «Фолькс-цэйтунг» № 27 ад 14 лістапада 1917 г.).

У гэтай рэзалюцыі, якая ўскладае адказнасць «за цяперашняе паўстанне і грамадзянскую вайну, што выцякае з паўстання», на большэвікоў, гаворыцца, што тэрор большэвікоў, які апіраецца на ваенную дыктатуру ўзброеных салдат, прадстаўляе сабой найбольшую небяспеку для рэволюцыі, адкрываючы шлях для панавання ваеннай дыктатуры контррэволюцыі».

Далей нарада абмяркоўвала канкрэтнае пытанне: як ліквідаваць большэвіцкае паўстанне і совецкую ўладу. Па гэтаму пытанню нарада парашыла:

> «Да таго часу, пакуль большэвікі, якія стаяць на чале ўлады, будуць адмаўляцца ад згоды з астатняй часткаю рэволюцыйнай дэмакратыі і будуць упарта адстойваць гэтую ўладу, нашай задачай з'яўляецца канцэнтрацыя сіл рэволюцыйнай дэмакратыі (чытай: усёй контррэволюцыйнай сволачы.—**М. П.**) **вакол ідэі непрызнання гэтай улады і ізаляцыі яе з тым, каб падрыхтаваць яе падзенне і пераход усёй улады да ўсёй рэволюцыйнай дэмакратыі»** (падкрэслена намі.—**М. П.**).

Ці патрэбны яшчэ каментарыі, каб бачыць з поўнай яснасцю, як Бунд выступаў актыўнейшым застрэльшчыкам контррэволюцыйнай барацьбы з Окцябрскай рэволюцыяй і совецкай уладай у імя іх звяржэння? Што датычыць пытання аб тым, які лад і якую ўладу хацеў аднавіць Бунд, то гэта з папярэдняга і з тых матар'ялаў, якія мы зараз прывядзем, з поўнай яснасцю вынікае.

Бунд хацеў рэстаўраваць капіталізм і ўладу буржуазіі. Ніякія фразы аб «рэволюцыйнай дэмакратыі» не скрыюць імення гэтага бясспрэчнага факта.

Неабходна напомніць наступныя словы тав. Сталіна, што ў перыяд падрыхтоўкі Окцябра «найбольш небяспечнай соцыяльнай апорай імперыялізма з'яўляліся дробна-буржуазныя дэмакратычныя партыі, партыі эс-эраў і меншавікоў» (**Сталін.** «Аб апазіцыі» стар. 147). Мы хацелі толькі дадаць, што сюды мы можам уключыць і Бунд, як і ўсе астатнія яўрэйскія контррэволюцыйныя дробна-буржуазныя нацыяналістычныя партыі (паалей-цыён, «аб'яднанцы»).

Каб бачыць, у якім кірунку развівалася дзейнасць Бунда пасля Окцябрскай рэволюцыі, прывядзем вытрымкі з выступлення старшыні менскай гарадской думы—Вайнштэйна (аднаго з тагочасных правадыроў Бунда) у сувязі з разгонам Устаноўчага сходу:

> «Калі-б большэвіцкі рух быў рухам толькі на карысць соцыялізма, і большэвікам удалося-б захапіць уладу, мы маглі-б шкадаваць аб утапічнасці гэтага руху, але мы ўсё-ж аднесліся да яго з павагай. Аднак, мы маем справу з уладай антынароднай, з партыяй, захапіўшай уладу і падаўляючай усякую свабоду. Характэрна, што большэвікі больш за ўсё змагаюцца супроць дэмакратыі і супроць рабочых. І тут, у Менску, намячаецца рух супроць дэмакратыі і рабочых. Вянцом гэтага руху з'явіўся разгон Устаноўчага сходу, які быў адзіным выхадам з цяжкага становішча, якое стварылася, адзіным збаўцам у Расіі. У такі

момант мы не можам і не павінны маўчаць. Нам трэба голасна сказаць сваё слова; гэта будзе паўтарэннем усяго сказанага, але мы павінны паўтарыць гэта і сказаць, што мы стаім на пасту і што, хоць Устаноўчы сход разагнаны, але ён гэтым не знішчаны. І, можа быць, гэта з'явіцца паваротным момантам для барацьбы за Устаноўчы сход.

Няхай жыве Ўстаноўчы! Уся ўлада Ўстаноўчаму сходу»*).

У такім-жа духу пра гэта пісала і бундаўская прэса. Такім чынам у адзін голас з усёй белагвардзейскай контррэвалюцыяй Бунд дае лозунг барацьбы за Ўстаноўчы сход, які «з'яўляецца лозунгам памешчыкаў, манархістаў, усёй рускай буржуазіі, на чале з Мілюковым, які прадае Расію направа і налева—хто дасць даражэй» **(Ленін,** т. XXIV, стар. 288).

Бунд выступаў ярым прыхільнікам сабатажа, да якога ён заклікаў, за які агітаваў і ажыццяўляў у мэтах барацьбы з пролетарскай рэволюцыяй. Так, у артыкуле «Наш шлях» у «Векеры» № 118, чытаем:

«Мы не павінны абмежавацца пратэстамі, мы можам і павінны аказваць супраціўленне, гэта павінна быць маральнае супраціўленне, якое некаторыя таварышы называюць «сабатажам». Таварышы, якія ацэньваюць вынікі захвату бальшэвікамі ўлады, як мы, павінны ведаць, што **сабатаж—іх доўг».**

Бунд такім чынам прымяняў тую-ж тактыку, што і ўсе заклятыя ворагі пролетарыята і совецкай улады. І гэта контррэволюцыйная работа з мэтай абману мас прыкрываецца яшчэ гутаркамі аб «маральным супраціўленні». У сапраўднасці гэта была адна з форм контррэволюцыйнай барацьбы ўсіх ворагаў совецкай улады.

У той-жа час орган Бунда «Векер» заклікае да палітычных забастовак, каб такім чынам мабілізаваць сілы супроць совецкай улады. Бундаўцы імкнуліся выклікаць такую агульную забастоўку ў Менску супроць совецкай улады. Забастоўка гэта, зразумела, цалкам праваліласяя **).

Заклік да ўсеагульных забастовак бундаўскія арганізацыі праводзілі таксама ў Віцебску і ў іншых гарадах.

Як вядома, генерал Доўбар-Мусніцкі на чале польскіх легіянераў вёў контррэволюцыйную вайну ў імя інтэрвенцыі супроць совецкай улады. І вось, «Дэр найер векер» (орган Бунда ў Менску, вышаўшы на месца закрытага совецкай уладай «Векера» за контррэволюцыйную агітацыю і заклікі да барацьбы з совецкай уладай) за 28 студзеня 1918 г. публікуе грамаавы артыкул з поваду загада т. Крыленко павесці бязлітасную барацьбу з Доўбар-Мусніцкім, абвешчаным ворагам рэволюцыі.

У гэтым артыкуле гаворыцца пра тое, што «імем расійскага рабочага класа ўсе гэтыя Крыленкі і іншыя героі дня рыхтуюць жахлівую масавую бойню палякаў у Заходнім краі». Далей прыводзіцца адпаведная цытата з артыкула Мартава пра тое-ж самае, дзе канфлікт з Доўбар-Мусніцкім тлумачыцца «гвалтам бальшэвіцкіх уладароў» і т. д. у такім-жа духу.

Да такой гнуснасці і подласці даходзілі бундаўцы ў сваёй контррэволюцыйнай барацьбе супроць совецкай улады. Яны на справе падтрымлівалі контррэволюцыйную інтэрвенцыяніс цкую вылазку ге-

*) Архіў Інстытута гісторыі партыі 20/31, лісты 26—28.
**) „Векер" № 11 за 1918 г. і „*Звязда*" № 155, арт. Агурскага.

нерала Доўбар-Мусніцкага, як гэта рабілі і беларускія нацыяналісты. Ды мы хутка ўбачым, як яны выступалі вестунамі і ўсёй імперыялістычнай інтэрвенцыі ў імя звяржэння совецкага ладу.

У той-жа час разгортваецца контррэволюцыйная дзейнасць бундаўскіх арганізацый. Так, шалёную барацьбу супроць большэвікоў і Окцябрскай рэволюцыі павяла віцебская арганізацыя. За гэту контррэволюцыйную работу былі арыштаваны важакі гэтай арганізацыі.

Вось якую контррэволюцыйную агітацыю вяла віцебская арганізацыя Бунда. У адным са сваіх лісткоў яна пісала:

«Улада камісараў, якія ўжо шэсць месяцаў штыхамі і тэрорам насаджаюць фельдфебельскі соцыялізм, прывяла краіну к бяздонню, павялічыла разбурэнні, узмацніла голад і шырока расчыніла дзверы дзёрзкай контррэволюцыі.

Пагромы і антысемітызм сталі бытавымі з'явамі, бо імем соцыялізма сеялася ненавісць к малым народам паміж несвядомымі масамі і пачата жахлівая грамадзянская вайна. Пасеянае насенне варажасці і ненавісці дае зараз свае крывавыя плады» *).

У імя чаго Бунд вёў сваю контррэволюцыйную работу? Чытач зараз убачыць, што Бунд змагаўся за поўную рэстаўрацыю капіталізма і буржуазна-памешчыцкай улады. Вось патрабаванні, выстаўленыя віцебскай арганізацыяй Бунда. У лістку, выпушчаным меншавікамі і бундаўцамі, чытаем:

«Для гэтага Совет павінен аднавіць гарадское самакіраванне, безадкладна прызначыўшы новыя выбары і, перадаўшы ўсе справы мясцовага кіравання, дапамагаючы па магчымасці рабоце гарадского самакіравання.

Совет павінен абвясціць непарушную свабоду слова, прэсы, саюзаў, сходаў, незачэпнасць асобы, не прызнаваць злачынствам усякае незаконнае дзеянне супроць іх.

Совет павінен прыняць меры, каб як мага хутчэй спыніліся спробы «соцыялізаваць» вытворчасць і гандаль, што ўзмацняе ўсеагульны распад, беспрацоўе і голад. Трэба дабіцца, каб дзяржава, пры актыўным удзеле нашых арганізацый рэгулявала-б вытворчасць у забяспечанні і планамернасці барацьбы супроць беспрацоўя і яго прычын.

Для абароны краіны ад разбурэння, рэволюцыі ад катастрофы, рабочы клас ад пагібелі—Совет абавязан патрабаваць **аднаўлення Ўстаноўчага сходу, безадкладную адстаўку народных камісараў і ўсеагульную дэмакратычную ўладу**, якая будзе кіраваць на аснове ўстаноўленых законаў, адказная перад народным прадстаўніцтвам і падтрыманая советамі рабочых і салдацкіх дэпутатаў» **).

Без асобых каментарыяў можна бачыць, што гэтыя патрабаванні складаюць цалкам буржуазную праграму знішчэння Окцябрскай рэволюцыі, усіх яе заваёў, рэстаўрацыі капіталізма заклікаюць рабочых здацца на «міласць» белагвардзейскай і сусветнай імперыялістычнай контррэволюцыі, каб капіталісты і памешчыкі селі зноў на шыю рабочага класа і працоўных мас. Бунд змагаўся за тое, каб знішчыць

*) Друкаваны арыгінал лістоўкі захоўваецца ў Музеі рэволюцыі БССР.
**) Друкаваны арыгінал захоўваецца ў Музеі рэволюцыі БССР.

дыктатуру пролетарыята і на яе месцы аднавіць дыктатуру буржуазіі, аддаць фабрыкі і заводы капіталістам, аднавіць «прелести» буржуазнай дэмакратыі ў асобе буржуазных гарадскіх дум, Устаноўчага сходу, усякіх «свабод» для заклятых ворагаў пролетарскай рэволюцыі і т. д., каб забяспечыць усе ўмовы для неабмежаванай эксплаатацыі рабочых і працоўных сялян.

У такім-жа духу дзейнічала і гомельская арганізацыя Бунда і іншыя. У адным са сваіх контррэволюцыйных лісткоў гомельская арганізацыя распаўсюджвае байкі самых заклятых ворагаў пролетарыята пра тое, што ў Совецкай Расіі «дыктатура ёсць дыктатура над пролетарыятам, а не пролетарыята», што «хто хоча, каб хаос і далей панаваў, каб беспрацоўе ўсё больш узрастала,—той будзе галасаваць за комуністаў» і т. д.*).

І вось Бунд прадказвае з дня на дзень хуткае падзенне совецкай улады, чакае не дачакаецца гэтага і, як ўся белагвардзейская вялікадзяржаўніцкая і мясцовая нацыяналістычная контррэволюцыя, ускладае свае надзеі на інтэрвенцыю, на драпежнікаў сусветнага імперыялізма. Паслухайце толькі! У перыядычным выданні «Гофнунг»—контррэволюцыйным лістку Бунда—чытаем:

> «Пасля таго, як большэвікі ўзбудзілі супроць сябе найшырэйшыя слаі насельніцтва; пасля таго, як разгонам Устаноўчага сходу і ўсіх дэмакратычных устаноў большэвікі стварылі ўдзячную псіхалагічную глебу супроць англічан і амерыканцаў; пасля таго, як яны абвясцілі сябе банкротам і зрабілі немагчымым дзякуючы іх фінансавым і эканамічным эксперыментам тавараабмен з саюзнікамі; пасля таго, калі амаль палова рускай тэрыторыі перашла к немцам і тое-ж самае магло здарыцца таксама і з часткаю, якая засталася, было-б вельмі наіўна думаць, што англійская кааліцыя пакіне ў спакоі большэвікоў, і што палітыканствам удасца пазбегнуць «дапамогі» саюзнікаў. Але Ленін, Радэк і К° сур'ёзна спадзяваліся, што ім удасца выкарабкацца, выкарыстоўваючы супярэчнасці інтарэсаў паміж абодвума кааліцыямі і супярэчнасці паміж дзяржавамі ў сваёй англійскай кааліцыі.
>
> **Цяпер ужо канец блізкі. Англійская кааліцыя наступае.** Англічане, французы, амерыканцы і японцы, не гледзячы на вядомыя ўнутраныя супярэчнасці, сумесна рушылі супроць большэвікоў... У ліпені з Валагды раптам выехалі паслы саюзнікаў, а ў жніўні з тою-ж паспешнасцю з намі развіталіся і нямецкія прадстаўнікі. Пасля ад'езду першых прышло паведамленне аб Мурмане, Онеге, Архангельску і т. д. **Што паследуе пасля другога ад'езду?»**

Што гэта, як не прамое апраўданне і заклік да інтэрвенцыі, багаславенне Бундам імперыялістаў на паход супроць пролетарскай рэволюцыі ў імя яе патаплення ў моры крыві рабочых і сялян. І чым больш распальваецца грамадзянская вайна, тым мацней разгортваецца контррэволюцыйная барацьба Бунда. Праваднір Бунда Лібер прымае ўдзел у чэха-славацкім мяцежы, частка бундаўскіх арганізацый прымае ўдзел у белагвардзейскіх паўстаннях у Яраслаўлі, у Ніжагародскай губерніі (сяло Багародскае) **).

---

*) Друкаваны арыгінал на яўрэйскай мове захоўваецца ў Музеі рэволюцыі БССР.
**) „Звязда" № 155 за 1933 г., арт. Агурскага.

У час нямецкай акупацыі Бунд уваходзіць у адзіны фронт вялікадзяржаўніцкай і мясцова-нацыяналістычнай контррэволюцыі супроць пролетарскай рэволюцыі і заяўляе вуснамі свайго прадстаўніка, што праграма БНР (Беларускай Народнай Рэспублікі), якая была праграмай рэстаўрацыі ўлады раней панаваўшых класаў, праграмай закабалення працоўных мас, ёсць праграма, за якую належыць змагацца *).

Мы не можам тут падрабязна спыніцца на буржуазна-шавіністычнай дзейнасці Бунда, але адзін прыклад прывядзем. На VIII з'едзе Бунда, ужо пасля Окцябрскай рэволюцыі, была прынята рэзалюцыя аб яўрэйскім з'ездзе. Рэзалюцыю гэту «Векер» перадае так:

«Выходзячы з галоўных мыслей, што знаходзяцца ў рэзалюцыі, аб ажыццяўленні нацыянальна-культурнай аўтаноміі, наша партыя пастанаўляе свае адносіны да яўрэйскага з'езду наступным чынам:

Фармулюючы адзінае патрабаванне ўсіх колаў яўрэйскага народу нацыянальна-персанальнай аўтаноміі, яўрэйскі з'езд павінен у гэтым сэнсе ўтварыць важны фактар у працэсе прызнання нацыянальных правоў яўрэйскага народу як знешнім светам, так і ўнутры самой нацыі».

З другога пункта становіцца ясным, што Бунд лічыў з'езд «як арэну барацьбы за нацыянальныя інтарэсы яўрэйскіх народных мас «і адначасова лічыў патрэбным» змагацца за тое, каб вырашэнне яўрэйскага нацыянальнага пытання канчаткова належала толькі адзіна суверэнітэту ўсерасійскага Устаноўчага сходу» **).

З гэтай рэзалюцыі ясна, што як з самага пачатку свайго ўзнікнення, так і цяпер, ва ўмовах дыктатуры пролетарыята, Бунд выступаў як праваднік буржуазнага нацыяналізма і змагаўся за адзіны фронт з яўрэйскай буржуазіяй і за буржуазную нацыянальную яўрэйскую культуру. Буржуазны нацыяналізм Бунда быў цесным чынам увязаны з усёй яго контррэволюцыйнай лініяй у рэволюцыі. І ў гэтай рэзалюцыі Учрэдзілка—ідэал Бунда.

Можна было-б прадоўжыць ганебны летапіс контррэволюцыйных дзеянняў Бунда, але і сказанага даволі, каб бачыць яго сапраўдны контррэволюцыйны твар.

Тым часам бундаўскі кантрабандыст Чарняўскі, які пад прыкрыццём фальшыва-нацыянальнага флага працягваў буржуазна-нацыяналістычныя погляды на гісторыю яўрэйскага рабочага руху і «навукова» «абгрунтоўваў» буржуазную апалагетыку Бунда, сцвярджае ў артыкуле «Окцябрская рэволюцыя і разлажэнне яўрэйскіх дробнабуржуазных партый», што яўрэйскі дробна-буржуазны ідэолаг толькі тады вырашыць, што «яго месца—з буржуазіяй», калі расійскі пролетарыят «вырашыць гістарычную барацьбу не на карысць буржуазіі». Больш таго, ён сцвярджае, што і ў час нямецкай акупацыі ў Беларусі яўрэйскія дробна-буржуазныя партыі «усё яшчэ былі праціўнікамі і дыктатуры буржуазіі, і дыктатуры пролетарыята».

Ці можа быць больш наглядная і больш подлая фальсіфікацыя фактаў? Наглы фальсіфікатар Чарняўскі з мэтай апалогіі Бунда хлусіць, калі сцвярджае, нібы Бунд быў «нейтральным» і не быў актыўным барацьбітом супроць пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята.

*) „Большэвік Беларусі" № 19—20, арт. Поташа.
**) „Векер" № 11 за 1918 г.

З усяго сказанага вышэй ясна контррэвалюцыйная роля Бунда ў ходзе барацьбы за Окцябрскую рэвалюцыю, у Окцябрскай рэвалюцыі і пасля яе. Мы бачым, што Бунд быў арганізатарам і актыўнейшым удзельнікам контррэвалюцыйнай барацьбы супроць большэвікоў, Окцябрскай рэвалюцыі і совецкай улады. Неабходна толькі памятаць, што гэта подлая контррэвалюцыйная роля Бунда не выпадкова, а вынікае з самай сутнасці Бунда з дня яго зараджэння.

Бунд з самага пачатку свайго ўзнікнення быў дробна-буржуазнай рэфармісцка-меншавіцкай і нацыяналістычнай арганізацыяй, якая нічога супольнага не мела з рэвалюцыйна-пролетарскай марксісцкай партыяй. Бунд ішоў рука ў руку з усімі варожымі пролетарыяту апартуністычнымі і рэфармісцкімі плынямі— эканамізмам, меншавізмам, ліквідатарствам, соцыял-шавінізмам—раздзяляючы іх погляды аж да сёнешняга дня, калі ў Польшчы, Заходняй Украіне і Заходняй Беларусі ён выступае, як соцыял-фашысцкая арганізацыя. З'яўляючыся заклятым ворагам комуністычнай партыі, Бунд заўсёды быў правадніком буржуазнага нацыяналізма, выставіўшы рэакцыйную, буржуазна-нацыяналістычную праграму нацыянальна-культурнай аўтаноміі.

Большэвікі на чале з Леніным і Сталіным заўсёды вялі бязлітасную барацьбу з Бундам і ў прыватнасці з яго буржуазна-нацыяналістычнай праграмай, у імя пролетарската інтэрнацыяналізма, бо «ва главу вугла ўсёй палітыкі па нацыянальнаму пытанню большэвікоў пакладзена збліжэнне пролетарыяў і працоўных мас усіх нацый у мэтах сумеснай рэвалюцыйнай барацьбы, у імя перамогі над эксплаататарскімі класамі, без якой немагчыма і знішчэнне нацыянальнага гнёту» **(Сталін)**.

А праграма «культурна-нацыянальнай аўтаноміі», паводле слоў Леніна, «імкнецца ваплаціць у жыццё самы ўтончаны і самы абсалютны, да канца даведзены, нацыяналізм». **Ва ўмовах капіталізма,** «нацыянальная культура» наогул ёсць культура памешчыкаў, папоў, буржуазіі і, як гаварыў Ленін: «Хто проста ці ўскосна ставіць лозунг яўрэйскай «нацыянальнай культуры», той... вораг пролетарыята, прыхільнік старога і каставага ў яўрэйстве, памешчыкаў, рабінаў і папоў».

Бундаўская праграма праследвала задачу—раз'яднаць пролетарыяў розных нацыянальнасцей, аб'яднаць іх са сваёй буржуазіяй, падначаліць іх ёй, насаджаць буржуазную культуру. Бунд выступаў не за рэвалюцыю, а за тое, каб ва ўмовах памешчыцка-буржуазнай Расіі рэфармаваць рэакцыйную і клерыкальную яўрэйскую абшчыну. Бунд агітаваў не за тое, каб быў устаноўлен адзін абавязковы дзень адпачынку, а за «права суботы», або, як выражаецца т. Сталін, «культываваў сярод яўрэйскіх рабочых, так сказаць, «дух суботні».

У сваёй рабоце «Марксізм і нацпытанне» (1913 г.) т. Сталін пісаў:

> «Бунд дасягнуў мэты: ён мяжуе рабочых розных нацыянальнасцей да бойкі, да штрэйкбрэхерства... Дэзарганізацыя рабочага руху, дэмаралізацыя ў радах соцыял-дэмакратыі—вось куды прыводзіць бундаўскі федэралізм».

Бунд заўсёды прыносіў велізарнейшую шкоду пролетарыяту на ўсіх этапах яго барацьбы, абманваючы рабочых, здраджваючы іх інтарэсы, каб весці іх за буржуазіяй. Бунд быў увесь час у лагеры ворагаў большэвізма. У эпоху барацьбы за Окцябр (перыяд перарастання), у Окцябрскай рэвалюцыі і пасля яе перамогі Бунд быў у лагеры контррэвалюцыі, уваходзячы як складаная і актыўнейшая частка ў адзін фронт вялікадзяржаўніцкай і мясцова-нацыяналістычнай контррэвалюцыі, якая змагалася са зброяй у руках супроць проле-

тарскай рэволюцыі, абараняючы капіталізм, імкнучыся да яго рэстаўрацыі у саюзе з імперыялістычнымі інтэрвентамі.

Наша партыя, савецкая ўлада прыходзіць к 17-й гадавіне вялікай соцыялістычнай Окцябрскай рэволюцыі з агромнымі поспехамі. Мы маем у БССР магутны росквіт эканомікі і культуры. Гэта дасягнута рабочымі і працоўным сялянствам БССР пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, на чале з яе мудрым правадыром т. Сталіным, пад кіраўніцтвам КП(б)Б, дзякуючы самаму цеснаму брацкаму саюзу з пролетарыятам усяго Савецкага саюза. БССР—неадрыўная частка СССР—з'яўляецца бліскучым прыкладам перамогі ленінскай нацыянальнай палітыкі. Толькі ленінская партыя, якая заўсёды вяла і вядзе пад сцягам пролетарскага інтэрнацыяналізма барацьбу з усякага роду нацыяналізмам, з'яўляецца адзінай партыяй, правільна вырашыўшай нацыянальнае пытанне.

Вырашэнне большэвікамі нацыянальнага пытання мае міжнароднае значэнне, як узор адзіна магчымага рэволюцыйнага вырашэння нацпытання пры дыктатуры пролетарыята.

Але нашыя каласальныя поспехі зусім не па густу недабітым рэшткам класавага ворага. Класавы вораг аказвае актыўнае супраціўленне нашаму будаўніцтву. Ён у апошніх сударгах узмацняе і напружвае свае апошнія сілы, каб перашкодзіць нашым поспехам. Барацьба з малейшымі праявамі буржуазнага нацыяналізма, вялікадзяржаўнага, беларускага нацыяналізма, які з'яўляецца на даным этапе ва ўмовах БССР галоўнай небяспекай, яўрэйскага, польскага і т. д.—адна з важнейшых нашых задач.

Бунд і «бундызм» з самага пачатку і заўсёды з'яўляюцца адным з самых ярых ворагаў большэвізма, дыктатуры пролетарыята і пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва. Большэвікі заўсёды вялі бязлітасную барацьбу з Бундам.

Ва ўмовах Беларусі актуальнейшае значэнне выкрыцця сутнасці «бундызма» не мае патрэбы ў тлумачэннях. Мы павінны вырваць з корнем усякія малейшыя рэшткі і перажыткі «бундызма», малейшыя спробы ідэалізаваць Бунд. Усё гэта з'яўляецца зброяй класавага ворага і набывае асабліва значэнне ў святле актывізацыі буржуазна-нацыяналістычных элементаў, у святле асноўнай палітычнай задачы другой пяцігодкі – пераадалення перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, у прыватнасці пераадалення перажыткаў капіталізма ў галіне нацыянальнага пытання, перажыткаў, якія значна больш жывучы, чым у любой іншай галіне.

Наша задача—яшчэ вышэй падняць класавую пільнасць, яшчэ больш узмацніць барацьбу за пролетарскі інтэрнацыяналізм—наш баявы сцяг.

Л. Рудзіцкі

# Сельскія советы БССР на даным этапе

Гістарычныя пастановы XVII партыйнага з'езда вялікую ўвагу адводзяць пытанню далейшага разгортвання работы советаў і іх масавых органаў. Ажыццяўляючы пад кіраўніцтвам партыі справу соцыялістычнага будаўніцтва, советы, як асноўныя органы сістэмы пролетарскай дыктатуры, поруч з усімі яе звеннямі і рычагамі дасягнулі агромных поспехаў у барацьбе за справу соцыялізма. Увага партыі к рабоце советаў не аслаблялася ніколі на ўсіх этапах соцыялістычнага будаўніцтва.

Вывучэнне вынікаў кункурса советаў па БССР прыводзіць да адзінага вываду, што іх удзельная вага і роля яшчэ больш узрасла за апошні час. У рабоце гарадскіх і сельскіх советаў яшчэ многа розных непаладак і недахопаў, але толькі апартуністы і малаверы могуць не заўважыць, што лінія росту і ўмацавання пранізвае ўвесь змест дзейнасці советаў і іх масавых органаў. Толькі паследышы так званых ліквідатараў сельсоветаў яшчэ могуць свядома не заўважыць, якую велізарную ролю ў дзейнасці советаў адыгрывае разгортванне арганізацыйна-масавай работы, забяспечваючай яшчэ большае ўмацаванне сістэмы пролетарскай дыктатуры.

Паводле даных арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦВК БССР на 1 студзеня 1934 года па 66 раёнах Беларусі, з 75, пры сельсоветах было 5178 секцый і 1809 дэпутацкіх груп; гэтыя арганізацыі ахаплівалі 37 272 актывістаў, якія добраахвотна ў парадку грамадскай нагрузкі выконвалі заданні советаў і іх масавых органаў. Гэтыя далёка няпоўныя лічбы (асобна трэба ўпомніць аб 45551 дэпутаце советаў) паказваюць шырыню ахопу советамі агромнага кола працоўных, якія ўдзельнічаюць у нашай пролетарскай дэмакратыі, ператвараючы, як сказаў у свой час Ленін, справу кіраўніцтва дзяржавай для працоўных у справу кіраўніцтва праз працоўных.

Дасягненні і недахопы ў рабоце советаў павінны зараз вывучацца не толькі на аснове агульных лічбовых паказчыкаў. Кожны невялікі канкрэтны факт, кожная „дробязь“ жыцця вельмі часта з'яўляюцца настолькі паказальнымі, што адкіданне іх у бок можа прывесці да значных хібаў. Аб рабоце советаў трэба судзіць па паказчыках гаспадарчых дасягненняў, па даных іх штодзеннай сістэматычнай барацьбы за ўздым матар'яльнага і культурнага добрабыту шырокіх працоўных мас, па тым, як сельсовет—орган дыктатуры пролетарыята—ахоўвае соцыялістычную ўласнасць, аперацыйна кіруе работай калгасаў, арганізуе соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва працоўных для пераможнага завяршэння пабудовы соцыялізма.

Снежаньскі пленум ЦК ВКП(б) 1930 г., намячаючы ў спецыяльнай пастанове аб советах шляхі іх работы, адзначыў:

„Советы толькі зараз, толькі на базе хутка растучай буйнай вытворчасці, не толькі ў горадзе, але і ў вёсцы змогуць поўнасцю

выявіць усе наяўныя ў пролетарскай дыктатуры магчымасці, унутраныя і міжнародныя, у справе барацьбы за перамогу соцыялізма".

Гэты прагноз партыі знайшоў бліскучае пацверджанне за апошнія некалькі год. Ад советаў патрабаваўся карэнны і хуткі пералом у разгортванні масавай работы, патрабавалася рашучае ажыццяўленне лозунга—„советы тварам да вытворчасці, да калгаснага будаўніцтва". Пад кіраўніцтвам КП(б)Б советы БССР прарабілі за годы першай пяцігодкі агромнейшую работу. Зараз наша краіна ў цесным саюзе з астатнімі совецкімі рэспублікамі прадаўжае ажыццяўляць гістарычныя ўказанні партыі аб пабудове соцыялізма.

Аб чым гавораць факты? Спынімся на паасобных галінах работы перадавых сельскіх советаў БССР. Азнаямленне з іх вопытам ярка паказвае, што актыўна-ўздзейная роля советаў значна ўзрасла, дзякуючы выкананню двух асноўных указанняў партыі: цяснейшай і неразрыўнай **сувязі з масамі**, большэвіцкай **арганізацыі** палітычнага кіравання гаспадарчым і культурным будаўніцтвам і выкананнем соцыялістычных абавязкаў перад пролетарскай дзяржавай.

Паступова адыходзіць у мінулае тая сістэма работы сельсовета, калі пэўная частка старшынь імкнуліся самі ўсё выканаць і ў лепшым выпадку з дапамогаю невялічкай часткі прэзідыума. Добра вядома, да чаго прыводзіў і прыводзіць такі метад работы, калі кіруючая частка совета займаецца голым адміністраваннем і рэгістрацыяй папер, паступаючых з раённых устаноў. Варта напомніць адну вытрымку з глыбокай па зместу і бліскучай па форме прамовы т. Калініна на XVII партыйным з'ездзе:

> „Возьмем для прыкладу самага маленькага працаўніка, каб гусакоў не дражніць,—старшыню сельсовета і былога валаснога старшыню. Якая вялікая розніца ў патрабаваннях, якія прад'яўляюцца старшыні сельсовета жыццём і вышэйшымі органамі ўлады, у параўнанні з тымі патрабаваннямі, якія прад'яўляліся старшыні старым, дарэволюцыйным ладам. Старшыня быў у дзесяткі раз ніжэй інтэлектуальна, яго арганізацыйныя здольнасці і палітычны кругагляд былі непараўнальна менш, чым у нашага старшыні сельсовета. Справа ў тым, што перад нашым старшынёю сельсовета стаяць **прынцыпова іншыя задачы, вырашэнне якіх без арганізацыі мас немагчыма.** У нас кіраваць—значыць арганізоўваць дзесяткі мільёнаў працоўных".

Прыведзеная цытата—майстэрская папулярызацыя палажэння тав. Сталіна аб значэнні на даным этапе арганізацыйнага кіраўніцтва, немагчымага без уцягнення шырокіх мас.

Значная частка сельсоветаў БССР і іх кіраўніцтва добра гэта зразумела, і ў дзейнасці сваёйператварае ў жыццё ўказанні правадыроў партыі.

Перадавыя сельсоветы апіраюцца на моцна скалочаны актыў з лепшых калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, праводзячы рад адказнейшых гаспадарчых мерапрыемстваў праз секцыі і дэпутацкія групы. Прывядзем некаторыя факты з матар'ялаў канкурса сельскіх советаў 1933 г.*).

*) Факты сабраны працаўнікамі арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦВК БССР тт. Русовічам, Пятосіным, Фрыдмо, Пекур.

Старшыня Амгавіцкага с.-с., Слуцкага раёна, тав. Рапапарт з дапамогаю секцыянераў і дэпутацкага актыва дабіўся значнага палепшання работы сельсовета, ініцыятыва масавых органаў советаў ілюструецца радам канкрэтных гаспадарчых дасягненняў.

Па ініцыятыве сельска-гаспадарчай секцыі арганізаваны курсы аграмінімума, якія скончыла 85 калгаснікаў. Па ініцыятыве секцыі па палепшанню працы і быту жанчын праводзіліся нарады свінарак і даярак, у рэзультаце адыход парасят зменшыўся на 50 проц. Секцыянеры пад кіраўніцтвам прэзідыума совета пільна ахоўваюць соцыялістычную ўласнасць, вядуць барацьбу з варожымі калгаснаму будаўніцтву элементамі. Пры праверцы работы калгаса „Рубеж" выявілі рад злачынстваў, дапушчаных старшынёю калгаса **Нейхільдам** і брыгадзірам **Акуліч**. Злачынцы зняты з работы і аддадзены пад суд. Секцыі і дэпутацкія групы совета спецыяльна вывучалі работу калгасных вартаўнікоў, рахункаводаў і кладаўшчыкоў, сярод якіх выявілі шкоднікаў калгаснага будаўніцтва.

Работа секцый і дэпутацкіх груп у перадавых сельсоветах перастае насіць няпланавы характар, знікае абязлічка, выпадковасць заданняў. Надзвычай цікава і характэрна, што рад советаў не толькі дабіваецца высокай мабілізаванасці ў сваёй рабоце, але дапамагае адстаючым сельсоветам.

У актыве Еромкаўскага с.-с., Оршанскага раёна,—260 чал.; усе яны ўцягнуты ў работу секцыі. Пры калгасах і соўгасе сельсовета дэпутацкімі групамі ахоплена 102 чал. Совецкі актыў вядзе сваю работу на аснове спецыяльна складаемых пакватальных планаў. Метадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва сельсовет і яго масавыя органы дабіліся таго, што асноўныя гаспадарчыя кампаніі (веснавая сяўба, уборка зернавых культур, лёну і бульбы) выкананы датэрмінова; на 120,9 проц. выканан гадавы фінплан; на 100 проц.—план дарожнага будаўніцтва; поўнасцю і ў тэрмін выконваюцца дзяржаўныя заданні.

Усе гэтыя факты сведчаць аб палітычнай боездольнасці сельсовета, аб тым, што сельсовет сапраўды з'яўляецца кіраўніком і арганізатарам мас працоўнага сялянства.

Совет не абмяжоўваецца арганізацыяй працы выключна ў межах падпарадкаванай яму тэрыторыі. Яго совецкі актыў па-большэвіцку дапамагае іншым сельсоветам выконваць розныя заданні. У матар'ялах конкурса адзначана:

> „Для ільнаапрацоўкі арганізаваны былі 4 брыгады жанчын, з якіх 2 брыгады дапамагалі адстаючым калгасам свайго сельсовета і дзве накіраваны ў калгасы Верабойшчанскага сельсовета. На торфарасапрацоўках арганізаваны 2 брыгады з лепшых калгаснікаў перадавых калгасаў. Кіраўнікамі буксірных брыгад з'яўляліся секцыянеры, члены дэпутацкіх груп".

Карэнны пералом у рабоце лепшых сельсоветаў над выкананнем гаспадарча-палітычных мерапрыемстваў, заданняў соцыялістычнай дзяржавы цяснейшым чынам звязан з павышэннем іх дзелавой зацікаўленасці ў арганізацыйна-гаспадарчым умацаванні калгасаў.

Практыка папяровага, бюракратычнага кіраўніцтва калгасамі, звядзення ўсяго сэнсу работы да эпізадычнага заслухоўвання справаздач праўленняў калгасаў, калі совет не ведаў усіх галін работы калгаса і дэталей жыцця калгаснікаў, не мае месца ў перадавых сельсоветах БССР. Калгасным будаўніцтвам яны кіруюць аперацыйна, не падмяняючы праўлення калгаса, ведучы сістэматычную барацьбу за

заканчэнне соцыялістычнай перабудовы вёскі, за ператварэнне калгасаў у моцныя бальшэвіцкія прадпрыемствы, за заможнае калгаснае жыццё.

Цікавы новыя формы ў кіраўніцтве сельсовета калгасамі.

Рэдзькаўскі сельсовет, Любаньскага раёна, спалучыў аперацыйнае кіраўніцтва з шырокім сістэматычным разгортваннем масавай работы, добра зразумеўшы, што справа не ў голых дэкларацыйных заявах і пастановах, якія самі сабой ніколі не ажыццяўляюцца і якія немагчыма правесці выключна адміністрацыйным націскам. Сельсовет не абмяжоўваецца аднымі дакладамі старшынь калгасаў на паседжаннях прэзідыума і пленума, ён заслухоўвае і даклады брыгадзіраў. Не замыкаючыся ў канцэлярыі, работнікі сельсовета апускаюцца ў гушчу калгаснікаў і, што асабліва каштоўна, правяраюць з дапамогаю савецкага актыва, як выконваюцца прынятыя рашэнні. Сельсовет практыкаваў выезды ў калгасы, дзе праводзіў паседжанні прэзідыума і слухаў справаздачы старшынь калгасаў. У паседжаннях прымала ўдзел значная колькасць калгаснікаў. Для сістэматычнага кантролю над ажыццяўленнем пастаноў сельсовета і практычнай дапамогі да калгасаў прымацоўваліся члены сельсовета. Добра наладжаная масавая работа садзейнічала таму, што Рэдзькаўскі сельсовет па веснавой сяўбе і ўсіх відах загатовак вышаў на першае месца ў раёне.

Сталая сувязь з масамі калгаснікаў, арганізаванасць савецкага актыва, дасканалая праверка выканання, шырокі абмен вопытам дэпутатаў і секцыянераў з лепшымі брыгадамі калгаснікаў, бальшэвіцкае разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва; шырокае скарыстанне насцендруку ў калгасах і іх асноўных звеннях—брыгадах; заахвочванне лепшых ударнікаў калгасных палёў і жывёлагадоўчых ферм і процістаўленне іх лодырам і гультаям праз чырвоныя і чорныя дошкі; добрая наладжанасць палітычнай інфармацыі і прапаганды сярод калгаснікаў праз сістэматычную чытку газет і прапрацоўку важнейшых дырэктыў партыі, пастаноў савецкага ўрада—вось асноўныя метады работы, якімі карыстаўся Рэдзькаўскі і іншыя перадавыя сельсоветы БССР.

* * *

16 год назад Ленін пісаў:

„Мэтай нашай з'яўляецца **пагалоўнае** прыцягненне беднаты да практычнага ўдзелу ў кіраўніцтве (падкрэслена Леніным), і ўсякія крокі да ажыццяўлення гэтага—чым больш разнастайныя, тым лепш павінны **дакладна рэгістравацца, вывучацца, сістэматызавацца, правярацца** больш шырокім вопытам“*) (падкрэслена мною—*Л. Р.*).

Больш дзесяці год без Леніна, але па ленінскім шляху пад кіраўніцтвам тав. Сталіна партыя і рабочы клас ажыццяўляюць гэта гістарычнае ўказанне. Тэрмін „беднata“ робіцца паняццем, якое абазначае мінулае становішча перадавой часткі працоўнага сялянства. Бальшэвікі непахісна і цвёрда вывелі былую беднату і асноўную масу працоўных серадлякоў на шырокі шлях калгаснага жыцця. Разгромленае кулацтва знікае як клас эксплаататараў з твару соцыялістычнай вёскі: засталіся яшчэ рэшткі разбітага кулацтва, якія імкнуцца шкодзіць паспяховаму ходу соцыялістычнага будаўніцтва. Але гэтыя рэшткі будуць поўнасцю і канчаткова ліквідаваны ў магут-

*) Ленін. Збор твораў, том XV, вып. 1, стар. 205.

ным працэсе пастунальнага руху мільённых мас працоўных к соцыялізму.

Карэнныя гістарычныя змены перажыла наша краіна, але не зменшылася актуальнасць прыведзенай думкі Леніна. Як баявая каманда гучаць яго словы аб неабходнасці дакладна рэгістраваць, вывучаць, сістэматызаваць, правяраць больш шырокім вопытам усякія крокі па ўцягненню працоўных у кіраўніцтва.

Мы мала зрабілі яшчэ для ажыццяўлення гэтага ўказання Леніна. У нас няма **дакладнай рэгістрацыі і поўнага ўліку** шырокіх мас совецкага актыва, які праводзіць агромную работу па самых разнастайных палітычных, гаспадарчых, культурна-бытавых і іншых пытаннях. Трэба мець на ўвазе, што совецкі актыў складаецца не толькі з дэпутатаў і секцыянераў, безумоўна ўлічаных, зарэгістраваных, а і са шматлікіх дэпутацкіх груп, добраахвотных камісій і розных масавых арганізацый, якія ахопліваюць усю сістэму пролетарскай дыктатуры.

„Нашы таварышы часам не заўважаюць,—сказаў т. Сталін,— што вакол нашых нізавых партыйных, совецкіх, культурных, прафесіянальных, асветных, комсамольскіх, армейскіх, жонаддзельскіх і ўсякіх іншых арганізацый, капошацца цэлыя муравейнікі самачынных арганізацый, камісій і нарад, ахопліваючых мільённыя масы беспартыйных рабочых і сялян... Без гэтых мільённых арганізацый, аблягчаючых нашы совецкія і партыйныя органы, існаванне і развіццё совецкай улады, кіраванне і кіраўніцтва вялікай краіны было-б абсалютна нямысліма. Совецкі дзяржаўны апарат складаецца не толькі з советаў. Совецкі дзяржаўны апарат **у глыбокім сэнсе** гэтага слова складаецца з советаў плюс мільённыя арганізацыі ўсіх і ўсялякіх беспартыйных і партыйных аб'яднанняў“ *).

А ці дастаткова мы **вывучаем, сістэматызуем і правяраем** вопыт работы гэтых **усіх і ўсялякіх** аб'яднанняў, аб якіх гаварылі нашы правадыры?

За сухімі радкамі інфармацыйных матар'ялаў трэба бачыць тыя новыя формы самадзейнасці і ініцыятывы, якія з нечуванаю сілай уздымаюць і ствараюць гэтыя „самачынныя арганізацыі“ мільённых мас. Трэба, на жаль, адзначыць, што вынікі розных аглядаў, конкурсаў советаў, апісанне паасобных галін іх работы ў розных інструктарскіх зводках носіць часта павярхоўны характар.

Пры азнаямленні з работай советаў і іх масавых органаў нельга абмяжоўвацца голай канстатацыяй фактаў, фіксацыяй выключна таго, што зроблена. Ленін патрабаваў вывучаць, сістэматызаваць, правяраць усякія крокі па ўцягненню мас у справу кіраўніцтва дзяржавай. Іменна таму зусім недастаткова адзначыць, што той ці іншы факт меў месца, абмежавацца простым указаннем на яго важнасць. Неабходна расказаць не толькі аб тым, **што** зроблена, трэба абавязкова паказаць як зроблена, трэба ўважліва збіраць і ўдумчыва вывучаць тыя крупіцы вопыту, якія ўсе разам складаюць работу таго дзяржаўнага апарата, які т. Сталін называе совецкім дзяржаўным апаратам у глыбокім сэнсе.

Вышэй мы адзначылі, якое вялікае значэнне маюць конкурсы советаў, праведзеныя па БССР. Паказаць у адным артыкуле ўсю

*) **Сталин.** „Вопросы ленинизма“, изд. 1929 г., стр. 254.

каштоўнасць іх вынікаў немагчыма, гэтай работай неабходна заняцца калектыву. Матар'ялы конкурса вельмі цікавы багаццем жыццёвых фактаў, у іх сканцэнтраваных. Але адсутнасць у радзе апісанняў работы советаў таго, што мы называем паказам, як яны працуюць, як разгортваюць работу секцыі, дэпутацкія групы і кожны совецкі актывіст паасобку,—часткова пазбаўляе магчымасці перадаваць вопыт іх работы як узор для іншых сельсоветаў. Возьмем прыклады.

У матар'ялах конкурса прыводзіцца апісанне работы Кішчэна-Слабодскага сельсовета (Барысаўскі раён). Цэнтральная конкурсная камісія прэміявала сельсовет поўным абсталяваннем аграпункта за тое, што ён дасягнуў высокіх паказчыкаў ва ўсіх галінах сваёй работы. Пад непасрэдным кіраўніцтвам сельсовета калгасы арганізацыйна ўмацоўваюцца і гаспадарча растуць. Скарыстанне вопыту гэтага перадавога, узорнага сельсовета прынесла-б вялікую карысць для многіх советаў БССР. Аднак, апісанне даецца ў такой лаканічнай павярхоўнай форме, што цяжка ўявіць сабе **канкрэтныя формы** работы сельсовета. На стар. 42 матар'ялаў конкурса адзначана:

> „Сельска-гаспадарчыя секцыі і дэпутацкія групы правялі вялікую работу для павышэння ўраджайнасці. Па ініцыятыве дэпутацкай групы калгаса „Чырвоная зорка" было арганізавана грамадскае харчаванне ў полі ў час палявых работ"... „У справе мабілізацыі сродкаў вялікую работу правяла фінансавая секцыя. Секцыя мабілізавала актыў з лепшых калгаснікаў на рэалізацыю пазыкі... Член фінсекцыі тав. Буцкевіч Наум за кароткі час рэалізаваў пазыку за наяўны разлік сярод аднаасобнікаў на 2000 рублёў".

Прыведзеныя факты сведчаць аб большэвіцкай боездольнасці Кішчэна-Слабодскага сельсовета. Аднак большую карысць прынесла-б не простая канстатацыя фактаў, не голае іх фатаграфаванне і фіксацыя, а такое апісанне, дзе было-б паказана **як іменна** дэпутацкая група калгаса „Чырвоная зорка" арганізавала грамадскае харчаванне ў полі, як і дзе варылася снеданне і абед для калгаснікаў, як канкрэтна адбілася гэта на павышэнні якасці палявой работы. Таксама больш каштоўна было-б апісаць работу члена фінсекцыі Буцкевіча Наума, паказаўшы **як** ён адзін рэалізаваў пазыку на 2000 рублёў.

Падобных апісанняў работы сельсоветаў і іх масавых органаў сустракаем нямала ў матар'ялах конкурса. Вось узоры:

> „У вялікіх калгасах („Чырвоны герой", „Полымя" і інш.) дэпутацкія групы дапамагаюць праўленням калгасаў у арганізацыі работы вытворчых нарад, разгортванні соцспаборніцтва і ўдарніцтва і выкананні абавязкаў перад дзяржавай" (Крупскі с-с., Крупскага раёна).
>
> „Добра наладжаная работа дэпутацкай групы калгаса „Чырвоныя ўсходы" забяспечыла своечасовае і паспяховае выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній, дзякуючы чаму гэты калгас увесь час ідзе ў ліку перадавых па раёну" (Баранскі с-с., Оршанскага раёна.).
>
> „Апарат сельсовета ў яго рабоце з'яўляюцца секцыі і дэпутацкія групы. Некаторыя секцыі паказваюць узорныя прыклады барацьбы за выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній на тэрыторыі сельскага совета" (Тварычаўскі нацыянальны польскі сельсовет, Мазырскага раёна).

„Аддзелы райвыканкомаў (райфа, райаддзел аховы здароўя і інш.) дапамагаюць секцыям у іх практычнай рабоце“ (Бытчанскі сельсовет, Барысаўскага раёна).

Пры вывучэнні гэтых інструктарскіх апісанняў зусім паслядоўна можна паставіць рад запытанняў: Як канкрэтна дапамагаюць дэпутацкія групы праўленням калгасаў? У чым імённа заключаюцца ўзорныя прыклады барацьбы секцый за выкананне гаспадарча-палітычных кампаній? У чым канкрэтна заключаецца дапамога аддзелаў РВК у рабоце секцый? і т. д. і т. п.

Недахопам матар'ялаў аб выніках конкурса сельсоветаў БССР з'яўляецца і тое, што яны не паказваюць як ажыццяўляецца сувязь паміж сельсоветамі і новымі органамі партыі—палітаддзеламі МТС і соўгасаў.

Было-б вельмі няправільна думаць, што работа палітаддзелаў можа праходзіць па-за сферай дзейнасці сельсоветаў.

„Задачы, якія стаяць перад палітаддзелам,—гаварыў тав. Кагановіч,—па сутнасці з'яўляюцца чарговымі задачамі ўсёй партыйнай работы ў вёсцы, бо **справа ідзе не толькі аб МТС і соўгасах**. Справа ідзе, па-першае, аб палепшанні кіравання самой сельскай гаспадаркай; справа ідзе, па-другое, аб пастаноўцы на адпаведную вышыню задачы соцыялістычнага выхавання шырокіх мас калгаснікаў; справа ідзе, па-трэцяе, аб выпраўленні памылак і недахопаў нашых вясковых партыйных арганізацый“ *) (Падкрэслена мною—*Л. Р*).

Такім чынам, зусім ясна і відавочна, што палітаддзелы МТС і соўгасаў прызваны партыяй да ажыццяўлення адказнейшай задачы: яшчэ больш умацаваць усю сістэму совецкіх органаў нашай соцыялістычнай вёскі.

Палітаддзелы за кароткі час свайго існавання ўзорна паказалі, як трэба працаваць над арганізацыяй шырокіх мас калгаснага сялянства. Па-большэвіцку, не спускаючы з вока ніводнага жыццёвага факта, які мог-бы здацца дробяззю для некаторых, упарта, настойліва перамагалі яны закаранеласць, адсталасць, нерухомасць. Яны надзвычай уважліва, старанна і ўдумчыва сачылі за парасткамі новага соцыялістычнага жыцця, якія расцвітаюць магутным дрэвам у нашай краіне.

Палітаддзельцы не з'яўляюцца „начальствам“, якое, гледзячы з боку, дае дырэктывы і чакае пакуль іх выканаюць. Палітаддзельцы кіруюць, спускаючыся ў самую гушчу калгаснага жыцця, да самага ніжэйшага звяна, да самай маленькай брыгады па праполцы гародаў, да самай закінутай сялянскай хаты, яны вывучаюць, наглядаюць, і, абмяркоўваючы кожны канкрэтны факт, паасобную з'яву, паказваюць **як трэба і як не трэба працаваць**. Яны не проста кіраўнікі, яны—арганізатары перамог на соцыялістычных палях калгасаў.

Вывучэнне матар'ялаў конкурса сельсоветаў БССР прыводзіць к вываду, што ключ да большэвіцкіх перамог на фронце соцыялістычнага будаўніцтва—у руках тых советаў, кіраўнікі якіх ідуць па ўказаным правадырамі нашай партыі шляху, умела скарыстоўваюць вопыт палітаддзелаў па ўцягванню шырокіх мас калгаснага сялянства ў масавую работу для перамагання розных недахопаў і цяжкасцей, якія пакуль што сустракаюцца на шляху пераможна растучага соцыялізма.

*) **Каганович. „Цели и задачи политотделов МТС и совхозов“, 1933 г.**

Чым-жа іншым тлумачацца поспехі Рэдзькаўскага сельсовета, Любаньскага раёна, які ў 1932 годзе адставаў, а ў 1933 вышаў на першае месца ў выкананні ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній?

„Выкананне загатовак па сельсовету характарызуе перабудову яго работы на аснове ўмацавання масавых органаў. Пры выкананні плана хлеба і бульба-загатовак па сельсовету не было выпадкаў прыцягвання да крымінальнай або адмінстрацыйнай адказнасці".

Калі дырэктывы партыі і ўрада шырока і грунтоўна растлумачваюцца—уся маса працоўных ведае, якія задачы стаяць перад ёю. Калі кіраўнікі советаў не займаюцца бюракратычным камандваннем, а арганізуюць новыя соцыялістычныя формы працы і на аснове гэтых новых форм мабілізоўваюць шырокія масы калгаснікаў і аднаасобнікаў на выкананне ўсіх гаспадарча-палітычных задач, пастаўленых партыяй і ўрадам перад сельскай гаспадаркай і ў цэлым перад сельсоветамі, то сельсоветы пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый заўсёды справяцца з усімі ўскладзенымі на іх задачамі.

Перад сельсоветамі, як і перад партыйнымі арганізацыямі, зараз стаяць важнейшыя задачы: барацьба за развіццё жывёлагадоўлі, павышэнне ўраджайнасці соцыялістычных палёў, завяршэнне суцэльнай калектывізацыі к канцу другой пяцігодкі, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаванне калгасаў і т.д. Усё гэта патрабуе ад сельсоветаў узняцця сваёй арганізацыйнай работы да вышыні палітычных задач, на аснове яшчэ большага ўцягвання ў склад советаў лепшых калгаснікаў-ударнікаў, добра ведаючых справу сельскай гаспадаркі і шчыра зацікаўленых у яе большэвіцкім разгортванні і ўмацаванні.

* * *

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б советы БССР уступаюць у справаздачна-перавыбарчую кампанію 1934 года з агромнымі дасягненнямі на ўсіх фронтах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Працоўныя нашай рэспублікі на ўласным вопыце добра ведаюць, што работа советаў—іх родная, іх кроўная справа. Сотні тысяч працоўных знаходзяцца ў дэпутацкім актыве 1477 сельсоветаў БССР. Сюды трэба дадаць агромныя масы працоўных, ахопленых рознымі секцыямі, дэпутацкімі групамі і іншымі арганізацыямі советаў. У БССР створаны 112 нацыянальных сельсоветаў для ўсебаковага абслугоўвання працоўных розных нацыянальных меншасцей на іх роднай мове—рускіх, палякаў, яўрэяў, украінцаў, немцаў, латышоў, літоўцаў. Кіраўніцтва гэтых советаў, паслядоўна ажыццяўляючы ленінскую нацыянальную палітыку, павінна абслугоўваць працоўных нацыянальных меншасцей на іх роднай мове, улічваючы неабходнасць максімальнага ўцягнення іх у будаўніцтва соцыялізма, у стварэнне культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу.

Советы БССР прыходзяць да справаздачна-перавыбарчай кампаніі са значнымі поспехамі. Задачы вялікай гістарычнай важнасці стаяць перад імі. БССР—фарпост Совецкага саюза на рубяжы двух светаў—разам з астатнімі брацкімі совецкімі рэспублікамі ў бліжэйшыя гады будзе завяршаць пабудову соцыялістычнага грамадства. Патрэбна яшчэ большая мабілізацыя ўсіх творчых сіл працоўных нашых гарадоў і вёсак на пераможнае ажыццяўленне плана другой пяцігодкі, на канчатковую ліквідацыю ўсіх рэштак капіталістычных класаў і вы-

яўленне ўсіх кулацкіх буржуазна-нацыяналстычных элементаў, што шкодзяць рабоце советаў.

Трохмільённая маса пролетарыяў, калгаснікаў, працоўнай інтэлігенцыі на працягу бліжэйшых месяцаў прыме ўдзел у выкананні адказнейшага абавязку грамадзян нашай краіны—выбарах у советы. З вялікай масы працоўных у советы будуць абраны лепшыя з лепшых, толькі сапраўдныя ўдарнікі заводаў, соўгасаў, калгасаў. Таму іменна зараз, падводзячы вынікі поспехаў советаў, неабходна ўспомніць і пра адмоўныя з'явы на фоне нашага агульнага росту.

„Задача советаў заключаецца ў тым, каб разгарнуць самую шырокую большэвіцкую крытыку і самакрытыку сваёй работы... Тады ясней будзе відаць у рабоце советаў адхіленні ад генеральнай лініі партыі. Тады астрэй будзе відаць недахопы работы кожнага члена совета. Тады вярней і лягчэй мы зможам ачысціць советы ад чуждых, няўстойлівых, апартуністычных элементаў"*).

Конкурс советаў поруч з выяўленнем дадатных бакоў і яшчэ большым павышэннем якасці работы перадавых сельсоветаў паказаў, што ў радзе выпадкаў наглядаліся факты апартуністычных адносін да разгортвання арганізацыйна-масавай работы і голага адміністравання ў дачыненні працоўных.

Старшыня Сталінскага сельсовета, Дзержынскага раёна, Каначук лічыў несумяшчальнай сваю ролю кіраўніка совета з арганізацыйна-масавай работай:—„Няма часу займацца секцыямі. Калі сам нічога не зраблю, то нічога і не будзе". Сталінскі сельсовет не з'яўляецца адзінічным выпадкам дрэннай работы сельсоветаў.

Розныя ліквідатарскія тэндэнцыі ў дачыненні да разгортвання арганізацыйна-масавай работы яшчэ сустракаюцца ў дзейнасці кіраўнікоў советаў. Гэтыя праявы з'яўляюцца своеасаблівым рэцыдывам на даным этапе тэорый „славутых" ліквідатараў, якія некалькі год таму назад марылі аб непатрэбнасці сельсоветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі.

Падобныя развужанні характарызуюць свядомых апартуністаў, кулацкіх агентаў, ад якіх трэба рашуча ачышчаць і партыю і советы. Але ў такіх выпадках сустракаюцца часта і людзі, няздольныя кіраваць масамі калгаснага сялянства з прычыны слабасці сваёй палітычнай і гаспадарчай падрыхтоўкі. Канчатковая перабудова работы ўсіх советаў на аснове рашэнняў XVII партз'езда будзе праведзена з тым большым поспехам, чым большую ўвагу звернуць усе партыйныя і совецкія органы на падрыхтоўку і перападрыхтоўку работнікаў советаў.

М. І. Калінін з уласцівай для яго папулярнасцю і выразнасцю паказаў у сваёй прамове ў Новасібірску, **што значыць падрыхтаваны і непадрыхтаваны старшыня сельсовета:**

„Калі на чале сельсовета стаіць **дзельны чалавек, чалавек палітычна развіты, чалавек, які ўладае гаспадарчым вопытам, ведае калгасную вытворчасць** (а такія патрабаванні да старшынь сельсоветаў мы зараз павінны прад'яўляць), то ён, умела выкарыстоўваючы секцыянераў, можа вельмі многа зрабіць для добрай пастаноўкі справы ў калгасе. Тут мерапрыемствы адміністрацыйнага парадку ўмела дапаўняюцца арганізацыйна-масавай

* Гл. артыкул т. Чарвякова „Вышэй сцяг советаў", час. „Большэвік Беларусі" №17—18 за 1934 г., стар. 7.

работай. У такіх сельсоветах мы наглядаем дружную, узгодненую работу старшыні сельсовета і старшыні праўлення калгаса, у такіх сельсоветах няма паміж імі сутычак і спрэчак. Прывядзем адзін прыклад. Старшыня такога-та сельсовета вывесіў аб'яву: „10-га мая павінна пачацца веснавая сяўба". Калгаснікі і аднаасобнікі, прачытаўшы гэту аб'яву, здзіўлены. У чым справа? Чаму так нечакана з'явілася аб'ява? Старшыня суседняга сельсовета вывесіў такую-ж аб'яву. Але вынік атрымаўся зусім іншы. Усе чакалі аб'яву, рыхтаваліся да яе. Чаму так здарылася? А здарылася так таму, што ў першым выпадку было проста голае адміністрацыйнае распараджэнне, і таму ніхто да выканання яго не падрыхтаваўся. У другім-жа выпадку сельсовет яшчэ за некалькі тыдняў правёў вялікую масавую палітычную і арганізацыйную работу, усё было загадзя падрыхтавана, усе ведалі сваё месца, сваё вытворчае заданне, усе ведалі, што, як толькі стан глебы і надвор'я дазволіць, сельсовет дасць сігнал: пара пачынаць сяўбу. Два знешне нібы аднолькавыя распараджэнні, а метады і вынікі зусім розныя. Людзі, прыязджаючыя ў сельсовет, многія нашы інструктары і ўпаўнаважаныя часта не заўважаюць гэтай глыбокай розніцы. І там і тут—загад. Значыць і метады работы аднолькавы,—разважаюць яны. Яны не заўважаюць таго, **што адзін старшыня займаецца голым адміністраваннем, не падмацоўвае свайго распараджэння масавай палітычнай работай і працуе таму несовецкімі метадамі, а другі ўмела праводзіць лінію партыі"*** (Падкрэслена мною.—*Л. Р.*).

Са слоў тав. Калініна з вычарпальнай яснасцю і паўнатою бачым, якое значэнне на даным этапе маюць падрыхтаваныя кадры работнікаў советаў і іх органаў. Сотні тысяч працоўных нашай краіны ўцягваюцца ў справу дзяржаўнага кіраўніцтва. Гэтых людзей трэба арганізаваць, падняць іх палітычны і агульна-культурны ўзровень. Сярод іх тысячы здольных, таленавітых, да канца адданых справе соцыялізма людзей. Трэба толькі на справе дапамагчы ім аўладаць палітычнымі і спецыяльнымі ведамі, неабходнымі работнікам советаў.

У гэтым пытанні ў нас яшчэ вялікія недахопы. Даволі ўзяць даныя арганізацыйна-інструктарскага аддзела ЦВК БССР аб цякучасці кадраў працаўнікоў советаў і іх органаў. Змены ў складзе кіруючай часткі працаўнікоў советаў і райвыканкомаў выражаюцца ў наступных паказчыках.

За 1933 год у 44 раёнах старшыні РВК змяніліся па аднаму разу, у 10 раёнах—па два разы. Па 1219 сельсоветах за 6 месяцаў змянілася 410 старшынь або 33,8 проц.; намеснікаў старшынь сельсоветаў—122, або 13,8 проц; 217 сакратароў—23,5 проц. За адзін год па гэтых сельсоветах змянілася 732 старшыні, што складае 60 проц.

Дзе-ж асноўны корань такой недапушчальнай цякучасці кіруючых работнікаў советаў? З раду аўтарытэтных крыніц атрымаем ясны адказ на гэта актуальнае пытанне:

„Не сакрэт, што мы маем значную цякучасць сярод совецкіх кадраў. Ці не з'яўляецца гэта ў значнай меры вынікам слабой часам падрыхтаванасці высоўваемых на совецкую работу людзей, недастаткова правераных на гаспадарчай і культурнай рабоце?".

* М. І. Калінін. „Аб сельсоветах". Пераапрацаваная стэнаграма выступлення ў Новасібірску. 1934 год.

Так пішуць „Известия ЦИК СССР“ ад 27 верасня г.г. у перадавіцы „Навстречу с‘езду советов“.

Фіксуючы ўвагу на чарговых задачах справаздачна-перавыбарчай кампаніі, артыкул падркэслівае:

„У сістэме гэтых задач адно з важнейшых месц займае пытанне **аб людскіх кадрах советаў**, якія трэба замацоўваць ад выбараў да выбараў. Дабіцца гэтага можна не толькі больш дакладнай праверкаю высоўваемых на работу ў органы пролетарскай дыктатуры, але і штодзеннай дапамогаю ім, **адпаведнай падрыхтоўкай і перападрыхтоўкай старых і новых совецкіх кадраў**“.

У БССР да апошняга часу слаба праходзіць падрыхтоўка кваліфікаваных кіруючых кадраў для советаў і райвыканкомаў. Зараз у шасці гарадах—Маскве, Ленінградзе, Саратаве, Казані, Іркуцку, Алма-Аце—6 вышэйшых навучальных установ рыхтуюць спецыялістаў па пытаннях работы советаў.

Тав. Енукідзе піша:

„Каб узняць арганізацыйную работу да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, нам неабходна перш за ўсё ўзняць узровень кадраў, працуючых у гэтай галіне“... „У адносінах такіх працаўнікоў, як сакратары РВК, інструктары іх і загадчыкі оргаддзеламі, неабходна практыкаваць больш шырокую пасылку на павышаныя курсы совецкага будаўніцтва. Нарэшце, у адносінах такіх кадраў, як старшыні РВК, інструктары краёвых, абласных выканкомаў і ЦВК, старшыні горсоветаў і т. п., неабходна будзе забяспечыць павышэнне іх падрыхтоўкі ў размерах Комвуза; або ў існуючых комвузах, стварыўшы там аддзяленні са спецыяльным ухілам, або шляхам стварэння новага комвуза. **У кожным разе мы павінны імкнуцца да падрыхтоўкі высокаякасных арганізатараў мас**“ *) (Падкрэслена мною.—*Л. Р.*)

Сказанае непасрэдна адносіцца і да БССР, калі ўлічыць значную цякучасць нашых совецкіх кадраў з прычыны слабасці іх падрыхтоўкі.

* * *

У сваіх гістарычна вядомых лекцыях „Асновы ленінізма“ тав. Сталін сказаў:

„Совецкая ўлада па самай сваёй структуры аблягчае справу кіравання прыгнечаных і эксплаатуемых мас з боку авангарда гэтых мас, з боку пролетарыята, як найбольш згуртаванага і найбольш свядомага ядра советаў“.

На працягу ўсяго існавання пролетарскай дзяржавы дзейсная, кіруючая сіла рабочага класа, узначаленая комуністычнай партыяй, перамагаючы цяжкасці і перашкоды, вяла ўсіх працоўных нашай краіны да ажыццяўлення гістарычных задач, вызначаных пролетарскай рэволюцыяй. Наша дзяржава на даным гістарычным этапе ўступае ў паласу завяршэння таго шляху, які быў вызначан указаннямі правадыроў рабочага класа Марксам—Энгельсам яшчэ ў мінулым стагоддзі, а цяпер воляй пролетарыята СССР і яго партыі ператварыўся ў рэальную справу соцыялізма.

*) А. С. Енукидзе. „XVII с‘езд ВКП(б) и задачи перестройки работы советов“. „Большевик“ № 7, 1934 г.

Працэс барацьбы пролетарыята за заваёву новага грамадства праходзіць ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы з рэшткамі ліквідуемых капіталістычных класаў.

Гэты працэс адбываецца не на аснове плаўнага развіцця, а ва ўмовах жорсткага выяўлення і зніштажэння ўсіх недахопаў, якія перашкаджаюць узмацненню нашай дзяржаўнай сістэмы.

Іменна таму наша сістэма ўлады з'яўляецца творчасцю шырокіх працоўных мас. Яе далейшае развіццё і ўзмацненне мысліма толькі пры самай бязлітаснай барацьбе з усім закасцянелым, гнілым, адсталым, з усім тым, што цягне назад да праклятага мінулага. Сама пабудова нашай совецкай сістэмы прадстаўніцтва стварае такія ўмовы, пры якіх самі масы сваімі ўласнымі рукамі вытраўляюць ўсё, што стаіць поперак шляху пролетарыята.

Пролетарыят Совецкага саюза, ажыццяўляючы кіраўніцтва советамі, займае ў іх сістэме пераважнае месца, як клас гегемон, як найбольш рэволюцыйна загартаваны і самы паслядоўны соцыялістычны клас. Гэта кіруючая роля пролетарыята ясна выражана ў праграме нашай партыі:

„Кіруючая ва ўсёй рэволюцыі роля гарадскога прамысловага пролетарыята, як найбольш сканцэнтраванай, аб'яднанай, асвечанай і загартаванай у барацьбе часткі працоўных мас, праявілася як у самым узнікненні советаў, так і ва ўсім ходзе развіцця іх у органы ўлады".

Дзейнасць усіх органаў совецкага прадстаўніцтва як у гарадах, так і на вёсцы павінна праводзіцца на аснове самага рашучага і паслядоўнага ажыццяўлення працоўнымі іх палітычных правоў совецкіх грамадзян. Такія інстытуты нашай прадстаўнічай сістэмы, як права адклікання дэпутатаў советаў, сувязь іх з вытворчымі калектывамі і падкантрольнасць апошнім, павінны быць шырока скарыстаны на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва. Любое ўхіленне ад генеральнай лініі партыі ў рабоце советаў на руку класаваму ворагу, які імкнецца скарыстаць усякі недахоп у рабоце советаў, каб захаваць сваё існаванне.

Трэба цвёрда памятаць гістарычнае ўказанне тав. Сталіна на студзеньскім пленуме ЦК ВКП(б) 1933 г. аб суадносінах формы і зместу калгасаў і советаў. Класавая барацьба яшчэ працягваецца. Пакуль існуюць класы, патрэбна максімальнае ўмацаванне ўсіх звенняў совецкай сістэмы, патрэбна неаслабная барацьба за ўздым якасці іх работы, за максімальную чоткасць у іх дзейнасці і класавую пролетарскую мэтаімкненнасць ва ўсім змесце іх работы.

„Калгас,—гаворыць т. Сталін,—ёсць соцыялістычная форма **гаспадарчай** арганізацыі, таксама, як советы з'яўляюцца соцыялістычнай формай **палітычнай** арганізацыі. Як калгасы, так і советы з'яўляюцца агромнейшым заваяваннем рэволюцыі, агромнейшым заваяваннем рабочага класа. Але калгасы і советы прадстаўляюць сабой толькі **форму** арганізацыі, праўда, соцыялістычную, але ўсё-ж **форму** арганізацыі. Усё залежыць ад таго, які **змест** будзе ўліт у гэтую форму".

Барацьба за змест работы асноўных органаў дыктатуры пролетарыята—рашаючы момант у перыяд ліквідацыі разгромленага, але недабітага яшчэ кулацтва. Гэта ёсць барацьба за яшчэ больш высокую

якасць работы советаў ва ўмовах выканання задач, пастаўленых перад працоўнымі другой пяцігодкай соцыялістычнага будаўніцтва.

Далейшы рост і ўмацаванне пролетарскай дзяржавы безумоўна будуць садзейнічаць яшчэ больш шырокаму развіццю совецкага соцыялістычнага дэмакратызма. Справаздачна-перавыбарчая кампанія советаў 1934 года з'явіцца гістарычным вынікам развіцця совецкай дэмакратыі ва ўмовах усё большага набліжэння да бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Гэта кампанія безумоўна адлюструе творчы ўздым арганізаваных у советы шырокіх працоўных мас, якія будуць дэманстраваць сваю адданасць справе соцыялізма і непахіснае імкненне ажыццявіць гістарычныя ўказанні партыі.

Вопыт магутнага развіцця пролетарскай дэмакратыі ў краіне будуючагася соцыялізма з'явіцца новаю вехай на шляху, па якім у недалёкім будучым пойдуць пролетарыі капіталістычных краін. Ніякія сілы гінучага капіталізма не змогуць звярнуць сусветны пролетарыят з гэтага рэволюцыйнага гістарычнага шляху. Пролетарыі капіталістычных краін пад кіраўніцтвам Комуністычнага інтэрнацыянала зробяць свой выбар—яны ажыццёвяць рэволюцыйны вопыт сваёй бацькаўшчыны, вопыт СССР.

„Няхай буржуазія кідаецца, злобствуе да памрачэння розуму, перасольвае, робіць глупствы, загадзя помсціць большэвікам і імкнецца перабіць... лішнія сотні тысяч, сотні тысяч заўтрашніх, або ўчарайшых большэвікоў: паступаючы так, буржуазія паступае, як паступалі ўсе асуджаныя гісторыяй класы. Комуністы павінны ведаць, што будучыня ва ўсякім разе належыць ім, і таму мы можам (і павінны) злучаць найвялікшую палкасць у вялікай рэволюцыйнай барацьбе з найбольш хладнакроўным і цвярозым улікам шалёных кіданняў буржуазіі" (Ленін).

---

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## Што можа зрабіць дэпутацкая група ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі советаў

Па БССР разгарнулася справаздачна-перавыбарчая кампанія советаў. У гарадах і вёсках, на заводах, фабрыках, у калгасах, соўгасах, дзяржаўных установах мільёны працоўных будуць ажыццяўляць адказнейшую справу — права совецкіх грамадзян удзельнічаць у выбарах советаў.

Лепшыя з лепшых, сапраўдныя ўдарнікі социялістычных заводаў і палёў у гэтыя дні павінны быць абраны ў склад советаў для выканання адказнейшых палітычных задач, пастаўленых перад дэпутатамі советаў працоўнымі нашай соцыялістычнай краіны.

Залогам ажыццяўлення сувязі органаў совецкага прадстаўніцтва з шырок мі масамі працоўных з'яўляецца прынцып абрання ў Совет па вытворчых адзінках. Ленін, характарызуючы советы, як дзяржаўны апарат новага тыпу, гаварыў, што гэты апарат „дае моцную сувязь з самымі рознымі прафесіямі, палягчаючы гэтым рознастайныя рэформы самага глыбокага характару без бюракратыі". (том, XXI, стар. 258).

Прадстаўніцтва ў совеце дае поўную магчымасць калектыву працоўных кантраляваць работу свайго дэпутата і патрабаваць ад яго адказнасці і сістэматычнай справаздачнасці перад абраўшымі яго працоўнымі. Выбаршчыкі ў советы не з'яўляюцца нейтральнымі, пасіўнымі назіральнікамі дзейнасці свайго дэпутата. Дэпутат совета—гэта грамадзянін соцыялістычнай краіны, які павінен прадстаўляць інтарэсы вытворчага калектыва, актыўна праводзіць ва ўсёй дзейнасці совета наказ даверыўшых яму адказнае права члена совета. Гэты наказ адлюстроўвае канцэнтраваную волю і класавы інтарэс рабочага класа і ўсіх працоўных, якія ў рознастайных актах кантроля і праверкі дзейнасці органаў свайго прадстаўніцтва, а таксама ўдзелам у масавых органах советаў—секцыях, дэпутацкіх групах і інш.—навучаюцца справе кіравання дзяржавай. Такім чынам вытворчыя калектывы цесна звязаны з органамі дзяржаўнай улады і ствараюць яе асноўныя ячэйкі.

Толькі ажыццяўляемы ў пролетарскай дзяржаве вытворчы прынцып выбараў стварае не знешнюю відочнасць арганізацыі „грамадскай думкі", а дае магчымасць усім працоўным праз сваіх прадстаўнікоў у советы безупынна кіраваць дзяржавай і самім непасрэдна ўдзельнічаць у гэтым кіраўніцтве, не адрываючыся ад сваёй вытворчасці.

Мандат дэпутата ў совецкай выбарчай сістэме—не бар'ер паміж выбаршчыкамі і абранымі ў совет. У мандаце члена совета, члена ЦВК выражана рэволюцыйная дзейнасць працоўных мас, прадстаў-

кіцтва інтарэсаў працоўных ад калгаса, соўгаса, МТС, раёна, рэспублікі.

Гэты мандат увесь час напамінае яго ўладару аб тых вялікіх класавых абавязках, што перадаюцца дэпутату ў час яго абрання.

Усё сказанае накладае асабліва адказныя абавязкі на масавыя органы гарадскіх і сельскіх советаў, якія непасрэдна працуюць на нашых заводах, фабрыках, у соўгасах, калгасах,—на дэпутацкія групы.

Роля дэпутацкай групы, якая яднае ў сваёй штодзённай рабоце ўвесь совецкі актыў завода, соўгаса, калгаса, вельмі ўзрастае ў час падрыхтоўкі і правядзення перавыбараў советаў.

Іменна зараз неабходна завастрыць увагу на некаторых пытаннях, вакол якіх дзейнасць дэпутацкай групы адыгрывае агромнае значэнне.

Возьмем некалькі прыкладаў. Як у нас часам праходзіць справаздачна-перавыбарчая кампанія гарадскіх і сельскіх советаў? Як вядзецца падрыхтоўка да гэтай кампаніі? Ці своечасова ажыццяўляецца кантроль за выкананнем наказу? Ці ставіцца пытанне аб адкліканні такіх дэпутатаў совета, якія з'яўляюцца дэпутатамі толькі на паперы, нічога карыснага не робячы як дэпутаты?

Дэпутацкія групы ўсіх прадпрыемстваў БССР павінны абавязкова ўлічыць вопыт перавыбараў советаў 1931 года, скарыстаць усе дадатныя формы арганізацыйна-масавай работы, дапамогшыя мабілізаваць шырокія масы выбаршчыкаў, і разам з тым своечасова папярэдзіць аб недахопах і адмоўных фактах, якія перашкаджалі большэвіцкаму правядзенню перавыбараў.

У час перавыбараў 1931 г. па Менску за шэсць дзён правядзення кампаніі сарваліся 28 сходаў. У чым прычына? Амаль у поўнай адсутнасці арганізацыйна-масавай работы на заводах і фабрыках Менска, у неразуменні таго, што можа і павінна зрабіць дэпутацкая група ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

Вось малюнак аднаго схода (з артыкула „Звязды“ № 7 за 1931 г.):

> „Сход рабочых будаўнікоў па справаздачы Менскага гарадскога совета пачаўся позна. З 270 чалавек сабралася ўсяго 160. Але-ж сход адкрыўся. Слова атрымаў член прэзідыума горсовета тав. Кавалеў. Дакладчыку далі адну гадзіну. За гэты час дакладчык шмат гаварыў „наогул“, толькі не аб практычнай рабоце совета. Па аднаму, а потым групамі пачынаюць пакідаць сход... Паўтары гадзіны гаварыў дакладчык аб тым, што мы маем дасягненні велізарных размераў, а што зроблена—нічога не сказаў... У спрэчках выказваліся мала“...

У чым прычына? Не было ніякай падрыхтоўчай работы, не працавала дэпутацкая група.

Прыклад лепшых ударных заводаў паказвае, чаго можна дабіцца добра пастаўленай работай дэпутацкіх груп. На такіх заводах у дні справаздачна-перавыбарчай кампаніі дэпутацкія групы мабілізавалі ўвесь совецкі актыў, своечасова паведамлялі рабочых і іх утрыманцаў аб месцы і часе справаздачнага сходу і растлумачвалі рабочым значэнне перавыбарчай кампаніі, сутнасць нашай канстытуцыі, своечасова выпускалі насценгазеты, прысвечаныя рабоце дэпутатаў, шырока прапрацоўвалі дадаткі да наказу, збіралі па гэтаму пытанню рабочыя прапановы.

Ад боездольнасці, ініцыятыўнасці і большэвіцкай мэтаімкненнасці дэпутацкай групы залежыць баявое правядзенне і такіх мерапрыемстваў, як абвяшчэнне кандыдатур, якія рэкамендуюцца грамадскімі

арганізацыямі ў новы склад совета, як абвестка аб справаздачным сходзе, якую актывіст дэпутацкай групы, комсамолец, або піонер своечасова даставіць рабочаму ці калгасніку на дом.

Своечасовая і грунтоўная падрыхтоўка да перавыбараў павінна садзейнічаць таму, каб усе працоўныя і іх утрыманцы добра зразумелі палітычны сэнс кампаніі, што яшчэ больш павысіць у іх вачах ролю і аўтарытэт совета.

Дэпутацкія групы павінны дабіцца, каб справаздачны даклад падрыхтоўваўся не „наогул", а з улікам усіх пытанняў работы совета, што цікавяць рабочых і калгаснікаў.

Дэпутацкая група завода павінна загадзя правесці з рабочымі гутаркі аб рабоце горсовета, ставячы канкрэтныя пытанні: аб рабоце заводскага ЗРК, аб непаладках з кватэрамі, аб уцягненні новых таварышоў у работу прамысловай секцыі, аб азеляненні вуліц, аб рамонце тратуараў і т. д.

На вёсцы—у соўгасах, калгасах—неабходна дэталёва абгаварыць усе пытанні дзейнасці сельсовета, высніць як совет кіраваў сельскай гаспадаркай, як ён штодзенна змагаўся за палепшанне добрабыту калгаснага і працоўнага сялянства, як садзейнічаў выкананню абавязкаў перад соцыялістычнай дзяржавай.

Дэпутацкія групы павінны ведаць, якія пытанні больш за ўсё цікавяць рабочых і калгаснікаў; актыў групы павінен прыйсці з канкрэтнымі вынікамі аб выкананні наказу і дадаткаў да яго, загадзя падрыхтаваць кароткія справаздачы дэпутатаў совета.

Прадуманыя, падрыхтаваныя выступленні членаў дэпутацкай групы на сходзе маюць вялікае значэнне, а добрае асвятленне дакладчыкамі канкрэтных дасягненняў і недахопаў у рабоце совета садзейнічае актыўнаму, дзелавому правядзенню кампаніі пры масавым удзеле працоўных.

З-пад увагі дэпутацкай групы ні ў якім разе не павінна выпасці такое пытанне, як выяўленне класава варожых, чуждых элементаў, якія ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі будуць імкнуцца пралезці ў совет.

Неабходна таксама загадзя праверыць работу дэпутатаў ад завода, соўгаса, калгаса. На аснове рашучай самакрытыкі прадстаўнікі дэпутацкай групы павінны паказаць на сходзе ўсё адмоўнае ў дзейнасці дэпутатаў, адначасова спыніўшыся на іх дасягненнях. Гэта пакажа ўсю палітычную важнасць абавязкаў дэпутата совета і дапаможа абраць у новы склад лепшых ударнікаў. На канкрэтных прыкладах дэпутацкія групы павінны паказаць, што быць дэпутатам совета можа той працоўны, які добра, па-ўдарнаму аўладаў тэхнікай сваёй справы і веды свае передае ўсяму калектыву завода, калгаса.

Трэба канстатаваць, што выпадкі пасіўнага прабывання членам совета не сталі яшчэ аб'ектам сістэматычнай барацьбы.

Яшчэ ў 1918 годзе ў „Дзесяці тэзісах аб совецкай уладзе" Ленін пісаў:

> „Далейшае развіццё совецкай арганізацыі дзяржавы павінна заключацца ў тым, каб кожны член совета **абавязкова нёс пастаянную работу па кіраванню дзяржавай**, побач з удзелам у сходах совета" (падкрэслена намі.—*Л. Р.*).

Ленін вызначаў

> „Больш поўны дэмакратызм (совецкай сістэмы.—*Л. Р.*) у сілу меншай фармальнасці і большай лёгкасці выбару і адклікання".

Выкананне адказнейшай функцыі дэпутата патрабуе актыўнай работы як у совеце, так і на сваім прадпрыемстве. Вельмі часта сустракаюцца выпадкі загрузкі дэпутата іншай работай, якая фактычна зводзіць на нішто яго асноўны абавязак. Дэпутацкая група, сістэматычна кантралюючы работу дэпутата, павінна дабіцца для яе адпаведных умоў. Своечасовая і сістэматычная праверка работы дэпутатаў, як асноўнай часткі совецкага актыва, дасць магчымасць папярэдзіць адрыў іх ад выбаршчыкаў і дрэннае выкананне імі сваіх абавязкаў.

Абавязак дэпутацкай групы—дапамагаць у рабоце нізавых грамадскіх арганізацый: ашчадкас, камісій садзейнасці дзяржаўнаму крэдыту, тарыска-вытворчых ці калгасных судоў і інш. Пры сталай, сістэматычнай сувязі, наладжанай дэпутацкаю групай паміж гэтымі арганізацыямі і адпаведнымі секцыямі совета (фінансавай, рэволюцыйнай законнасці і інш.) можна дабіцца яшчэ большага ўцягнення працоўных у совецкае будаўніцтва.

Дэпутацкая група павінна скарыстаць справаздачна-перавыбарчую кампанію для большай папулярызацыі работы секцый советаў, для ўстанаўлення цеснай сувязі паміж імі і грамадскімі арганізацыямі, памятаючы, што секцыі советаў—гэта масавыя органы, праз якія могуць вырашацца самыя рознастайныя пытанні соцыялістычнага будаўніцтва.

У час перавыбараў члены дэпутацкіх груп і секцыянеры горсовета павінны дапамагчы падшэфным калгасам і сельсоветам у разгортванні справаздачна-перавыбарчай кампаніі на вёсцы. Масавыя органы горсовета—секцыі і дэпутацкія групы—павінны вылучыць лепшых актывістаў, якія-б дапамаглі сельсоветам па-большэвіцку правесці справаздачна-перавыбарчую кампанію.

Так, пачынаючы з вопыту работы ў сваёй нізавой совецкай ячэйцы, з вырашэння пытанняў жыцця свайго калектыва, сістэматычна выконваючы паасобныя заданні прэзідыума горсовета і яго секцый, члены дэпутацкіх груп складаюць значную частку таго пролетарскага ядра, з якога выкоўваюцца таленавітыя кіраўнікі нашага дзяржаўнага апарата.

# Каго пазбаўляе совецкая ўлада выбарчых правоў

Інструкцыя аб выбарах у советы БССР, грунтуючыся на заканадаўстве Саюза ССР, цалкам выходзіць з прынцыпаў нашай совецкай канстытуцыі, чотка і акрэслена ўказвае тыя асноўныя катэгорыя асоб, якія пазбаўляюцца выбарчых правоў.

У буржуазных краінах завуалявана, пры дапамозе розных цэнзаў (маемасных, аседласці, узросных, палавых і інш.) адстараняюцца ад удзелу ў выбарах мільёны працоўных. Наша выбарчае права, якое грунтуецца на найшырэйшым уцягванні працоўных у советы, адкрыта і ясна пералічвае катэгорыі асоб, пазбаўляемых выбарчых правоў.

**Да першай з гэтых катэгорый адносяцца асобы, якія карысталіся, або карыстаюцца наёмнаю працай з мэтай атрымання прыбыткаў.**

Пераможнае наступленне соцыялізма, разгром кулацтва канчаткова вырашылі пытанне «хто каго» на карысць новага ладу, новых соцыялістычных грамадскіх адносін, якія мы ствараем пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі на чале з т. Сталіным. Аднак, было-б няправільным лічыць, што капіталістычныя элементы ўжо поўнасцю зніклі і таму няма каго з паказанай катэгорыі пазбаўляць выбарчых правоў. Класавая барацьба яшчэ прадаўжаецца, і рэшткі экспла-

ататараў павінны быць улічаны і адстаронены ад удзелу ў совецкіх выбарах.

Выбарчая інструкцыя БССР указвае, што пазбаўляюцца выбарчых правоў земляробы, саматужнікі і рамеснікі, якія карыстаюцца наёмнаю працай, сезоннай ці пастаяннай, у такім размеры, які пашырае іх гаспадарку за межы працоўнай.

Такім чынам, зусім зразумела, што тыя асобы, гаспадарка якіх носіць эксплаататарскі характар, дзе наёмная сіла не была падсобнай, а прыцягвалася з мэтай атрымання прыбыткаў, пазбаўляюцца выбарчых правоў.

Выбарчы закон папярэджвае ўсякую магчымасць пашырэння гэтага абмежавання на працоўных, якія ў асобных выпадках прымушаны карыстацца наёмнаю працай.

Да гэтых асобных акалічнасцей выбарчая інструкцыя адносіць выпадкі ўжывання ў гаспадарцы наёмнай сілы аднаго рабочага для ўборкі зернавых культур, траў і т. д., з прычыны хваробы працаздольных членаў гаспадаркі, прызыву іх ў рады Чырвонай арміі, або абрання на грамадскую пасаду. Выбралі, напрыклад, грамадзяніна старшынёю сельпо, і гэта адрывае яго ад непасрэднай работы на сваёй гаспадарцы. Зразумела, што такога грамадзяніна ў падобным выпадку, калі на яго гаспадарцы ў жніво часова ўжываецца наёмная сіла аднаго рабочага, нельга аднесці да катэгорыі пазбаўляемых выбарчых правоў.

Вельмі важна таксама, каб пад шыльдай «працоўнага» саматужніка, або рамесніка ў советы не пралезлі эксплаататары, якія карыстаюцца пастаяннай наёмнай працай. Нашы выбарчыя камісіі павінны праявіць тут асаблівую пільнасць, бо пад выглядам «вучняў» розныя гаспадарчыкі фактычна вельмі часта маскуюць і прыкрываюць дарослых рабочых, якія на іх працуюць. Але разам з тым неабходна ўлічыць, што закон дазваляе кожнаму сапраўднаму працоўнаму саматужніку ці рамесніку мець не больш двух вучняў, або карыстацца ў сілу ўмоў вытворчасці наёмнаю працай аднаго дарослага рабочага. Да такіх умоў вытворчасці можна, напрыклад, аднесці працу каваля, які карыстаецца працай падручнага або малатабойца.

**Да другой катэгорыі пазбаўляемых выбарчых правоў адносяцца асобы, якія жылі або жывуць на непрацоўныя даходы, а таксама асобы, якія займаліся або займаюцца гандлем.**

Партыя і совецкая ўлада на даным этапе ўсямерна садзейнічаюць разгортванню тавараразвароту паміж горадам і вёскай, максімальна ўзмацняючы совецкі і калгасны гандаль. Наш гандаль, па ўказанню правадыра рабочага класа т. Сталіна, павінен стаць гандлем без спекулянтаў малых і вялікіх. Вось чаму неабходна вельмі ўважліва ў час выбарчай кампаніі ў першую чаргу выявіць гандляроў розных колераў і масцей, якія, безумоўна, будуць імкнуцца скарыстаць выбары ў советы.

Совецкая ўлада на ўсіх этапах свайго існавання пазбаўляла гэту групу выбарчых правоў. Зараз, калі мы вядзем барацьбу за завяршэнне пабудовы соцыялізма, адстараненне гэтай групы ад удзелу ў выбарах советаў набывае асаблівае палітычнае значэнне. Таму закон падрабязна пералічвае аднесеных у гэтую групу.

Паводле інструкцыі БССР розныя гандляры, спекулянты, барышнікі, гандлёвыя пасярэднікі, перакупшчыкі і ліхвяры пазбаўляюцца выбарчых правоў.

Неабходна папярэдзіць выбарчыя камісіі, што яны вельмі часта будуць мець справу са спробамі класавых ворагаў захаваць свой твар. Гандляр і спекулянт зараз амаль не выступаюць адкрыта. Таму ў адносінах гэтай катэгорыі павінна быць праяўлена асаблівая большэвіцкая настойлівасць і класавая пільнасць.

Адначасова неабходна ўлічыць недахопы мінулых выбарчых кампаній, калі ў гэту групу ў радзе месц без усякіх падстаў уключалі совецкіх грамадзян з працоўных.

«Былі выпадкі,—пісаў т. Кісялёў,—калі лічылі гандлярамі і пазбаўлялі выбарчых правоў селяніна, абмяняўшага хлеб на чыста гатунковае насенне, пазбаўлялі выбарчых правоў рабочага, прадаўшага вопратку памершай жонкі».

Выбарчая інструкцыя БССР спецыяльна ўказвае, што не пазбаўляюцца выбарчых правоў калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі, якія збываюць прадукты сваёй працы на рынак. Сюды-ж трэба аднесці і працоўных саматужнікаў, калі яны прадаюць на рынак вырабы выключна сваёй вытворчасці. Нельга таксама пазбаўляць выбарчых правоў інвалідаў працы і вайны, якія ў сілу асобых прычын займаліся, або займаюцца дробным гандлем з рук і латкоў.

Да ўказанай другой катэгорыі пазбаўляемых выбарчых правоў адносяцца асобы, якія арандуюць з мэтай гандлёвай і прамысловай эксплаатацыі сады, гароды ці зямлю на ўмовах, прызнаных кабальнымі для здатчыкаў. У гэтую-ж групу ўключаюцца асобы, якія сістэматычна здаюць у наём будынкі, абсталяваныя пад прадпрыемствы і жыллё, пашыраючы такім чынам сваю гаспадарку за межы працоўнай; сюды-ж адносяцца розныя ўласнікі і арандатары прадпрыемстваў прамысловага тыпу, якія эксплаатуюць працоўных шляхам здачы розных работ на дом, або шляхам здачы данага прадпрыемства ў арэнду ці субарэнду.

Класавая барацьба за апошні час дае прыклады новых манеўраў гінучага ворага, які ўсялякімі спосабамі імкнецца захаваць свае апошнія пазіцыі. Часам пад выглядам калгасніка і нават старшыні калгаса хаваюцца спекулянты, або прадпрыемцы, якія імкнуцца скарыстаць сваё становішча для асабістых патрэб. Так, у Гомельскім раёне былі выпадкі, калі калгаснікі не працавалі ў сваім калгасе, а сістэматычна займаліся арэндай зямлі ў аднаасобнікаў.

Пры дапамозе асноўнай масы калгаснага сялянства і працоўных аднаасобнікаў неабходна ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі выявіць усіх класавых ворагаў, якія шкодзяць калгаснаму руху і соцыялістычнаму будаўніцтву.

**Трэцяя катэгорыя—асобы, якія к моманту выбараў па свайму класаваму становішчу або па сваёй мінулай дзейнасці адносяцца да катэгорыі пазбаўленых выбарчага права.**

Да гэтай катэгорыі ў першую чаргу неабходна аднесці свядомых палітычных ворагаў рабочага класа, якія сваёй дзейнасцю да рэволюцыі або пасля ўстанаўлення совецкай улады шкодзілі інтарэсам пролетарыята, працоўных мас.

Згодна канстытуцыі БССР, у гэту групу ўключаюцца ўсе служачыя і агенты былой паліцыі, асобага корпуса жандараў і ахранных аддзяленняў, члены былога цараваўшага ў Расіі дома, а таксама асобы, якія кіравалі дзейнасцю паліцыі, жандармерыі і карных органаў; сюды трэба аднесці афіцэраў і чыноўнікаў белых армій, а таксама кіраўнікоў контррэволюцыйных банд.

Да катэгорыі так званых «быўшых людзей» адносяцца ўсе прадстаўнікі эксплаатэтарскіх класаў—памешчыкі, буржуазія; да іх-жа выбарчы закон адносіць былых і цяперашніх служак усіх рэлігійных культаў.

Пералічаныя катэгорыі адпаведна з прынцыпамі, на якіх грунтуецца наша совецкая канстытуцыя, пазбаўляюцца права выбіраць і быць абранымі ў советы. Але не толькі прадстаўнікі былых эксплаататарскіх класаў з ліку буржуазіі, памешчыкаў і іх прыспешнікаў пазбаўляюцца выбарчых правоў. Да гэтай-жа катэгорыі совецкі выбарчы закон адносіць прадстаўнікоў і апошняга капіталістычнага класа—кулацтва. Яно разгромлена як клас пераможным наступленнем соцыялізма, але носьбіты яго ідэалаў жывуць і імкнуцца шкодзіць нашаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Таму, акрамя пазбаўлення выбарчых правоў рэштак прадстаўнікоў кулацтва, якія імкнуцца рознымі манеўрамі захаваць сваю эксплаататарскую гаспадарку, совецкі закон не дапускае да выбараў ў советы кулакоў, выселеных за межы вёсак і пасёлкаў, дзе яны раней пражывалі, за процісовецкія і процікалгасныя выступленні.

Усе вышэй адзначаныя катэгорыі асоб пазбаўляюцца выбарчых правоў з прычыны сваёй належнасці да класа эксплаататараў і іх агентаў. Адначасова наша заканадаўства адкрыта і недвузначна ставіць пытанне аб пазбаўленні выбарчых правоў тых асобных катэгорый, якія, будучы нават працоўнымі па свайму соцыяльнаму становішчу, скарыстоўваюць правы совецкага грамадзяніна для сваіх асабістых злачынных мэт і сваімі дзеяннямі шкодзяць інтарэсам рабочага класа і соцыялістычнай радзімы.

Так, у артыкуле 19 канстытуцыі БССР гаворыцца:

> «Кіруючыся інтарэсамі працоўных, БССР пазбаўляе паасобных грамадзян і паасобныя групы грамадзян правоў, якімі яны карыстаюцца на шкоду інтарэсам соцыялістычнай рэволюцыі».

Вось чаму, калі чалавек, нават вышаўшы з асяроддзя працоўных, у імя сваіх шкурных патрэб ідзе на злачынства і гэтым самым выступае супроць інтарэсаў пролетарыята ў цэлым,—органы совецкай улады могуць пазбавіць яго выбарчых правоў на пэўны тэрмін па судоваму прыгавору.

* * *

Характарызуючы асноўныя катэгорыі асоб, пазбаўляемых згодна нашаму заканадаўству выбарчых правоў, мы павінны падкрэсліць, што ні ў адной краіне ў свеце процант пазбаўляемых выбарчых правоў не з'яўляецца настолькі нязначным, як у СССР.

У 1929 годзе процант пазбаўленых выбарчых правоў выражаўся наступнымі лічбамі: у сельскіх мясцовасцях—4,1, у гарадах—8,6. У БССР—першая катэгорыя выражана ў 2,4 проц., другая—у 9,7. Пры перавыбарах советаў 1930—31 года процант пазбаўлення выбарчых правоў зніжаецца. Так, у сельскіх мясцовасцях гэты процант раўняецца 2,2, а па гарадах—7,3.

У той-жа час у Амерыцы, дзе насельніцтва каля 120 мільёнаў, у выбарах прымае ўдзел 16—18 мільёнаў. У фашысцкай Італіі з 40 мільёнаў насельніцтва ў час апошніх выбараў было дана права голасу 12 мільёнам асоб, з якіх фактычна прымала ўдзел у выбарах усяго 8 мільёнаў чалавек. У Германіі 4 мільёны рабочых не прымалі ўдзелу ў апошніх выбарах рэйхстага.

Бязлітасна пазбаўляючы класава-варожыя элементы выбарчых праву, совецкая ўлада разам з тым прадастаўляе ўсе магчымасці асобам, вышаўшым з асяроддзя чуждых нам класаў, уключыцца ў чэсную аддаиую работу на карысць соцыялістычнага будаўніцтва. Калі на працягу пэўнай колькасці год, займаючыся грамадска-карыснай работай, гэтыя людзі дакажуць гатоўнасць выконваць усе патрабаванні пролетарскай дзяржавы і рашуча парвуць са сваім ганебным мінулым, органы совецкай улады могуць паставіць пытанне аб аднаўленні гэтых асоб у выбарчых правах.

Так, паводле пастановы ЦВК СССР ад 27 верасня гэтага года, кулакі, выявіўшыя сябе ў месцах ссылкі безумоўна чэснай работай і падтрыманнем совецкай улады, аднаўляюцца ў выбарчых правах праз 5 год з дня высылкі, а працаваўшыя на працягу трох год у залатой і плацінавай прамысловасці—праз тры гады.

У дачыненні асоб гэтай катэгорыі, асабліва моладзі, якія з'яўляюцца ўдарнікамі на вытворчасці і прымаюць удзел у грамадскай рабоце, дапускаецца магчымасць аднаўлення іх у выбарчых правах урадам БССР па прадстаўленню НК Унутраных Спраў і да сканчэння указаных тэрмінаў.

Совецкае законадаўства патрабуе ўважлівага падыходу да складання спісаў пазбаўляемых выбарчых правоў. Ні адзін класавы вораг не павінен выпасці з-пад увагі выбарчай камісіі ў час яе работы, але разам з тым уключэнне ў спіс пазбаўляемых выбарчых правоў павінна быць праведзена на аснове дакладна правераных дакументальных даных. ,

У час перавыбарчай кампаніі могуць наглядацца спробы класавых ворагаў дыскрэдытаваць чэсных, добрасумленных грамадзян з мэтаю самім пралезці ў советы і не дазволіць правесці абранне лепшых ударнікаў калгасаў, соўгасаў, МТС і заводаў. Такія выпадкі прадугледжаны выбарчай інструкцыяй БССР і супроць іх накірован артыкул 40, дзе сказана:

> «Асобы, якія перашкаджаюць выбаршчыкам ажыццяўляць іх выбарчыя правы, прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці».

Апіраючыся на шырокія масы працоўных нашай краіны, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, выбарчыя камісіі і ўсе органы советаў павінны скарыстаць перавыбарчую кампанію 1934 года для яшчэ большага ўмацавання пролетарскай дыктатуры і разгортвання пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва.

Л. Рудзіцкі

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

### Энгельс Ф. Аб „Капітале“ Маркса

Зборнік. Пераклад з рускага выдання ІМЭЛ Менск Партвыдавецтва 1934 г. С. 39. Ц. 1 р. 40к.

Гэты зборнік ахапляе частку з таго, што створана Энгельсам у сувязі з распрацоўкай праблем „Капітала“ Маркса.

**Першую частку** зборніка складаюць тры рэцэнзіі на першы том „Капітала“, якія былі накіраваны Энгельсам на тое, каб разбурыць змову маўчання, пры дапамозе якой буржуазія разлічвала перашкодзіць пашырэнню і пранікненню гэтага выдатнага твору Маркса ў шырокія масы. Рэцэнзіі майстэрскі перадаюць асноўныя палажэнні „Капітала“.

Першая рэцэнзія прадстаўляе сабой бліскучы ўзор папулярызацыі раду важнейшых момантаў эканамічнай тэорыі Маркса. Другая рэцэнзія—майстэрскі зроблены рэферат, які ў выключна сціслай, кандэнсаванай форме дае яснае і выразнае ўяўленне аб асновах эканамічнага вучэння Маркса людзям, зусім незнаёмым з колам ідэй марксізма.

Трэцяя, найбольш грунтоўная рэцэнзія, з'яўляецца найлепшай падрыхтоўчай ступенню для чытача, які толькі прыступае да вывучэння „Капітала“ ў арыгінале. Гэта рэцэнзія—каштоўны каментарый і дапаможнік для вывучаючых „Капітал“.

**Другую частку** зборніка займае канспект I тома „Капітала“. Энгельс у кароткіх і выразных сказах рэзюмуе і падае важнейшыя тэарэтычныя праблемы. Асаблівая каштоўнасць гэтай работы Энгельса заключаецца ў тым, што яна дае выразную і ясную характарыстыку прыроды простай таварнай вытворчасці, працэса пераходу яе к капіталізму і шчыльна падводзіць да ленінскай тэорыі імперыялізма.

Гэты канспект вельмі дапаможа чытачу ў працэсе вывучэння „Капітала“, бо ён служыць бліскучым узорам правільнага падыходу да яго вывучэння.

**Трэцюю частку** зборніка складае бліскучая эканамічная работа Энгельса аб законе вартасці і нормы прыбытку пад загалоўкам: „Дапаўненне да 3-га тома „Капітала“. Большая частка артыкула прысвечана выкрыццю поглядаў рэвізіяністаў Камрада Шмідта і Вернера Зомбарта.

### Ленін В. І. Крок уперад, два крокі назад

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г.

Гэтая работа Леніна дае глыбокі прынцыповы аналіз тактычных і арганізацыйных рознагалоссяў, наспеўшых у партыі, пачынаючы з II з'езда. Ленін ускрывае гістарычную і ідэйную сувязь меншавіцкіх поглядаў з раннім апартунізмам эканамістаў і легальных марксістаў.

На прыкладах тагочаснай барацьбы з меншавікамі Ленін устанаўляе ідэйнае і арганізацыйнае афармленне меншавізма ў згодніцкае дробна-буржуазнае крыло ў рабочым руху. Кніга адыграла выключна важную ролю яшчэ і таму, што ў ёй Ільіч ясна паказаў, у чым сутнасць і значэнне пролетарскай партыі наогул і ў Расіі ў прыватнасці.

Работа Леніна „Крок уперад, два крокі назад" мае не толькі гістарычнае значэнне. Партыя і зараз чэрпае ў гэтай геніяльнай рабоце Леніна сілу і веру ў барацьбе за маналітнасць сваіх радоў, супроць апартуністаў усіх колераў.

**Диалектический материализм, Маркс — Энгельс — Ленін — Сталін.**

Партиздат. Москва, 1934 г. С. 563. Ц. 4 р. 50 к.

Гэты зборнік, у якім прыведзены і па пэўнаму плану сістэматызаваны вытрымкі з работ Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна, дае магчымасць шырокім колам чытачоў азнаёміцца з класічнымі творамі дыялектычнага матэрыялізма.

Акрамя вытрымак з работ класікаў марксізма-ленінізма, у кнізе змешчаны поўнасцю тэзісы Маркса аб Л. Феербаху, асобныя главы з „Анты-Дзюрынга", „Дыялектыкі прыроды" Энгельса, ленінскі фрагмент „Да пытання аб дыялектыцы", ленінскі артыкул „Карл Маркс" і „План логікі Гегеля", а таксама ліст т. Сталіна ў рэдакцыю час. „Пролетарская революция" і рад іншых твораў.

Змешчаны ў якасці дадатку артыкул В. Адарацкага дае цэласнае ўяўленне аб філасофскіх творах В. І. Леніна.

Работы класікаў марксісма па праблемах тэарэтычнага прыродазнаўства вылучаны ў асобую главу, дзе даны адказы на ўсе асноўныя пытанні аб адносінах марксізма-ленінізма да прыродазнаўства.

Глава „Ленінскі этап" змяшчае важнейшыя вытрымкі з твораў Леніна і Сталіна, характарызуючыя тое новае, што ўнесена ў скарбніцу дыялектычнага матэрыялізма Леніным і Сталіным.

**ЯРОСЛАВСКИЙ, Е. М. Библия для верующих и неверуюших.**

7-ое издание, Москва Гос. антирелигиозное издательство, 1934 г. С. 420. Ц. 2 р. 25 к.

У антырэлігійнай прапагандзе гэта кніга адыграла вялікую ролю. У ёй у папулярнай форме разглядаецца біблейская міфалогія, яе недарэчнасць і выкрываецца класава-эксплаататарская роля ідэалогіі іудэізма і рэлігіі наогул.

Раздзел за раздзелам зрывае з біблії пакровы святасці, якімі яе ахуталі на працягу многіх вякоў пануючыя класы, іх царква, іх афіцыяльная навука. Напісаная простай, агульна-зразумелаю мовай, „Библия для верующих и неверующих" з'яўляецца каштоўным дапаможнікам у антырэлігійнай прапагандзе, пасабляе многім веруючым парваць з рэлігіяй, вызваліцца ад рэлігійнага дурману, каб стаць у рады свядомых будаўнікоў соцыялістычнага грамадства.

У аснову данага выдання „Библии" пакладзена выданне 1925 года. У тэкст унесены неабходныя папраўкі і дадаткі. У канцы змешчаны некаторыя артыкулы, што друкаваліся ў газеце „Безбожнік" у адказ на водгукі чытачоў на „Библию", або па зместу блізкія да гэтай тэмы, каментарыі незразумелых слоў і паняццяў.

## У дапамогу прапагандысту

Вып. 1-ы. Зборнік кансультацый па пытаннях XVII з'езда ВКП(б). Менск, Партвыдат. 1934 г. С. 136. Ц. 1 р. 75 к., пер. 25 к.

У зборніку змешчаны пастановы ЦК ВКП(б) „Аб прапрацоўцы рашэнняў XVII з'езда партыі" і ЦК КП(б)Б „Аб ходзе вывучэння рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і становішчы работы сеткі партасветы"; перадавы артыкул „Правды" ад 23|IV-34 г.—„Не падмяняць бальшэвіцкую прапаганду шуміхай і зброжкай", які тлумачыць пастанову ЦК ВКП(б). Далей ідзе рад папулярных артыкулаў кансультацыйнага характару з„Правды" „Комсомольской правды", „Большевика" і „Бальшэвіка Беларусі", якія даюць адказ на пытанні, узнікаючыя пры прапрацоўцы матар'ялаў XVII з'езда.

Кансультацыйны матар'ял разбіт на раздзелы: „Пытанні крызіса сусветнага капіталізма і рэвалюцыйнай барацьбы міжнароднага пролетарыята", „Пытанні пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства ў СССР", „Пытанні ідэйна-палітычнага і арганізацыйнага кіраўніцтва партыі".

**Брыгада Дзяржаўнай бібліятэкі і Бібліяграфічнага інстытута БССР імя Леніна.**

# ПАСТАНОВЫ ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б

## Пастанова ЦК ВКП(б) ад 13 кастрычніка 1934 г.

### Аб парушэннях парадку выдачы партбілетаў і ўліковых картак у ташкенцкай партарганізацыі комуністычнай партыі большэвікоў Узбекістана.

ЦК ВКП(б) устанаўляе, што ў ташкенцкай партарганізацыі комуністычнай партыі большэвікоў Узбекістана маюць месца абураючыя факты парушэння рашэнняў ЦК па ўліку і выдачы партбілетаў і ўліковых картак.

Пярвічныя партарганізацыі лёгкадумна выносяць хадайніцтва аб выдачы дублікатаў партбілетаў, а райкомы шырока выдаюць гэтыя дублікаты без усякай праверкі. Хаванне партдакументаў, іх улік і афармленне пастаўлена нездавальняюча. У кнігах уліку вырваны лісты, адсутнічаюць распіскі, партбілеты выдаюцца адной і той самай асобе па пяць раз і падпісваюцца тэхнічнымі, беспартыйнымі работнікамі, а ў некаторых выпадках чуждымі элементамі.

Вышэй адзначаныя парушэнні прыводзяць да прапажы партбілетаў і скарыстання іх жулікамі і прахадзімцамі.

**ЦК ВКП(б) пастанаўляе:**

а) паставіць на від Ташкенцкаму гаркому і яго сакратару т. Балтабаеву адсутнасць кантроля за арганізацыяй выдачы партбілетаў і ўліковых картак;

б) прыняць да ведама заяву т. Ікрамава, што ЦК КП(б) Узбекістана ўжо прыняў рад мер па папярэджванню выяўленых ЦК КП(б) Узбекістана безабразій. Прапанаваць Ташкенцкаму гаркому і ЦК КП(б) Узбекістана давесці да канца выпраўленне гэтых безабразій;

в) даручыць упаўнаважанаму КПК па Узбекістану т. Беккеру прыцягнуць да партыйнай адказнасці работнікаў райкомаў сталінскай і окцябрскай партарганізацый, вінаватых у парушэнні інструкцыі ЦК;

г) прапанаваць усім абкомам, крайкомам і ЦК нацкомпартый арганізаваць праверку парадку выдачы партбілетаў і ўліковых картак у іх партарганізацыях і праз месяц паведаміць ЦК аб рэзультатах праверкі.

# Аб падрыхтоўцы да ўсебеларускага з'езда рабселькораў па Пухавіцкаму, Лепельскаму і Петрыкаўскаму раёнах

## Пастанова бюро ЦК КП(б)Б

Адзначыць, што пастанова Бюро ЦК КП(б)Б па пытанню падрыхтоўчай работы да III усебеларускага з'езда рабселькораў па Пухавіцкаму, Лепельскаму і Петрыкаўскаму раёнах выконваецца нездавальняюча.

Райкомы КП(б)Б і рэдактары газет пералічаных раёнаў недаацанілі палітычнага значэння падрыхтоўкі да з'езда рабселькораў і не забяспечылі выканання ўказанняў ЦК КП(б)Б аб тым, што справа падрыхтоўкі да рабселькораўскага з'езда павінна быць справай усёй партарганізацыі.

Рэдактар пухавіцкай райгазеты тав. Панкратаў не арганізаваў сістэматычнага і дзелавога асвятлення на старонках газеты ходу падрыхтоўкі работы да з'езда і не арганізаваў разам з райкомам КП(б)Б масавага агляду нізавога друку. Аналагічнае становішча мае месца ў Лепельскім і Петрыкаўскім раёнах.

Выходзячы з гэтага, **ЦК КП(б)Б пастанаўляе:**

1. За бяздзейнасць у справе падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў рэдактару пухавіцкай райгазеты т. Панкратаву абвясціць вымову, а сакратару РК КП(б)Б указаць.

2. Паказаць сакратарам Лепельскага і Петрыкаўскага райкомаў КП(б)Б і рэдактарам газет тт. Баброўскаму і Дамброўскаму на неабходнасць прыняцця з іх боку неадкладных і дзельных практычных мерапрыемстваў па рэалізацыі пастановы Бюро ЦК КП(б)Б аб падрыхтоўцы да з'езда рабселькораў.

3. Прапанаваць Пухавіцкаму, Лепельскаму і Петрыкаўскаму райкомам КП(б)Б накіраваць у сельсоветы і калгасы актыў комуністаў для ўзмацнення на месцах падрыхтоўчай работы да з'езда рабселькораў. Падрыхтоўку да з'езда ўвязаць з барацьбой за паспяховае завяршэнне 1934 сельскагаспадарчага года.

4. Прапанаваць усім РК КП(б)Б абгаварыць становішча падрыхтоўкі да ўсебеларускага з'езда рабселькораў па райкомам і прыняць меры да актывізацыі работы, мабілізуючы рабселькораў і нізавы друк на барацьбу за лепшае выкананне промфінплана і ўсіх сельскагаспадарчых кампаній.

# Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б і палітсектара МТС НКЗБ

Асабістым азнаямленнем з работай палітаддзела Заслаўскай МТС і раённага камітэта партыі—нач. паліткіраўніцтва НКЗ СССР т. Левіным, сакратаром ЦК КП(б)Б тав. Гікало і нач. палітсектара МТС НКЗ Беларусі т. Ратнекам устаноўлена:

Райком і палітаддзел МТС не зразумелі ў правядзенні сельскагаспадарчых кампаній, што галоўнейшым звяном у справе арганізацыйна-гаспадарчага і палітычнага ўмацавання калгасаў з'яўляецца ўмацаванне слабых, адстаючых калгасаў, асабліва размешчаных на самай пагранпаласе.

У рабоце райкома і палітаддзела МТС пераважае агульны падыход да калгасаў, раўнанне на сярэднія лічбы, самасупакоенасць, аб чым сведчыць тая акалічнасць, што рад калгасаў не выканалі плана асенняй сяўбы і хлебаздачы дзяржаве („Новае жыццё", „Чырвоны партызан", „Беларусь" і т. д.).

Такая самасупакоенасць, кіраўніцтва наогул, няўменне сканцэнтраваць сваю работу на рашаючых участках тым больш недапушчальны, што па ўсіх даных (хлебаздача, пастаўка бульбы, закупка хлеба, работа па ільну) паказчыкі раёна ніжэй сярэдніх рэспубліканскіх, не гледзячы на тую спрыяючую акалічнасць, што процант калектывізацыі па раёну больш высокі, чым агульна-рэспубліканскі (агульна-рэспубліканскі 55 проц., па раёну—77,8 проц.).

Палітаддзел МТС і раённыя арганізацыі зусім недастаткова працавалі над тым, каб калгасы зоны МТС зрабіць сапраўды ўзорамі па арганізацыйна-гаспадарчаму і палітычнаму становішчу калгасаў. Раённыя арганізацыі і работнікі МТС адгарадзіліся адны ад другіх, падзяліўшы раён на дзве тэрыторыі: зону МТС і зону райза. Усё гэта гаворыць аб тым, што як раённыя арганізацыі, так і палітаддзел МТС не зразумелі рашэнняў студзеньскага пленума ЦК і пастановы ЦК ВКП(б) ад 15 чэрвеня аб перабудове работы па-новаму ў сувязі са стварэннем палітаддзелаў МТС і соўгасаў.

На фоне гэтых буйнейшых недахопаў работы асабліва недапушчальным з'яўляецца тое, што тэрыторыя МТС (двор, сядзіба) з'яўляецца ўзорам некультурнасці, а становішча канюшань, кароўніка, складскіх памяшканняў і ўборнай—узорам антысанітарыі. Такое становішча тым больш нецярпіма, бо ў гэтым-жа двары знаходзяцца палітаддзел, дырэкцыя МТС, майстэрня, рабачком, але ніхто з іх не паставіў задачу прывесці двор у парадак, а кіруючыя раённыя арганізацыі сталі ў становішча староннiх наглядальнікаў.

Дырэкцыя МТС і палітаддзел пры папушчэнні раённых арганізацый дапусцілі грубейшую палітычную памылку, ператварыўшы дагавор МТС з калгасамі, маючы сілу закона, у простую паперку. У дагаворы

работнікамі МТС, без ведама і зацверджання агульных сходаў калгаснікаў, унесена незлічоная колькасць паправак. Ні дырэкцыя МТС, ні калгас не прад'яўлялі ўзаемапрэтэнзій адна другому аб невыкананні вытворчых работ, тым самым калгасы прыкрывалі дрэнную работу МТС, а дырэкцыя МТС—калгасаў, якія несвоечасова выконвалі абавязацельствы па дагавору.

Раённыя арганізацыі і палітаддзел МТС, скардзячыся на недахват рабочых рук і цягла ў калгасах для паспяховага выканання гаспадарчых задач, замест сапраўднай арганізацыі працы ў калгасах і дысцыпліны ў самы напружаны час і лепшыя дні для капання бульбы, малацьбы і апрацоўкі лёну, наладжвалі кірмашы, выстаўкі, базары, адцягваючы гэтым калгаснікаў ад выканання сур'ёзнейшых работ, не церпячых ніякіх адкладванняў, што і сказалася ў тым, што на сёнешні дзень не прыступілі да апрацоўкі і здачы ільнавалакна, а таксама дрэнна выконваюцца іншыя работы.

Бюро ЦК КП(б)Б і палітсектар НКЗ адзначаюць зусім нездавальняючую работу палітаддзела МТС, дырэкцыі МТС, а таксама раённага камітэта партыі і ўсіх раённых арганізацый у справе выканання важнейшых дзяржаўных заданняў (адставанне па хлебаздачы, бульбапастаўках, зацягванне апрацоўкі і здачы ільнавалакна), зусім недастатковую арганізатарскую работу і ролю работнікаў палітаддзела МТС, дырэкцыі МТС і раённых арганізацый у пытанні дапамогі адстаючым калгасам, у асаблівасці калгасам, якія непасрэдна знаходзяцца ў пагранпаласе, а таксама адзначаюць выключна слабое разгортванне масава-растлумачальнай палітычнай работы сярод шырокіх слаёў калгаснікаў і аднаасобнікаў.

Бюро ЦК КП(б)Б і палітсектар НКЗ указваюць начальніку палітаддзела тав. Таміліну, сакратару райкома т. Хаскіну і дырэктару МТС т. Сукачу на іх асаблівую адказнасць за падобнае становішча як раёна ў цэлым, так і ў асаблівасці работы і кіраўніцтва калгасамі, абслугоўваемымі МТС, і патрабуюць на аснове гэтай пастановы і указанняў, даных на месцы, прыступіць да неадкладнага выпраўлення ўсіх адзначаных недахопаў і памылак у рабоце з тым, каб, сканцэнтраваўшы ўсе сілы і сродкі партыйна-совецкіх арганізацый, праўленняў калгасаў і калгаснікаў,—у бліжэйшы-ж час выцягнуць раён з прарыўнага, адстаючага на ўзровень перадавых.

**Сакратар ЦК КП(б)Б—Гікало**
**Нач. палітсектара МТС**
**НКЗ БССР—Ратнек.**

# Аб ходзе ільнапеньказагатовак

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

Не гледзячы на рад сур'ёзных папярэджанняў з боку ЦК і СНК усім райпартарганізацыям, і асабліва паасобным РК, як Расонскі, Ушацкі, Чашніцкі, Горадоцкі, Быхаўскі і інш., аб недастатковых тэмпах ільназагатовак і неабходнасці па-большэвіцку арганізаваць справу пярвічнай апрацоўкі і загатоўкі лёну, да гэтага часу прыметнага зруху няма. Горш таго, рэзультаты двух апошніх пяцідзёнак (прырост 5,6 проц.) з усёй відавочнасцю паказваюць, што ў справе ільназагатовак стварыўся самы недапушчальны самацёк у рэзультаце бяздзейнасці мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый.

Гэту сваю бяздзейнасць кіраўніцтва прабуе апраўдаць спасыланнямі на першачарговасць такіх работ, як хлебазакупка, капанне бульбы і інш., г. зн. ствараецца самая адкрытая антыпартыйная чарговасць. Усё гэта магло здарыцца толькі ў рэзультаце поўнай самасупакоенасці і прамой недаацэнкі значэння ільназагатовак у раёнах.

**ЦК і СНК адзначаюць**, што:

1

Найбольш неарганізавана і безадказна справа пярвічнай апрацоўкі і ільназагатоўкі пастаўлена ў раёнах Бялыніцкім, які выканаў на 5/X—2,4 проц., Ушацкім—7 проц., Лепельскім—8,2 проц., Крупскім 7,1 проц. ЦК і СНК абвяшчаюць вымову сакратару Бялынцкага РК т. **Рымша** і старшыні РВК т. **Сукала**, сакратару Ушацкага РК т. **Тарасевічу** і старшыні РВК т. **Лучына**, сакратару Лепельскага РК т. **Хіжынкову**, сакратару Крупскага РК т. **Міснікевічу** і старшыні РВК т. **Скараходу** і папярэджваюць іх, што калі наступная пяцідзёнка не дасць рашучага пералому ў ільназагатоўках, да іх будуць прыменены больш суровыя меры пакарання аж да зняцця з работы.

2.

Папярэдзіць сакратара Дубровенскага РК т. **Мышалава** і старшыню РВК т. **Мацко**, сакратара Талачынскага РК т. **Турыка**, і старшыню РВК т. **Федарэнчыка**, сакратара Гарадоцкага РК т. **Канавалава** і старшыню РВК т. **Сурба**, сакратара Чашніцкага РК т. **Марголіна** і старшыню РВК т. **Трызна** і сакратара Расонскага РК т. **Чумакова** і старшыню РВК т. **Партнова**, што далейшае адставанне іх у справе ільназагатовак пацягне за сабой найстражэйшае партыйнае пакаранне.

3.

Лічыць зусім недапушчальным адставанне ў ільназагатоўках такіх перадавых раёнаў, як Барысаўскі, Менскі, Слуцкі, Хойніцкі і інш. ЦК і СНК звяртаюць увагу партыйнага і савецкага кіраўніцтва гэтых раёнаў, а таксама і другіх (Гомель), якія лічаць сябе неільнаводнымі і плятуцца ў хвасце загатовак, што такія адносіны да справы ільназагатовак ЦК СНК могуць разглядаць, як прамую недаацэнку справы лёну з іх боку і патрабуюць неадкладнага выпраўлення работы, забяспечыўшы хуткае выкананне плана.

4.

Абавязаць РК, РВК, нач. палітаддзелаў МТС:

а) узяць у свае рукі арганізацыю работы ільнамяльных пунктаў у калгасах і пераапрацоўкі і здачы лёну аднаасобным сектарам;

б) не на словах, а на справе пераключыць для ручной апрацоўкі лёну не менш 50 проц. рабочай сілы ў калгасах, выкарыстаць поўнасцю ўсю наяўнасць ільнаапрацоўчых машын;

в) паўсямесна наладзіць работу дзесяцідворнікаў сярод аднаасобнікаў, абавязаўшы старшынь сельсоветаў штодзенным кіраўніцтвам работай гэтых дзесяцідворнікаў;

г) прымацаваць раённы актыў да ільнамяльных пунктаў адстаючых калгасаў з вялікім планавым заданнем.

5.

У адстаючых раёнах—Лепельскім, Ушацкім, Гарадоцкім, Чашніцкім, Крупскім, Дубровенскім, Бялыніцкім і Расонскім—ЦК і СНК ускладаюць персанальную адказнасць за арганізацыю работы на ільнамяльных пунктах у калгасах МТС—на дырэктароў МТС, а ў калгасах не МТС—на старшынь РВК. Даручыць НКЗ сістэматычны нагляд за іх работай з неадкладнай пастаноўкай у ЦК і СНК пытання аб неспраўляючыхся. Адклікаць з водпуску старшыню Лепельскага РВК т. Закоркіна. Затрымаць водпуск старшыні Расонскага РВК т. Партнова.

6.

Катэгарычна забараніць выкарыстанне хлеба і масла, прызначаных для персанальнага атаварвання здатчыкаў лёну на якія-б там ні было іншыя мэты. Белзаготільну неадкладна праверыць хаванне гэтых прадуктаў на раённых складах загатоўшчыкаў, а таксама парадак іх выкарыстоўвання, прыцягваючы да найстражэйшай адказна ці за разбазарванне, незаконныя выдачы або затрымку выдачы хлеба і масла ільназдатчыкам.

7.

ЦК і СНК указваюць дырэктару ільнатрэста т. Тарасаву, што яго няправільныя дырэктывы, даныя заводам аб парадку прыёмкі трасты, прывялі на радзе заводаў да прамых скрыўленняў у адносінах здатчыкаў ільнотрасты і затармазілі загатоўку, і прапануюць яму неадкладна выправіць дапушчаныя памылкі, забяспечыўшы нармальную работу па прыёмцы трасты ўстаноўленай нумарнасці.

Абавязаць т. Тарасава не пазней 12 кастрычніка закончыць рамонт астаўшыхся ільназаводаў і пуск іх у эксплаатацыю.

8.

ЦК і СНК абавязваюць Белзаготлён устанавіць сістэматычны нагляд і кантроль за работай заготпунктаў, праверку сапраўднага ведання справы і добрасумленнасці з боку работнікаў пунктаў у адносінах здатчыка і абслугоўвання здатчыка на пункце.

9.

Лічыць зусім недастатковай работу пярвічных партыйных арганізацый і парторгаў у справе арганізацыі апрацоўкі і здачы лёну асабліва сярод аднаасобнікаў.

ЦК і СНК абавязваюць вакол пытанняў пярвічнай апрацоўкі і загатоўкі ільнапянькі разгарнуць такія-ж метады масавай работы, якія прымяняліся па хлебапастаўках (аперацыйнасць, справаздачнасць, пасылка актыва ў дапамогу адстаючым, растлумачальная масавая работа і т. д.).

У асаблівасці неабходна арганізаваць соцспаборніцтва паміж калгасамі і сельсоветамі за хутчэйшую і добраякасную работу ільнамяльных пунктаў і ўдарніцтва паміж групамі і паасобнымі калгаснікамі і калгасніцамі, занятымі на ільне.

10.

ЦК і СНК ставяць на від нам. загадчыка Белсельгасснабам т. Урбановічу за тое, што ў радзе раёнаў усё яшчэ на складах астаюцца незабранымі калгасамі ільнаўборачныя машыны і за зусім недапушчальнае з яго боку кіраўніцтва справай адгрузкі ў раён частак ільнатрапальнай машыны Гарлачова.

Абавязаць т. Урбановіча ў пяцідзенны тэрмін размеркаваць усе машыны па калгасах і забяспечыць адпраўку астаўшыхся на заводах частак ільнатрапалкі Гарлачова па раёнах.

11.

ЦК і СНК лічаць зусім нездавальняючым кіраўніцтва справай пярвічнай апрацоўкі лёну з боку ільнаўпраўлення НКЗ і ўказваюць НКЗ на надзвычай слабую арганізатарскую ролю ў работах па ільну раённых зямельных упраўленняў і недастаткова аперацыйнае кіраўніцтва райза з боку НКЗ.

Абавязаць НКЗ умацаваць работу ільнаўпраўлення, ператварыўшы яго ў аперацыйны баявы орган НКЗ, моцна звязаны з месцамі, які здолеў-бы сістэматычна накіроўваць і кантраляваць справу лёну ў раёне і калгасе.

У прыватнасці абавязаць ільнаўпраўленне ў пяцідзенны тэрмін:

а) забяспечыць разварот работ усіх ільнэмяльных пунктаў у раёнах, якія ўваходзяць у зону дзейнасці ўпраўлення, і даць на старонках цэнтральнага друку паказ работы лепшых ільнамяльных пунктаў;

б) дабіцца неадкладнага завозу газы і лампы „Лятучая мыш" у пункты апрацоўкі лёну;

в) прасачыць за ходам зборкі ў раёнах ільнатрапалак Гарлачова і хутчэйшага ўводу іх у эксплаатацыю;

г) Наркамзему неабходна ўзмацніць адказнасць загадчыкаў райза і дырэктароў МТС у пытаннях аб ільне. У прыватнасці, праверыць работу загадчыкаў райза і дырэктароў МТС адстаючых ільнаводных раёнаў з пастаноўкай у ЦК і СНК пытання аб несправляючыхся.

12.

ЦК і СНК папярэджваюць т. Баскіна, што далейшая бяздзейнасць сістэмы Белкаапсаюза ў справе загатоўкі лёну нецярпіма. Абавязаць тав. Баскіна праверыць рад райсаюзаў з пункту погляду іх кіраўніцтва загатоўкамі лёну, камандзіраваўшы з гэтай мэтай адказных работнікаў Белкаапсаюза на месцы.

13.

Камандзіраваць у раёны: Лепельскі, Чашніцкі, Ушацкі— т. Бенека; Расонскі, Сіроцінскі, Полацкі— тав. Чарвякова; Гарадоцкі, Суражскі— т. Картукова: Крупскі, Талачынскі, Дубровенскі—т. Коніка; Бялыніцкі, Шклоўскі, Магілеўскі—т. Красоўскага; Горацкі, Мсціслаўскі—т. Кавальчука; Клічаўскі, Быхаўскі—т. Горына—для праверкі работы па ільну гэтых раёнаў і дапамогі ў арганізацыі справы хутчэйшага завяршэння плана ільнапеньказагатовак.

**Сакратар ЦК КП(б)Б—Гікало**
**Нам. старшыні СНК БССР—Саак'ян.**

Галоўлітбел № 5165.
Тыраж 9025
373.240 друк. зн. ($6^3/_4$)
Здана ў друк 22/X—34 г.
Падпісана да друку 4/XI—34 г.

*Рэдкалегія*: **Мінкін (адк. рэдактар)**, **Конік**, **Злоткін**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 1278.

**ЦАНА 25 кап.**

# ВЫДАВЕЦТВА ЦК КП(б)Б „ЗВЯЗДА“

**Менск, Чырвонаармейская, ЦК КП(б)Б, пакой 105.**

ЧАСОПІС

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“

**ОРГАН ЦК КП(б) Б.**

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні.

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў МТС і соўгасаў, іх барацьбу за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**Б. Б.** асвятляе работу палітаддзелаў транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад імі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раёнаў, прадпрыемстваў, паасобных парт'ячэек на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу соўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач, высунутых партыяй.

**Б. Б.** увёў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканамічных, агратэхнічных і інш.

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы partактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзённай рабоце партарганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва як для парткомаў і ячэек, так і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ“ на 1934 год

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| 24 нумары ў год | На год Р. | На год К. | На 6 м-цаў Р. | На 6 м-цаў К. | На 1 м-ц Р. | На 1 м-ц К. | Кошт аднаго нумара |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 6 | — | 3 | — | — | 50 | 25 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газетаносцамі.